# МАСТАЦТВА

«ART» MAGAZINE

11 /2018
ЛІСТАПАД




БЕЛАРУСКІЯ ЖЫХАРЫ ПАРЫЖСКАГА «ВУЛЛЯ» • LES HABITANTS BÉLARUSSES DE «LA RUCHE» PARISIENNE
ШПАЦЫР ПА ПАРЫЖЫ ПА-БЕЛАРУСКУ • DES PROMENADES À PARIS À LA BÉLARUSSE
У ФРАНЦЫЮ СА СВАЁЙ ВІЯЛАНЧЭЛЛЮ • EN FRANCE AVEC SON VIOLONCELLE
ЛЕПШЫЯ ФОТАПАРТРЭТЫ РАДЭНА • LES MEILLEURS PORTRAITS PHOTO DE RODIN

16+





Выстава «Вакол Суціна» была арганізавана мэрыяй горада Лё Блан і праходзіла пад патранатам Пасольства Беларусі ў Францыі пры падтрымцы беларускага фонду «Спадчына і час» і галерэі «Кніжны салон» з Мінска. На выставе былі працы разнастайных мастакоў, у тым ліку прадстаўнікоў беларускай школы выяўленчага мастацтва: Аксаны Аракчэевай, Ілоны Касабука, Уладзіслава Пятручыка, Дзмітрыя Сурыновіча і Валянціны Шобы.

L'exposition «Autour de Soutine» a été organisée par la ville du Blanc sous le haut patronage de l'Ambassade du Bélarus en France avec le soutien de la Fondation bélarusse «Patrimoine et Temps» et la galerie «Salon du livre» de Minsk. L'exposition présentait des tableaux de divers artistes, y compris des représentants de l'école bélarusse des beaux-arts: Aksana Arakcheeva, Ilona Kasabuka, Uladzislau Petruchyk, Dmitry Surinovich et Valentina Shoba.

**Дзмітрый Сурыновіч. Хаім Суцін. Акрыл. 2015.**
Dmitry Surinovich. Chaïm Soutine. Acrylique. 2015.

**Саламон Тэйтэльбаум. Чырвоныя гладыёлусы (Памяці Х. Суціна). Алей. 2016.**
Salomon Teytelbaum. Glaïeuls rouges (en hommage à Ch. Soutine). Huile. 2016.

**ЗАСНАВАЛЬНІК ЧАСОПІСА** –
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Выдаецца са студзеня 1983 года. Рэгістрацыйнае пасведчанне №638 выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Спецыялізацыя (тэматыка) – грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая.

**ВЫДАВЕЦ** –
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «КУЛЬТУРА І МАСТАЦТВА»
**Дырэктар** ІРЫНА АЛЯКСЕЕЎНА СЛАБОДЗІЧ
**Першы намеснік дырэктара** ЛЮДМІЛА АЛЯКСЕЕЎНА КРУШЫНСКАЯ



**РЭДАКЦЫЯ:**
**Галоўны рэдактар** АЛЕНА АНДРЭЕЎНА КАВАЛЕНКА
**Намеснік галоўнага рэдактара** Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ,
**рэдактары аддзелаў** Алеся БЕЛЯВЕЦ, Таццяна МУШЫНСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Антон СІДАРЭНКА, **мастацкі рэдактар** Вячаслаў ПАЎЛАВЕЦ, **літаратурны рэдактар** Лідзія НАЛІЎКА, **фотакарэспандэнт** Сяргей ЖДАНОВІЧ, **набор:** Іна АДЗІНЕЦ, **вёрстка:** Аксана КАРТАШОВА.



**На першай старонцы вокладкі: Шрага Царфін. Дзяўчаты сярод кветак. Гуаш, алей. 1965. Уласнасць фонду «Спадчына і час».**
Sur la couverture du magazine: Schraga Zarfin. Les fillettes parmi des fleurs. Gouache et huile. Propriété de la fondation «Patrimoine et Temps».

**Пераклад на французскую мову –**
Уладзімір МАЛЕВІЧ і Марыя МАЛЕВІЧ.
**Traduction en français –**
Vladimir MALEVICH et Maria MALEVICH.

**Адрас выдавецтва і рэдакцыі:**
220013, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 77, пакой 409, 4 паверх. Тэлефон 292-99-12, тэлефон/факс 334-57-35 (бухгалтэрыя). www.kimpress.by/mastactva. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор прыведзеных фактаў, а таксама за змешчаныя даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтараў. Падпісана ў друк 19.11.2018. Фармат 60х90 1/8. Папера мелаваная. Друк афсетны. Гарнітура «PT Sans Narrow». Ум. друк. арк. 7,0. Ум.-выд. арк. 11,78. Тыраж 890. Заказ 2754. Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"». 220013, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. E-mail: art_mag@tut.by.


1.

# Час збіраць камяні

**ІНТЭРВ'Ю НАДЗВЫЧАЙНАГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ФРАНЦУЗСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ ПАЎЛА ЛАТУШКІ**

# Le temps est venu pour ramasser des pierres

INTERVIEW DE PAVEL LATUSHKA, AMBASSADEUR EXTRAORDINAIRE ET PLÉNIPOTENTIAIRE DE LA RÉPUBLIQUE DU BÉLARUS EN RÉPUBLIQUE FRANÇAISE

**Культура ў сённяшнім свеце выступае гуманітарнай процівагай сацыяльным і палітычным канфліктам. Вы неаднаразова звярталіся да словаў Шарля дэ Голя аб важнасці пабудовы прасторы агульнай Еўропы ад Лісабона да Урала. А якое месца займае Беларусь у агульнаеўрапейскай культурнай прасторы?**

— Беларусь заўсёды з'яўлялася часткай еўрапейскай гісторыі, безумоўна і агульнаеўрапейскага культурнага абшару. Прадстаўнікі беларускай знаці, беларускай эліты фармавалі каралеўскія дынастыі.

Вялікае Княства Літоўскае грала вельмі значную ролю ў палітычным жыцці Еўропы. Застаецца толькі зразумець, чым з'яўляліся беларускія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Бясспрэчна, мы, беларусы, шмат у чым акрэслівалі развіццё Княства. Калі статуты ВКЛ былі напісаны на старабеларускай мове, а фактычна Трэці статут 1588 года з'явіўся праваобразам першай канстытуцыі Еўропы, чаму мы не павінны гэтым ганарыцца і чаму аб гэтым мы не павінны расказваць нашым партнёрам?

Мы пакінулі след у сусветнай культурнай прасторы і дзякуючы вялікім постацям, якія нарадзіліся на беларускай зямлі. Гэта, зразумела, і Шагал, Суцін,

**La culture dans le monde actuel sert de contrepoids aux conflits sociaux et politiques. Vous avez évoqué à plusieurs reprises les paroles de Charles de Gaulle sur l'importance de construire une Europe de Lisbonne à l'Oural. Et quelle place le Bélarus occupe-t-il dans l'espace culturel européen?**

— Le Bélarus a toujours fait partie de l'histoire européenne et, évidemment, de l'espace culturel européen. Des représentants de la noblesse biélorusse, de l'élite biélorusse formaient des dynasties royales.

Le Grand-duché de Lituanie jouait un rôle important dans la vie politique de l'Europe. Il nous reste à comprendre ce que représentaient les terres biélorusses au sein du Grand-duché de Lituanie. Sans doute, nous autres Biélorusses, nous déterminions le développement du Grand-duché dans beaucoup de choses. Si les statuts du Grand-duché de Lituanie étaient rédigés en langue biélorusse ancienne, et de facto le Troisième statut 1588 fut le prototype de la première constitution en Europe pourquoi nous ne devons pas en être fiers et pourquoi ne pas en parler à nos partenaires? Nous avons laissé une trace dans l'espace culturel mondial et grâce aux grands hommes qui étaient nés sur le sol biélorusse. Ce sont, évidemment, Chagall, Soutine, Zadkine, Domeyko

Цадкін, Дамейка, звязаныя і з французскай гісторыяй. Гэта прозвішча «Дастаеўскі», што паходзіць з беларускай зямлі. Гэта шмат выбітных пісьменнікаў і паэтаў нашай краіны: Міцкевіч, і Купала, і Колас, і Багдановіч, і Караткевіч, і Быкаў. Культуру ствараюць канкрэтныя людзі, асобы, і пераацаніць ролю асобы ў фармаванні культуры нацыі немагчыма.

Праект «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока», ідэя якога нарадзілася ў сталіцы Партугаліі, з'яўляецца сімвалічным, але і канкрэтным праектам, праз яго мы даводзім, што сёння варта будаваць абшар без межаў, не падзяляць, а аб'ядноўваць, нягледзячы на тое, што мы належым да розных дзяржаў, да розных нацый, народаў і рэлігійных канфесій. Дзякуючы гэтаму праекту нараджаюцца новыя. У гэтыя дні мы сумесна з Нацыянальным гістарычным музеем РБ адкрылі ў Парыжы выставу «Беларусь. Рэлігія. Талерантнасць». Выстава прысвечана міжканфесійнаму міру, міжнацыянальнай згодзе, якая пануе стагоддзямі на тэрыторыі Беларусі, і наша зямля з'яўляецца прыкладам мірнага суіснавання прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей і канфесій, што вельмі важна для пабудовы сённяшняга свету, які, на жаль, усе больш і больш паглыбляецца ў крызісныя з'явы.

**Культурная дыпламатыя — гэта ў пэўнай ступені продаж наратыву аб краіне. Вобраз якой Беларусі нам трэба трансляваць для замежнікаў?**

— Мы настолькі «багатая нацыя», што гатовыя адмовіцца ад сваіх дзеячаў культуры. Мы, можна сказаць, падарылі шмат дзеячаў і культурных падзей нашым суседзям. Перакананы, што прыйшоў час «збіраць камяні». Сёння Беларусь — незалежная дзяржава, і мы павінны разумець непарыўнасць нашай гісторыі. У ёй былі драматычная перыяды развіцця, але яна не з'явілася ўчора. Гэта гісторыя стагоддзяў і тысячагоддзяў. Вось гэта важна разумець, калі мы хочам думаць аб будучыні сваёй дзяржаўнасці. Над гэтым павіны працаваць як сфера адукацыі, так і сфера культуры, якія фактычна з'яўляюцца падмуркам ідэалогіі. Прэзентацыя культуры — адзін з важных інструментаў, які выкарыстоўваецца сучаснай дыпламатыяй. Гэта сфера найбольш успрымаецца тымі, хто хацеў бы даведацца аб іншай краіне, аб працэсах фармавання і станаўлення нацыі і дзяржаўнасці. Беларуская культура складаецца з гісторыі і сучаснасці — гэта той інструмент, які мы павінны больш шырока, сістэмна і маштабна выкарыстоўваць для прасоўвання Беларусі ў свеце. Праз культуру мы можам стварыць брэнд успрымання нашай краіны за мяжой.

**У чым заключалася ваша асабістая стратэгія прэзентацыі беларускай культуры французскаму грамадству? З якімі цяжкасцямі вы сутыкнуліся на гэтым шляху?**

— Нягледзячы на больш чым 25-гадовую гісторыю сучаснай незалежнасці Беларусі, французы да гэтай пары не асацыююць нас з Еўропай. Калі мы хочам штосьці змяніць, нам неабходна расказваць і прадстаўляць саміх сябе — мы частка еўрапейскай сям'і. Беларусь не ўваходзіць у склад Еўрапейскага саюза і не ставіць на сённяшнім этапе перад сабой гэтую знешнепалітычную мэту, але жыццё еўрапейскай сям'і не акрэсліваецца выключна палітычнымі межамі, гэта больш шырокая прастора. Немагчыма сцвярджаць, што толькі тыя краіны, якія належаць да ЕС, маюць права называцца еўрапейскімі. Мы таксама з'яўляемся еўрапейскай дзяржавай з моманту нашага нараджэння, бо тэрытарыяльна і ментальна мы знаходзімся ў Еўропе. Французскае грамадства не гатовае ініцыятыўна ісці да таго, каб даведвацца пра народы і краіны,якія атрымалі незалежнасць пасля распаду Савецкага Саюза. Таму наша задача — больш актыўна і сістэмна расказваць пра сябе, у тым ліку праз правядзенне дзён культуры, музычных, тэатральных прэзентацый, выстаў, канцэртаў і разнастайных падзей.

**Наколькі важную ролю адыгрывае культурная дзейнасць беларускай дыяспары ў Францыі?**

— Воляю лёсу шмат беларусаў у розныя гістарычныя перыяды апынуліся за межамі нашай Бацькаўшчыны. Па дадзеных розных даследаванняў, беларуская дыяспара ў свеце — ад 2,5 да 3,5 мільёнаў чалавек. Уяўляецца, што яна сфармавалася з пяці асноўных складнікаў: эмігранты з тэрыторыі Беларусі канца XIX — пачатку XX стагоддзя; эмігранты часоў Другой сусветнай вайны; эмігранты з 1990-х; мігранты ўнутры СССР; карэнныя беларускія меншасці, якія пражываюць у Латвіі, Літве, Польшчы, Расіі і Украіне, у рэгіёнах, памежных з Рэспублікай Беларусь.

qui sont liés à l'histoire française. C'est le nom Dostoïevski qui est originaire du territoire de Bélarus. Ce sont de nombreux célèbres écrivains et poètes de notre pays: Mickiewicz, Kupala, Kolas, Bogdanovich, Karatkevich, Bykov. Ce sont des gens bien concrets qui créent la culture, et on ne peut pas surestimer le rôle de la personnalité dans la formation de la culture d'une nation. Le projet «De Lisbonne en passant par Minsk jusqu'à Vladivostok» dont l'idée était née dans la capitale portugaise, est un projet symbolique mais bien concret, par ce projet nous faisons comprendre qu'aujourd'hui il faut construire un espace sans frontières, il ne faut pas diviser mais unir malgré le fait que nous appartenons à des pays différents, à des nations et religions différentes. Grâce à ce projet, de nouveaux projets naissent. Ces jours-ci, nous avons inauguré à Paris conjointement avec le Musée national d'histoire de la République du Bélarus une exposition «Bélarus. Religion. Tolérance». L'exposition est consacrée à la paix entre les confessions, à l'entente entre les nations qui existent depuis des siècles sur le territoire du Bélarus, et notre pays sert d'exemple de coexistence pacifique des représentants de différentes nations et confessions, ce qui est très important pour la construction du monde moderne qui, malheureusement s'enfonce dans des crises.

**La diplomatie culturelle c'est dans une certaine mesure la vente du récit sur le pays. L'image de quel Bélarus il faut retransmettre aux étrangers?**

— Nous sommes «une nation riche» à tel point que nous sommes prêts à renoncer à nos hommes de culture. Nous, pour ainsi dire, avons offert beaucoup de personnalités et d'événements culturels à nos voisins. Je suis certain, le temps est venu pour «ramasser des pierres». Aujourd'hui, le Bélarus est un pays indépendant, et nous devons comprendre la continuité de notre histoire. Elle a connu des périodes de développement dramatiques, mais elle ne date pas d'hier. C'est une histoire séculaire et même millénaire.

Voilà ce qu'il faut comprendre, si nous voulons penser à l'avenir de notre État. C'est ce dont doivent s'occuper les institutions d'éducation et de culture qui sont en réalité le fondement de l'idéologie.

La présentation de la culture est un des outils importants utilisé par la diplomatie contemporaine. Cette sphère est plus facile à comprendre pour ceux qui aimeraient en savoir plus sur notre pays, sur les processus d'émergence et de formation de la nation et de l'État. La culture biélorusse est composée deu passe et du présent, c'est l'instrument que nous devons utiliser plus large, systématiquement et à plus grande échelle pour promouvoir le Bélarus dans le monde. A travers la culture, nous pouvons créer une marque d'image pour la perception de notre pays à l'étranger.

**En quoi votre propre stratégie de présentation de la culture biélorusse à la société française consistait-elle? Quelles difficultés avez-vous rencontrées sur ce chemin?**

— Malgré une histoire longue plus de 25 ans depuis l'indépendance du Bélarus, les Français ne nous associent pas jusqu'à présent à l'Europe. Si nous voulons changer quelque chose, nous devons parler de nous-mêmes et nous présenter comme une partie de la famille européenne. Le Bélarus ne fait pas partie de l'Union Européenne et ne se pose pas à ce stade cet objectif de politique étrangère, mais la vie de la famille européenne ne s'arrête pas aux frontières politiques, c'est un espace plus large. Il n'est pas correct de dire que seulement les pays qui font partie de l'UE ont le droit de s'appeler européenes. Nous sommes aussi un pays européen dès notre naissance, car territorialement et mentalement nous nous trouvons en Europe. La société française n'est pas prête à aller, à sa propre initiative, jusqu'à en apprendre plus sur les pays qui sont devenus indépendants après l'éclatement de l'Union Soviétique. Donc, notre tâche est de parler de nous, de manière plus active et systémique, y compris par l'organisation de journées de la culture, de manifestations musicales et théâtrales, d'expositions, de concerts et d'événements de toute sorte.

**A quel point le rôle des activités culturelles de la diaspora biélorusse en France est-il important?**

— Au gré du destin, beaucoup de Biélorusses se sont retrouvés, à de diverses périodes historiques, hors de notre Patrie. Selon différentes estimations, la diaspora biélorusse dans le monde compte de 2,5 à 3,5 millions de personnes.

Шмат хто з нашых суайчыннікаў здабыў славу за мяжой, стаў сусветна вядомым. Сярод беларусаў замежжа славутыя палітыкі, эканамісты, навукоўцы, мастакі, пісьменнікі, музыканты, акцёры, рэжысёры... Калі я пачну пералічваць усе імёны, маё інтэрв'ю можа не змясціцца і ў некалькіх нумарах часопіса. Таму толькі нагадаю, што мінімум 15 лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі маюць беларускія карані.

З часоў Сярэднявечча беларусы пераязджалі жыць і ў Францыю. Прыкладам таму служыць размешчаная ў І-й акрузе Парыжа вуліца Радзівіл, названая так у гонар палаца князёў Радзівілаў, які размяшчаўся на ёй у XVIII стагоддзі.

Шматлікія сусветна вядомыя беларусы пражывалі ў Францыі ў XIX стагоддзі: Дамейка, Міцкевіч, Касцюшка, Орда, Ваньковіч, Агінскі ды іншыя. Асобна варта вылучыць цэлую плеяду зорак Парыжскай школы жывапісу першай паловы XX стагоддзя: Шагал, Цадкін, Суцін, Кікоін, Любіч, Царфін ды іншыя.

Цяпер у Францыі пражывае больш за 6000 прадстаўнікоў беларускай дыяспары, каля 300 беларускіх студэнтаў навучаюцца ў гэтай краіне. За апошнія шэсць год беларуская дыяспара ў Францыі стала больш актыўнай, яе дзейнасць набыла сістэмны характар, аб чым сведчыць як колькасць грамадскіх арганізацый, створаных беларусамі ў Францыі, так і колькасць мерапрыемстваў, што праводзяцца пры ўдзеле гэтых арганізацый. Зараз у Францыі дзейнічае дзевяць грамадскіх беларуска-французскіх арганізацый, якія займаюцца развіццём супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў розных сферах, перш за ўсё ў гуманітарнай.

Так, у апошнія гады ў Францыі на штогадовай аснове праводзяцца Дні беларускай культуры, Беларускія музычныя сезоны, Беларускія тэатральныя сезоны, арганізуюцца экспазіцыі беларускіх мастакоў на міжнародным салоне «Art Capital» у Гранд-Пале і міжнароднай выставе «Восеньскі салон» на Елісейскіх палях, адноўлена святкаванне старадаўніх беларускіх традыцый Купалля, Калядак і Дзядоў. Пры падтрымцы дыяспары арганізавана выступленне ў Францыі дзяржаўных ансамбляў «Песняры» і «Харошкі», шэрагу іншых песенных і танцавальных калектываў. Беларуская дыяспара з 2014 года актыўна падтрымлівае ініцыятыву пасольства аб правядзенні напярэдадні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь на плошчы Тракадэро ў Парыжы акцыі «Заспяваем Гімн Беларусі разам». З 2017 года гэтая акцыя таксама праводзіцца ў Ліёне.

Дзейнасць дыяспары ў сферы культуры спрыяе лепшаму разуменню Беларусі французамі і фармуе пазітыўны імідж нашай краіны за мяжой. За апошнія гады найбольш актыўныя прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Францыі былі ўганараваны дзяржаўнымі і ведамаснымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь, сярод іх медалямі Францыска Скарыны — Аркадзь Валадось і Георгій Сасноўскі.

**З сотні мерапрыемстваў, зладжаных пасольствам за перыяд з 2013 па 2018 гады, якімі вы найбольш ганарыцеся, якія сталі самымі знакавымі і значнымі? Як змянілася ўяўленне французаў пра Беларусь і беларускую культуру?**

— Мы насамрэч рэалізавалі сотні праектаў за гэтыя шэсць год. Некаторыя былі маштабнымі, некаторыя — кропкавымі. Але нават адносна невялікі праект, як, напрыклад, правядзенне выставы аднаго беларускага мастака ў Парыжы, патрабуе шмат працы, не заўсёды бачнай звонку: мастак — пляцоўка — пазабюджэтнае фінансаванне — даставіць творы — правесці рэкламу — запрасіць на адкрыццё — арганізаваць цырымонію. Паміж працяжнікамі таксама дзеянні. Наўмысна спыніўся на невялікім праекце, каб у чытачоў было ўяўленне аб тым, колькі неабходна намаганняў, каб арганізаваць па-сапраўднаму вялікі праект.

Бадай, самым запамінальным стаў першы маштабны праект — паказ у Парыжы спектакля Купалаўскага тэатра «Пан Тадэвуш» паводле паэмы Адама Міцкевіча. Уявіце: вялікая трупа, шмат касцюмаў і дэкарацый (тры фуры) — і вялікія фінансавыя выдаткі, на якія не было выкарыстана ніводнага рубля з бюджэтных грошай. Але калі на спектакль прыйшло каля 700 чалавек, поўны зал, і па заканчэнні ўсе яны стоячы віталі артыстаў — вось у такі момант разумееш: працаваў не дарма.

Былі і іншыя буйныя праекты, як, напрыклад, Нацыянальны павільён на Канскім кінафестывалі сумесна з «Беларусьфільмам» чатыры гады запар,


2.


3.



4.


5.


6.


7.


8.


9.

La diaspora est constituée de cinq composantes: émigrés du territoire de Bélarus fin XIX-début XX siècle(s); émigrés de la Deuxième guerre mondiale; émigrés des années 1990; migrants à l'intérieur de l'URSS; minorités biélorusses natives de Lettonie, Lituanie, Pologne, Russie et Ukraine qui vivent dans les régions limitrophes de la République du Bélarus.

Beaucoup de nos compatriotes se sont acquis de la gloire, sont devenus mondialement célèbres. Parmi les Biélorusses de l'étranger il y a de célèbres hommes politiques, économistes, scientifiques, peintres, écrivains, musiciens, acteurs, metteurs en scènes... Si je me mets à énumérer tous les noms, il faudra plusieurs numéros du magazine pour pouvoir contenir mon interview. C'est pourquoi je me contenterai de rappeler qu'au minimum 15 lauréats du prix Nobel ont des racines biélorusses.

Depuis le Moyen-Âge, des Biélorusses venaient en France pour s'y installer. La rue Radziwiłł dans le 1er arrondissement de Paris, qui tient son nom du palais des princes Radziwiłł qui s'y trouvai au XVIII siècle, en est la preuve.

Beaucoup de Bélorusses mondialement connus vivaient en France au XIX siècle: Domeyko, Mickiewicz, Kościuszko, Orda, Wańkowicz, Ogiński et d'autres. Il convient d'évoquer à part toute une Pléiade de célèbres peintres de l'école de Paris de la première moitié du XX siècle: Chagall, Zadkine, Soutine, Kikoïne, Lubitch, Zarfin...

Actuellement, plus de 6000 représentants de la diaspora biélorusse vivent en France, environs 300 étudiants biélorusses y font leurs études. Ces dernières six années, la diaspora biélorusse en France est devenue plus active, ses activités se caractérisent par une approche systémique dont témoigne le nombre d'associations créées et de manifestations organisées par ces associations. À présent, en France il y a neuf associations franco-biélorusses, qui s'occupent du développement de la coopération entre les deux pays dans de différentes sphères, avant tout humanitaire.

Ainsi, ces dernières années, les Journées de la culture biélorusse, les Saisons musicales biélorusses, les Saisons théâtrales biélorusses, des expositions de peintres biélorusses au Salon international «Art Capital» au Grand Palais et au «Salon d'automne» sur les Champs Elysées sont organisées en France sur une base pluriannuelle, la célébration des anciennes traditions biélorusses La nuit de Kupala, Koliada et Dziady a été reprise. Avec le soutien de la diaspora, on a organisé en France des concerts des ensembles nationaux «Pesniary» et «Kharoshki», d'un nombre d'autres groupes de danse et de chant. Depuis 2014, la diaspora biélorusse soutient activement l'initiative de l'Ambassade d'organiser à la veille de la célébration du Jour de l'Indépendance de la République du Bélarus une action sur la place du Trocadéro à Paris «Chantons l'hymne national ensemble». Depuis 2017, la même action est organisée à Lyon aussi.

Les activités de la diaspora dans le domaine de la culture favorisent une meilleure compréhension du Bélarus par les Français et forment une image positive de notre pays à l'étranger. Ces six dernières années, des représentants de la diaspora biélorusse en France les plus actifs ont été décorés de décorations nationales et ministérielles de la République du Bélarus, parmi eux Arkadi Volodos et Georges Sosnovski décorés de la médaille Fransisc Skaryna.

**Des centaines de manifestations organisées par l'Ambassade durant 2013–2018, desquelles êtes-vous le plus fier, lesquelles ont été les plus remarquables et importantes? Comment a évolué la perception du Bélarus et de la culture biélorusse par les Français?**

– En effet, nous avons réalisé des centaines de projets durant ces six années. Certains étaient grandioses d'autres – ponctueles. Mais même un projet relativement petit, disons, l'organisation d'une exposition d'un peintre biélorusse à Paris demande beaucoup de travail qui n'est pas toujours visible de l'extérieur: peintre – plateau – fonds extrabudgétaires – transport des oeuvres – organisation d'une publicité – invitation à l'inauguration – organisation de la manifestation elle-même. Entre les traits d'union, également des actions. J'ai choisi exprès un petit projet pour que les lecteurs puissent se faire une idée de combien d'efforts il faut entreprendre pour organiser un véritable grand projet.

«Баль Агінскага» ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА сумесна з Мірскім замкам, гастролі «Харошак», але менавіта прадстаўленне беларускай драматургіі ў Парыжы, той поспех, з якім гэта прайшло, — гэтыя ўспаміны застануцца са мной назаўжды.

Кажучы пра ўспрыманне французамі беларускай ды іншых культур, трэба разумець — французы «франкацэнтрычныя». У іх ёсць свой славуты кінематограф, славутыя музыканты, мастакі, скульптары, пісьменнікі. Тым не менш бачная тэндэнцыя: чым больш мы праводзім мерапрыемстваў па прадстаўленні беларускай культуры ў Францыі, тым больш менавіта французаў наведвае іх, а за гэтыя гады — сотні тысяч.

**Вы шмат увагі надаяце беларуска-французскаму рэгіянальнаму супрацоўніцтву. Якія паспяховыя гісторыка-культурныя праекты ў гэтай сферы вы маглі б адзначыць?**

— Культура і культурныя падзеі не павінны канцэнтравацца толькі ў сталіцах. Таму важна працаваць з рэгіянальнымі музеямі. Напрыклад, галоўным момантам канцэпцыі першага ўдзелу ў 2015 годзе беларускай дэлегацыі ў выставе «Art Capital» у Гранд-Пале ў Парыжы было прадстаўленне беларускіх мастакоў з усіх рэгіёнаў Беларусі.

І тут адбылася вельмі цікавая гісторыя. Пры падрыхтоўцы выставы мы згубілі кантакт са скульптарам Сяргеям Парцянковым з Гомеля. Зноў адшукалі пры дапамозе дырэктара гомельскага цырка. Але, калі мастак скончыў скульптуру, ужо не было часу на транспарціроўку твора з пап'е-машэ ў Парыж. Дамовіліся з кіраўніцтвам «Белавіа» аб магчымасці яе перавозкі бізнэс-класам на самалёце авіякампаніі. У дзень адкрыцця выставы работа прыляцела ў Парыж, супрацоўнік пасольства сустрэў яе як вельмі важнага госця прама ля трапа самалёта і адразу адвёз у Гранд-Пале. Праз некалькі дзён — я быў у камандзіроўцы ў Марсэлі — мне патэлефанавалі з Парыжа і паведамілі, што гэтая «шматпакутная» скульптура атрымала адзін з самых прэстыжных прызоў выставы — прэмію асацыяцыі барона Тэйлара.

Больш чым палова з нашай працы праходзіць у французскіх рэгіёнах. І тут зноў нельга не згадаць падтрымку нашай дыяспары. Дзякуючы нашым актывістам мы рэгулярна ладзім канцэрты, выставы, выступленні тэатраў, арганізуем правядзенне старажытных беларускіх свят і іншае ў Ліёне, Бардо, Клермон-Ферane, Канах, Тулузе, Грэноблі, Авіньёне, Страсбургу, Сент-Мало, Мужэне, у шматлікіх невялічкіх гарадах Праванса, Бургундыі, Даліны Луары…

**Пасольства Беларусі ў Францыі ладзіць шмат мерапрыемстваў і ў Беларусі. Якія з іх былі найбольш запамінальнымі?**

— Галоўнай мэтай для пасольства павінна быць прадстаўленне сваёй краіны за мяжой, але мне ўяўляецца, што наша дапамога ў прэзентацыі французскай культуры ў Беларусі ўзбагачае і нас, беларусаў. Важнай з'яўляецца і рэалізацыя сумесных беларуска-французскіх арт-праектаў у Беларусі. Яшчэ адзін кірунак — паказваць у Беларусі творы выхадцаў з беларускай зямлі, якія праславілі два нашы народы.

Культуры Беларусі і Францыя шчыльна звязаны на працягу стагоддзяў. Так, напрыклад, першыя балетныя школы на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі заснаваны 260 год таму ў Нясвіжы і Слуцку славутым французскім танцорам і балетмайстрам Луі Дзюпрэ. Па нашай ініцыятыве і пры падтрымцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, музея-запаведніка «Нясвіж» і пад патранатам Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА ў бягучым годзе ў Мінску і Нясвіжу адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Беларускі балет у сусветнай культурнай прасторы», фактычна першы (па словах Валянціна Елізар'ева) міжнародны погляд у гісторыю беларускага балета. Нашаму балету 260 год! І гэта мы ўжо задакументавалі для навукоўцаў і аматараў.

Мы арганізавалі шмат сумесных выстаў беларускіх і французскіх мастакоў у Беларусі, гэта і ўдзел французскіх мастакоў у «Восеньскіх салонах з Белгазпрамбанкам», і выставы французскіх удзельнікаў «Art Capital», выстава знакамітага беларускага мастака Рамана Заслонава, які пражывае ў Францыі, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Гомелі, Віцебску і Оршы, выстава Алены Вентрыён у Вялікім тэатры Беларусі, прысвечаная балету, ды іншыя.

У 2016 годзе ў Мінску была арганізавана сумесная прэзентацыя беларускай і французскай высокай кухні з удзелам знакамітага інстытута французскай кухні «Бакюз» з Ліёна.

Peut-être, le plus remarquable premier grand projet c'était la présentation à Paris du spectacle «Pan Tadeusz» d'après le poème éponyme d'Adam Mickiewicz. Figurez-vous: une grande troupe, beaucoup de costumes et de décors (trois camions) et de grandes dépenses financières et pas un rouble des ressources budgétaires. Mais lorsque 700 personnes sont venues voir le spectacle, une salle comblée, et à la fin du spectacle; tous ces gens applaudissaient debout les acteurs — alors en ce moment-là on comprend qu'on n'a pas travaillé pour rien.

Il y a eu également d'autres grands projets, comme par exemple, un stand de Bélarus au Festival de Cannes conjointement avec «Belarusfilm» quatre ans de suite, le «Bal d'Oginski» au siège de l'UNESCO conjointement avec le château de Mir, la tournée de «Kharoshki», et justement, les représentations de la dramaturgie biélorusse, le succès qu'elles ont eu, je garderai ces souvenirs toujours.

Pour ce qui concerne la perception de la culture biélorusse et d'autres cultures par les Français il faut comprendre que les Français sont «francocentriques». Ils ont leurs célèbre cinématographe, célèbres musiciens, peintres, sculpteurs, écrivains. Et, pourtant, il y une tendance visible — plus nous organisons de manifestations culturelles en France, plus de Français viennent les voir,  et durant ces années ils se comptent par centaines de milliers.

**Vous accordez beaucoup d'attention à la coopération régionale franco-biélorusse. Quels projets historiques et culturels marquants dans cette sphère pouvez-vous citer?**

— La culture et les événements culturels ne doivent pas se concentrer uniquement dans les capitales. C'est pour cela qu'il est important de travailler avec les musées régionaux. Par exemple, le moment principal de la conception de la première participation en 2015 d'une délégation biélorusse à l'exposition «Art Capital» au Grand Palais à Paris était la participation de peintres biélorusses de toutes les régions du Bélarus.



У рамках прызнання ў свеце даробку беларускай культуры мы ініцыявалі ўручэнне ўзнагарод ЮНЕСКА. Так, у 2015 годзе медаль «Пяць кантынентаў» была ўручана Вялікаму тэатру Беларусі, у 2016 годзе медалі «Віктор Гюго» і дыпломы Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА атрымалі Тамара Ніжнікава, Расціслаў Янкоўскі і Генадзь Аўсяннікаў, а ў наступным – Валянцін Елізар'еў і Ігар Лучанок.

**Вы рэалізуеце сапраўды вельмі шмат праектаў, пераважная большасць з якіх без бюджэтнага фінансавання. Як вам удаецца знаходзіць сродкі на гэтую дзейнасць?**

– Сёння немагчыма ўявіць развіццё культуры без падтрымкі бізнэсу. І гаворка не толькі пра Беларусь, але ўвогуле пра сітуацыю ў свеце. Ва ўсіх краінах дзяржава пакрывае асноўныя выдаткі сферы культуры, але, каб нарошчваць колькасць і якасць праектаў, важна развіваць дзяржаўна-прыватнае партнёрства, і беларускае заканадаўства дазваляе нам прыцягваць спонсарскую дапамогу для рэалізацыі культурных праектаў. Памылкова думаць, што гэтая дапамога можа знайсціся сама, аўтаматычна. Кожны асобны праект, кожны спонсар патрабуе асаблівага падыходу. З кожным трэба сустракацца асабіста, знайсці словы і аргументы, якія зацікавяць партнёра. Галоўнае, што чакае спонсар, – каб сродкі пайшлі на канкрэтную карысную справу.

Не заўжды ёсць магчымасць знайсці партнёра, які зможа адзін фінансаваць увесь праект. Вышэй мы казалі пра выступленне Купалаўскага тэатра ў Парыжы і вялікія выдаткі на яго правядзенне. Дык вось, уявіце, у праекта было пятнаццаць партнёраў!

Яшчэ адзін вельмі важны кірунак работы з прыватным бізнэсам – гэта вяртанне культурных каштоўнасцей у Беларусь. На жаль, нашы музеі і галерэі не заўсёды маюць адпаведныя сродкі на папаўненне фондаў, і без мецэнатаў гэты працэс складана ажыццявіць. Першым пасольскім праектам, рэалізаваным у гэтым кірунку, стала вяртанне копіі партрэта Шыманоўскай кісці Ваньковіча (арыгінал у музеі Міцкевіча ў Парыжы) у музей яго імя ў Мінску. Праект быў




10.

Et c'est là qu'une histoire très curieuse a eu lieu. Lors de la préparation à l'exposition, nous avons perdu le contact avec le sculpteur Serguei Partsiankov de Gomel. Nous l'avons retrouvé avec l'aide du directeur du cirque de Gomel. Mais, lorsqu'il a fini la sculpture, il ne nous restait plus de temps pour transporter l'œuvre en papier mâché à Paris. Nous avons convenu avec la direction de «Belavia» de la transporter en business-class à bord d'un avion de la compagnie. Le jour de l'ouverture de l'exposition, l'œuvre a atterri à Paris, un employé de l'Ambassade l'a accueillie comme une personne importante au pied de la passerelle de l'avion et l'a conduite directement au Grand Palais. Quelques jours plus tard – j'étais en déplacement à Marseille – on m'a joint au téléphone depuis Paris pour m'annoncer que la «malheureuse» sculpture avait reçu l'un des plus prestigieux prix de l'exposition – le prix de l'association du baron Taylor.

Plus de la moitié de notre travail s'effectue dans les régions françaises. Et là aussi, on ne peut pas ne pas mentionner l'aide de notre diaspora. Grâce à nos activistes, nous organisons régulièrement des concerts, des expositions, des performances théâtrales, et des célébrations de fêtes anciennes et autres à Lyon, Bordeaux, Clermont-Ferrand, Cannes, Toulouse, Grenoble, Avignon, Strasbourg, Saint-Malo, Mougins et d'autres choses petites villes de Provence, Bourgogne, la Vallée de la Loire…

**L'Ambassade du Bélarus en France organise aussi beaucoup d'évènements au Bélarus? Quels ont-été les évènements les plus marquants?**

– L'objectif principal pour une Ambassade est de représenter son pays à l'étranger, mais il me semble que notre soutien à la présentation de la culture française au Bélarus nous enrichit aussi, nous autres Biélorusses. La réalisation de projets artistiques conjoints franco-biélorusses est aussi un élément important. Un autre axe d'action consiste à présenter au Bélarus des œuvres d'artistes originaires du Bélarus, qui ont rendu célèbres nos deux nations. Les cultures biélorusse et française sont étroitement liées depuis des siècles.

Ainsi, par exemple, les premières écoles de ballet sur le territoire du Bélarus d'aujourd'hui ont été créées il y a 260 ans à Nesvizh et à Slutsk par le célèbre danseur et chorégraphe Louis Duprès. À notre initiative et avec le soutien de l'Académie nationale de musique, du Musée-réserve «Nesvizh» et sous le patronage de la Commission nationale chargée des affaires de l'UNESCO cette année à Minsk et à Nesvizh s'est tenue une conférence internationale scientifique et pratique «Le ballet biélorusse dans l'espace culturel mondial», une première (selon Valentsin Elizariev) dans l'histoire du ballet biélorusse. Notre ballet a 260 ans! Et nous l'avons déjà documenté pour les chercheurs et les amateurs.

Nous avons organisé beaucoup d'expositions communes de peintres biélorusses et français au Bélarus, il s'agit notamment de la participation de peintres français aux «Salons d'automne avec Belgazprombank», et des expositions des peintres français qui ont participé à «Art capital», de l'exposition du célèbre peintre Roman Zaslonov qui vit en France, au Musée national des beaux-arts de Bélarus, à Gomel, Vitebsk, Orsha, de l'exposition consacrée au ballet d'Alena Ventrillon au Théâtre Bolshoï de Bélarus, et d'autres.

En 2016, une présentation conjointe de la haute gastronomie biélorusse et française avec la participation du célèbre institut Paul Bocuse de Lyon a été organisée à Minsk.

Dans le cadre de la reconnaissance mondiale de la contribution de la culture biélorusse nous avons initié l'attribution de récompenses de l'UNESCO. Ainsi en 2015, la médaille des «Cinq continents» a été attribuée au Théâtre Bolshoï de Bélarus, en 2016, la médaille «Victor Hugo» et le diplôme du Directeur général de l'UNESCO ont été décernés à Tamara Nizhnikava, Rastislav Yankovsky et Guenadz Ovsiannikov, et l'année suivant e – à Valentsin Elizariev et Igor Loutchanok.

**Vous réalisez vraiment beaucoup de projets, la majorité d'entre eux sans le financement de l'Etat. Comment parvenez-vous à trouver les ressources financières pour ces activités?**

– Aujourd'hui il est impossible d'imaginer le développement de la culture sans l'aide du business. Et je ne parle pas seulement du Bélarus, mais de la situation en général dans le monde. Dans tous les pays, l'Etat finance

поўнасцю фінансаваны беларускім банкам. Пасля мы арганізавалі ў Беларусі выставы, прысвечаныя Міцкевічу і Дамейку з калекцый парыжскіх музеяў. Зараз рэалізуем шэраг вельмі амбітных праектаў па вяртанні ў Беларусь твораў мастакоў Парыжскай школы жывапісу. На завяршальным этапе набыццё і вяртанне ў Беларусі калекцый работ Шрагі Царфіна і Восіпа Любіча, пачалі прапрацоўку набыцця твораў Міхаіла Кікоіна. Тут гутарка ідзе не аб адной-дзвюх карцінах, кожны праект — калекцыя — гэта больш за пятнаццаць-дваццаць аб'ектаў! Працуем над вяртаннем фотаздымкаў славутага ўраджэнца Беларусі Пятра Шумава, які стварыў у пачатку XX стагоддзя фотастудыю ў Парыжы — каля пяцідзесяці цудоўных фатаграфій. Падкрэсліваю: нават марыць аб рэалізацыі такіх праектаў без дапамогі беларускіх мецэнатаў было б немагчыма. Плануем, што гэтыя творы будуць перададзены рэгіянальным музеям, каб не канцэнтраваць усё ў сталіцы, а пашыраць культурную прастору, яе ўзровень у рэгіёнах, у якіх нарадзіліся мастакі: Царфін — у Мінскай вобласці ў Смілавічах, Любіч і Шумаў — у Гродна, Кікоін — у Гомелі.

Пасольства шчыра ўдзячнае ўсім, хто дапамагаў і дапамагае ў рэалізацыі нашых праектаў. Сярод іх варта вылучыць «Беларусбанк», «Пріорбанк», «Банк Развіцця», «БелГазпрамБанк», «Белдзяржстрах», «Белэксімгарант», «Белрасстрах», «Цэптэр-Беларусь», «Пежо-Сітраен» у Беларусі, «Рэно» ў Беларусі, «Данон» у Беларусі, Гарадзейскі цукровы камбінат, «Камкон-Беларусь», «Дарыда», «Трайпл», «Е100», «А-100», «Зубр-Капітал», «Лада-ОМС», «Контэ-Спа», філіял «Домабудаванне» Шклоўскага завода газетнай паперы, «Інглот», «Модум», «Інтэрфармакс», «5 элемент», «Ars Communications», «Мінскі мэблевы цэнтр», «Bel-Met-BMZ», «Сысуеў-Бондар-Храпуцкі», Леаніда Стаецкага, Ягора Іванова, Ігара Мішынёва, Уладзіміра Бярэзіна, французскую кампанію «LOGIBAT», Мішэля Канцені, ганаровых консулаў Беларусі ў Ліёне, Бардо і Марсэлі і многіх іншых. Усім вялікі дзякуй за дапамогу для культуры Беларусі. Выказваем удзячнасць Пасольству Францыі ў Беларусі за пастаянную спрыяльную візавую падтрымку. Удзячнасць усім інфармацыйным партнёрам.

**Распавядзіце, калі ласка, пра які-небудзь запамінальны дзень у Парыжы.**

— Нярэдка згадваю адзін «беларускі дзень». Шостага красавіка 2016-га. Раніцай сустрэча ў Горнай школе Парыжа, якую скончыў і ў якой потым выкладаў славуты Ігнат Дамейка. Дамовіліся аб выставе ў Беларусі дакументаў, падрыхтаваных Ігнатам Дамейкам, і мінералаў, якія ён асабіста знайшоў. Потым наведаў выставу-продаж карцін Пінхуса Крэменя, мастака Парыжскай школы з Беларусі. У вечары таго ж самага дня — адкрыццё выставы «Гіём Апалінэр — погляд паэта» ў музеі Аранжэры. Як вы, напэўна, ведаеце, Апалінэр — славуты французскі паэт, маці якога паходзіць з Наваградка. На выставе былі таксама творы Шагала, Суціна…

Адзін беларускі дзень у сусветнай сталіцы, які склалі падзеі, звязаныя з нашай краінай, — гэта ўнікальна? Хутчэй проста рэальна.

Яшчэ прыклад. Сёлета 26 сакавіка ў славутым Цэнтры Жоржа Пампіду адбылося адкрыццё буйной выставы, прысвечанай Шагалу, Малевічу і Лісіцыну, на якой былі прадстаўлены больш за 250 работ і дакументаў з 15 еўрапейскіх музеяў, у тым ліку з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Адначасова ў гэты дзень у адной з галерэй Манпарнаса прайшло адкрыццё выставы Восіпа Любіча.

Ці мы, беларусы, ведаем дастаткова аб сваёй спадчыне, якую нашы продкі пакінулі нам? Калі ведаем, дык давайце збіраць яе пад дахам нашай Бацькаўшчыны.

**Як вы ацэньваеце перспектывы стварэння інстытуцыі (пры Міністэрстве замежных спраў, напрыклад), якая б сістэмна займалася прасоўваннем беларускай культуры за мяжой і супрацоўнічала як з дзяржаўным, так і недзяржаўным культурным сектарам?**

— Прыклады функцыянавання падобных цэнтраў ёсць у розных краінах свету: Інстытут Гётэ ў Германіі, Інстытут Камоэш у Партугаліі, Польскі інстытут, Французскі інстытут, «Россотрудничество»…

Ідэя стварэння падобнага інстытута ў Беларусі была прапанавана Міністэрствам культуры Міністэрству замежных спраў яшчэ ў 2010 годзе. Мы марылі стварыць Інстытут Скарыны альбо Інстытут Купалы, але, на жаль, ідэя засталася ідэяй. Фінансавы бок пытання — галоўная прычына стрыманасці. Перакананы, што мы павінны прыйсці да гэтага.

les dépenses principales dans la sphère culturelle, mais pour augmenter la quantité et la qualité de projets, il est important de développer le partenariat entre le public et le privé, et la législation biélorusse nous autorise à solliciter une aide de sponsoring pour la réalisation de projets culturels. Il est faux de penser que cette aide peut se trouver toute seule, automatiquement. Chaque projet, chaque sponsor nécessite une approche spécifique. Il faut se rencontrer personnellement avec chacun, trouver les mots et les arguments qui pourraient intéresser le partenaire. Le sponsor s'attend avant tout à ce que les fonds aillent pour un projet concret et utile.

Il n'est pas toujours possible de trouver un seul partenaire pour financer intégralement le projet. Nous parlions plus haut du spectacle du Théâtre Kupala à Paris et des dépenses importantes liées à son organisation. Et bien, figurez-vous, que le projet avait quinze partenaires!

Une autre direction importante du travail avec le secteur privé — c'est le rapatriement de richesses culturelles au Bélarus. Malheureusement, nos musées et galeries n'ont pas toujours les moyens pour enrichir leur collections, et sans mécènes, ce processus est difficile à mettre en place. Le premier projet de l'Ambassade, réalisé dans ce sens, était l'exécution d'une copie de portrait de Maria Szymanowska, peint par Wańkowicz (l'original se trouve au Musée Mickiewicz à Paris), et sa remise au musée qui porte son nom à Minsk. Le projet était financé dans son intégrité par des banques biélorusses. Ensuite nous avons organisé au Bélarus des expositions consacrées à Mickiewicz et à Domeyko avec des collections de musées parisiens. Nous sommes en train de réaliser plusieurs projets très ambitieux pour le rapatriement au Bélarus d'œuvres d'artistes de l'École de peinture de Paris. Le rapatriement de collections de travaux de Shraga Zarfin et d'Ossip Lubitch est désormais en train d'être finalisé, nous avons commencé à travailler sur l'acquisition d'œuvres de Mikhail Kikoïne. Il s'agit là non pas d'un ou deux tableaux, mais chaque projet c'est une collection — avec plus de quinze à vingt œuvres! Nous travaillons aussi sur le rapatriement de photos du célèbre natif du Bélarus Pierre Choumoff, qui a créé son studio à



Працэс ужо распачаты. У 2008 годзе меў гонар адчыніць першы беларускі культурны цэнтр за мяжой у Польшчы. З таго часу адкрыты яшчэ тры культурныя цэнтры Беларусі ў замежных краінах.
Нам ёсць што паказаць у свеце, пытанні супрацоўніцтва з дыяспарай, рэклама ўязнога турызму ў Беларусь — усё гэта, як і іншае, можа быць напрамкам работы цэнтраў за мяжой.

*Падрыхтавала Алена Каваленка.*

**1. Павел Латушка на акцыі «Заспяваем Гімн Беларусі разам» на плошчы Тракадэро ў Парыжы. / Pavel Latushka lors de l'action «Chantons l'hymne national du Bélarus ensemble» sur la place du Trocadéro à Paris.**
**2. Народная артыстка Беларусі і СССР Тамара Ніжнікава атрымлівае медаль «Віктор Гюго». / L'artiste du peuple du Bélarus et de l'URSS Tamara Nizhnikova reçoit la médaille Victor Hugo.**
**3. Ля помніка Адаму Міцкевічу. / Près du monument à Adam Mickiewicz.**
**4. На адкрыцці выставы Рамана Заслонава ў Мінску. / A l'inauguration d'une exposition de Roman Zaslonov à Minsk.**
**5. «Баль Агінскага» ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА. / Le Bal d'Oginski au siège de l'UNESCO.**
**6. «Пан Тадэвуш» у Парыжы. / Le spectacle «Pan Tadeusz» à Paris.**
**7. З Жэрарам Дэпардзье каля пасольства Беларусі ў Парыжы. / Avec Gérard Depardieu près de l'Ambassade du Bélarus à Paris.**
**8. Пусканне купальскіх вянкоў па Сене на першае свята Купалля ў Парыжы. / La mise à l'eau des couronnes de Kupala sur la Seine lors de la première célébration de la fête à Paris.**
**9. Гастролі «Песняроў» у Парыжы. / La tournée de «Pesniary» à Paris.**
**10. Афішы і буклеты беларускіх імпрэз і выстаў у Францыі. / Des affiches et des plaquettes de représentations et expositions biélorusses en France.**
**11. Гурт «Церніца» на плошчы Тракадэро. / Le groupe folklorique «Tsernitsa» sur la place du Trocadéro**

*Фота Сяргея Ждановіча, Ксеніі Міронавай і з архіва пасольства. / Photos de Siarhei Zhdanovich, de Ksenia Mironava et des archives de l'Ambassade.*


11.

Paris au début du XXème siècle c'est près d'une cinquantaine de formidables photographies. Je voudrais souligner ici: sans l'aide de mécènes biélorusses nous n'aurions même pas pu rêver de réaliser de tels projets. Nous prévoyons que ces œuvres seront transmises aux musées régionaux, pour ne pas tout accumuler dans la capitale, mais diffuser la culture, relever son niveau dans les régions, où sont nés les artistes: Zarfin — dans la région de Minsk à Smilovitchi, Lubitch et Choumoff — à Grodno, Kikoïne — à Gomel.
L'Ambassade remercie sincèrement tous ceux qui ont soutenu et continuent à soutenir nos projets. Il convient de noter parmi eux Belarusbank, Priorbank, Banque du développement, BelGazpromBank, Belgosstrakh, Beleximgarant, Belrosstrakh, Zepter-Bélarus, Peugeot-Citroen au Bélarus, Renault au Bélarus, Danone au Bélarus, L'usine sucrière de Garodeya, Komkont-Bélarus, Daryda, Triple, E100; A-100, Zubr-Kapital, Lada-OMC, Konte-Spa, L'Usine de papier journal de Shklov, Inglot, Modum, Interfarmax, 5e Element, Ars Communications, le Centre des meubles de Minsk, Bel-Met-BMZ, Sysuev-Bondar-Khraputski, Leonid Stayetski, Georges Ivanov, Igor Mishinev, Vladimir Berezin, la société française LOGIBAT, Michel Contini, consuls honoraires du Bélarus à Lyon, Bordeaux et Marseille et beaucoup d'autres. Un grand merci à vous tous pour votre soutien de la culture du Bélarus. Nous exprimons notre reconnaissance à l'Ambassade de France au Bélarus pour un soutien constant et une attitude bienveillante en matière de visas. Nous adressons notre reconnaissance à tous nos partenaires de communication.

**Racontez-nous, s'il vous plaît, une journée à Paris qui vous a marqué l'esprit.**

— Je me rappelle souvent «une journée biélorusse». On est le 6 avril 2016. Dans la matinée, un rendez-vous est prévu dans l'Ecoles des mines de Paris où le fameux Ignacy Domeyko faisait ses études et où il donnait des cours par la suite. Nous avons convenu d'une exposition de documents faits par Ignacy Domeyko et des minéraux qu'il avait trouvés lui-même. Après je me suis rendu à une foire-exposition d'œuvres de Pinchus Krémègne, peintre de l'école de Paris, originaire du Bélarus. Le soir du même jour — l'inauguration de l'exposition «Apollinaire, le regard du poète» au Musée de l'Orangerie. Comme vous le savez probablement, Apollinaire est un célèbre poète français dont la mère est originaire de Novogrudok. A l'exposition il y avait également des œuvres de Chagall, Soutine... Une journée biélorusse dans la capitale du monde qui est remplie de manifestations liées à notre pays — est-ce bien unique? Plutôt c'est réel.
Un autre exemple. Cette année le 28 mars, au fameux Centre Georges Pompidou a eu lieu l'inauguration d'une grande exposition consacrée à Chagall, Malevitch et Lissitzky, à laquelle plus de 250 œuvres et documents de 15 musées européens, y compris des fonds du Musée national des beaux-arts et du Musée régional de Vitebsk étaient exposés. En même temps, dans une des galeries de Montparnasse a eu lieu l'inauguration d'une exposition d'Ossip Lubitch.
Est-ce que nous, Biélorusses, connaissons bien notre héritage que nos ancêtres nous ont laissé? Si c'est le cas, alors rassemblons-le sous le toit de notre Patrie.

**Que pensez-vous de la création d'une institution (disons, auprès du Ministère des affaires étrangères) qui s'occuperait de manière systémique de la promotion de la culture biélorusse à l'étranger et qui coopérerait avec les secteurs culturels public et privé?**

— Des exemples de fonctionnement de tels centres existent dans différents pays du monde: Institut Goethe en Allemagne, Institut Camões au Portugal, Institut Polonais, Institut Français, «Rossotrudnichestvo»...
L'idée de créer un tel institut au Bélarus a été proposée par le Ministère de la culture au Ministère des affaires étrangères déjà en 2010. Nous rêvions de créer l'Institut Scaryna ou bien l'Institut Kupala mais malheureusement, l'idée n'a pas eu de suit. Le côté financier de la question est la raison principale de la réticence. Je suis persuadé que nous finirons par y arriver.
Le processus est déjà entamé. En 2008, j'ai eu l'honneur d'ouvrir le premier centre culturel à l'étranger, en Pologne. Depuis, trois autres centres du Bélarus ont été ouverts dans d'autres pays. Nous avons de quoi montrer à l'étranger, les questions de coopération avec la diaspora, la promotion du tourisme au Bélarus — tout ça comme d'autres choses pourraient être des axes de travail des centres à l'étranger.

*Propos recueillis par Alena Kavalenka.*

# Ад мастацкага паломніцтва да вяртання каштоўнасцей
# Du pèlerinage artistique au retour des objets de valeur

**Надзея Усава**

Беларусы (і як частка Рэчы Паспалітай, і ў складзе Расійскай імперыі) успрымалі Парыж культурнай сталіцай свету. Наведванне гэтага горада і знаёмства з ягонымі музеямі лічылася калі не абавязковым, то вельмі пажаданым складнікам гуманітарнай адукацыі.

Усё XIX стагоддзе — эпоха актыўных творчых перамяшчэнняў. Ва Усходнюю Еўропу, у Расію едуць на заробкі жывапісцы з Францыі, а ў Еўропу — пераймаць майстэрства — беларускія мастакі: Напалеон Орда, Валенцій Ваньковіч, на грошы мецэнатаў — Янкель Кругер, выхадзец з беднай яўрэйскай сям'і, будучы першы настаўнік Хаіма Суціна.

Паняцце «мастацкае паломніцтва» ўжо мела на ўвазе адукацыйную паездку: творцы пачалі перасяляцца на некалькі год у Парыж для навучання і заробку. Так у французскай сталіцы асталёўваліся баталісты Генрых Вейсенгоф і Зянон Ленскі, якія скончылі Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу.

У традыцыі шляхты перыядычныя падарожжы былі атрыбутам падключанасці да еўрапейскай культуры. З Францыі прывозілі не толькі гувернёраў, уборы, ювелірныя ўпрыгожванні і свежыя модныя часопісы, але і кнігі, творы для інтэр'ераў сядзіб — шпалеры, карціны, мармуровую і бронзавую скульптуру, сталовае срэбра, каштоўныя тканіны. Прадметы служылі ўзорамі для мясцовых майстроў. З Парыжа імпартаваліся і адаптаваліся на айчыннай глебе ўзоры высокага мастацтва французскіх майстэрняў і акадэмій.

Чаму так цягне менавіта ў Францыю мастакоў з беларускай глыбінкі? Можна вучыцца ў Берліне, Мюнхене, Вене, Італіі, нарэшце… Побач — знакамітая Санкт-Пецярбургская Імператарская Акадэмія мастацтваў з цудоўнай вучэбнай базай, прафесурай, узнагародамі і цэлай сістэмай кар'ернага прасоўвання, сацыяльнымі гарантыямі — і магчымасцю выкладаць у гімназіях і вучэльнях… Але беларускіх мастакоў-яўрэяў утрымлівала ад расійскіх сталіц адсутнасць «віду на жыхарства», немагчымасць парушыць закон пра рысу аселасці, уведзены ў 1832 годзе, а таксама трохпрацэнтны цэнз прыёму яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Выбар менавіта парыжскіх мастацкіх школ быў абумоўлены пагалоскай, што несла звесткі пра наладжаную дзесяцігоддзямі дэмакратычную сістэму навучання, магчымасць зняць танную майстэрню і натуру, асабліва паваж-


1.

**Nadeia Ousava**

Les Biélorusses (faisant partie de La République des Deux Nations et au sein de l'Empire Russe) percevaient Paris comme une capitale culturelle du monde. La visite de cette ville et de ses musées était considérée comme un élément sinon obligatoire au moins très souhaité de la formation classique. Tout le XIX siècle, c'est l'époque de déplacements intenses d'artistes. Tandis que les peintres français viennent en Europe de l'Est, en Russie pour gagner de l'argent, les peintres biélorusses Napoleon Orda, Walenty Wańkowicz, grâce à l'argent des mécènes – Yankel Kruger, ressortissant d'une pauvre famille juive et future maître de Chaïm Soutine, se rendent en Europe.

La notion de «pèlerinage artistique» entendait déjà des voyages d'étude: des artistes peintres ont commencé à s'expatrier à Paris pour plusieurs années pour apprendre et pour gagner de l'argent. Ainsi, dans la capitale de France s'installèrent Henryk Weyssenhoff et Zianon Lenski qui avaient fait leurs études à Saint-Pétersbourg.

Selon la tradition de la noblesse, de tels voyages périodiques étaient considérés comme attribut du branchement à la culture européenne.On importait de France non seulement des gouverneurs, des parures, des bijoux et de récents magazines de mode mais aussi des livres, des décorations d'intérieur des maisons – papiers peints, tableaux, sculptures en marbre et en bronze, couverts en argents, tissus précieux. Ces articles servaient de modèles pour les artisans locaux. De Paris étaient importés et adaptés sur le sol natal des échantillons de haut art des ateliers et des académies de France.

Pourquoi c'est la France qui attire tellement les peintres biélorusses de province? On peut faire ses études à Berlin, à Munich, à Vienne, en Italie... Non loin, à 15 heures de route – se trouve la célèbre Académie impériale des beaux-arts de Saint-Pétersbourg avec une base matérielle et des professeurs formidables, des récompenses et tout un système de promotion professionnelle, des garanties spéciales – et la possibilité d'enseigner dans les gymnases et écoles professionnelles. Mais les peintres biélorusses d'origine juive ne voulaient pas aller dans la capitale de Russie à cause de l'absence de «permis de séjour», de l'impossibilité de violer la Zone de Résidence établie en 1832 et du quota de 3% d'admission des juifs dans les établissement d'enseignements supérieur.

лівае стаўленне да жывапісцаў, развіты арт-рынак, перыядычныя выставы і наяўнасць мастацкай крытыкі. Парыж не толькі даваў магчымасць акунуцца ў развіты асяродак і навучыцца рамяству, але і «зрабіць імя», стаць вядомым. Нездарма Шрага Царфін, беларускі мастак са Смілавіч, які эміграваў у 1914 годзе ў Палесціну, меў выставы ў Іерусаліме і Берліне, наведаўшы музеі Парыжа ў 1924-м, знішчыў усе свае папярэднія творы.

У 1900–1910-я неафітаў не спыняе ні адсутнасць грошай і дакументаў, ні няведанне мовы, ні іншыя звычкі і норавы, ні нават пагалоскі пра жорсткую канкурэнцыю на мастацкім рынку. На Усходнім вакзале ў Парыжы аказваюцца каля 80 маладых людзей з беларускай глыбінкі – Марк Шагал, Хаім Суцін, Надзея Хадасевіч, Шрага Царфін, Міхаіл Кікон, Восіп Цадкін, Восіп Любіч, Аскар Мешчанінаў, Лейба Шульман, Мікалай Бонч-Асмалоўскі, Абрахам Маневіч, Роберт Генін... У Парыжы ў XX стагоддзі склаўся асаблівы мастацкі інтэрнацыянальны багемны асяродак, куды арганічна ўліліся і выхадцы з Беларусі. Але быў і адваротны рух: з Францыі ў Расію, часткай якою была Беларусь. 13 лістапада 1904 года ў Мінску, у Зале Дваранскага збору прайшла «Выстава карцін французскіх мастакоў на карысць Мінскай супольнасці сясцёр міласэрнасці Чырвонага Крыжа». Гэта была першая выстава французскага мастацтва ў Мінску ў перыяд да Першай сусветнай вайны.

Другая заўважная хваля беларуска-французскіх культурных стасункаў адносіцца да савецкага пасляваеннага часу. Халодная вайна не лепшы час для палітычных узаемаадносін паміж СССР і Францыяй. У 1957 годзе заключаны пагадненні аб культурным супрацоўніцтве між гэтымі краінамі. Дэпартамент культуры ЮНЕСКА ў чэрвені 1967-га вырашыў падарыць БССР перасоўную выставу «Жывапіс 1900–1925», у якую ўваходзілі рэпрадукцыі твораў Манэ, Рэнуара, Сезана, Гагена, Ван Гога, Маціса, Пікаса, Шагала, Кандзінскага, Малевіча. Але прадстаўнік БССР пры ЮНЕСКА атрымаў строгую інструкцыю адмовіцца ад «непажаданага падарунка», маўляў, у рэспубліцы адсутнічае цікаўнасць да абстрактнага мастацтва, і шырокае грамадскасць адрэагуе на яго негатыўна. У гэтых абставінах, нягледзячы на жалезную заслону, выключную ролю культурнага пасла ў 1960-я адыграла беларуская мастачка Надзя Лежэ (Надзея Хадасевіч), удава мастака-камуніста Фернана Лежэ. Сумесна з Інстытутам мастацтваў імя Марыса Тэрэза яна прыносіць у дар радзіме кераміку Пабла Пікаса, шаўкаграфіі – свае і Фернана Лежэ, значную калекцыю факсімільных рэпрадукцый (194 рэпрадукцыі на палатне ў рамах) і 173 злепка, зробленых майстэрняй Луўра з самых вядомых помнікаў сусветнага значэння. Яе мара – стварыць «Музей музеяў» у Віцебску – так і не была ажыццёўлена, але падчас татальнага «інфармацыйнага голаду» перасоўныя выставы рэпрадукцый былі адзінай інфармацыяй пра мастацтва Францыі ў беларускай правінцыі.


2.

Асабістыя кантакты паміж беларускімі і французскімі мастакамі былі ўнікальныя. Так, у 1962 годзе па стыпендыі ЮНЕСКА мінскаму мастаку, выкладчыку Тэатральна-мастацкага інстытута Аляксандру Казлоўскаму была прадстаўлена магчымасць на працягу трох месяцаў наведаць каля 60 музеяў, больш за 20 персанальных і групавых выстаў, правесці сустрэчы і размовы з 24 мастакамі, пазнаёміцца з выкладаннем у дзвюх вышэйшых мастацкіх навучальных установах. На выставе ў Ніцы Казлоўскі пазнаёміўся з Шагалам, але ў справаздачы быў вымушаны напісаць пра «поўны распад сучаснага выяўленчага мастацтва на Захадзе і перавагу гуманістычнага рэалістычнага мастацтва, прасякнутага духам рэвалюцыйнай партыйнасці».

Толькі ў пачатку 1970-х беларускае савецкае мастацтва пачало паказвацца ў Францыі. У 1971 годзе адбылася выстава «Графіка Беларускай ССР» у Ліёне, паўтораная ў 1981-м у гарадах Францыі. У 1977 годзе ў Парыжы адкрылася выстава беларускага народнага касцюма з фондаў Дзяржаўнага музея БССР

Le choix des écoles artistiques de Paris s'expliquait par le bouche à oreille répandant l'information sur un système d'enseignement démocratique, bien rodé pendant des décennies, des possibilités de trouver un atelier et des modèles bon marché et surtout une attitude respectueuse envers les peintres, un marché artistique bien développé, des expositions régulières et la présence de la critique artistique. Paris permettait non seulement de se plonger dans un environnement artistique et apprendre le métier mais également de «se faire un nom», devenir célèbre.

Ce n'est pas par hasard que le peintre biélorusse, né à Smilovichi, Schraga Zarfin qui immigra en 1914 en Palestine et exposait ses œuvres à Jérusalem et Berlin après avoir visité Paris en 1924 détruisit toutes ses œuvres précédentes.

En 1900–1910, rien n'arrête les néophytes, ni le manque d'argent et l'absence de papiers, ni l'ignorance du français, ni les us et coutumes différents, ni même la connaissance sur une concurrence rude sur le marché artistique. Par la Gare de l'Est passsent près de 80 jeunes gens de la province biélorusse – Marc Chagall, Chaïm Soutine, Nadia Khodossievitch, Schraga Zarfin, Mikhaïl Kikoïne, Ossip Zadkine, Ossip Lubitch, Oscar Meschaninov, Leon Shulman, Nicolas Bonch-Osmolovski, Abraham Manievich, Robert Guénine... Au XX siècle, un environnement artistique international particulier de bohème se créa à Paris, que les ressortissants biélorusses ont intégré d'une manière organique.

Pourtant, il y avait un mouvement en sens inverse: de la France vers la Russie dont le Bélarus faisait partie.

Le 13 novembre 1904, dans la salle de l'Assemblée de noblesse à Minsk se tint «l'Exposition des tableaux de peintres français pour le bénéfice des sœurs de charité de la Croix Rouge». Ce fut la première exposition de l'art français à Minsk avant la Première guerre mondiale.

La seconde vague importante des relations culturelles franco-biélorusses se rapporte à la période soviétique après la guerre. La guerre froide n'était pas le meilleur moment pour les relations politiques entre l'URSS et la France. En 1957, un accord sur la coopération culturelle fut signé entre les deux pays. Le Département de la culture de l'UNESCO décida d'offrir à la RSSB une exposition ambulante «Peinture 1900–1925» qui était composée de reproductions de tableaux de Manet, Renoir, Cézanne, Gauguin, Van Gogh, Matisse, Picasso, Chagall, Kandinsky, Malevitch, mais le représentant de la RSSB reçut l'instruction formelle de refuser «un cadeau indésirable» sous prétexte de l'absence d'intérêt pour l'art abstrait au pays et de la réaction négative attendue du grand public. Dans ces circonstances, c'est la peintre Nadia Léger (Khodossievitch), veuve du peintre français communiste Fernand Léger qui joua un rôle remarquable. Conjointement avec l'Institut des beaux arts Morice Thérèse, elle offre à sa patrie des oeuvres céramiques de Pablo Picasso, des sérigraphies – ses œuvres et celles de Fernand Léger, une importante collection de facsimilés (194 reproductions sur tissus encadrées) et 173 moules des œuvres mondialement connues, faites par l'atelier du Louvre. Son rêve de créer un «Musée des musées» à Vitebsk n'a pas été réalisé, pour autant, à l'époque de la «faim d'information», des expositions ambulantes de reproductions étaient la seule information sur l'art français.

Les contacts personnels entre les peintres français et les peintres biélorusses étaient uniques. Ainsi, en 1962 grâce à la bourse de l'UNESCO, le peintre minskois, professeur de l'Institut de théâtre et d'art Alexandre Kozlovski put durant trois mois visiter près de 60 musées, plus de 20 expositions personnelles et collectives, rencontrer et s'entretenir avec 24 artistes peintres, prendre connaissance de l'enseignement dans deux écoles supérieures des beaux arts. Lors d'une exposition à Nice Kazlovski fit la connaissance de Marc Chagall, mais dans son rapport il dut écrire «sur la décadence complète de

(куратар – Міхась Раманюк). У 1981-м у Мінску прайшлі адразу тры выставы: да 100-годдзя Фернана Лежэ, «Ліёнскія тканіны XVII – XX стст. з музеяў і прыватных збораў Францыі», «Кераміка Пікаса» да 100-годдзя з дня народзінаў мастака.

Мастацкая эміграцыя ў Францыю, такая бурная на пачатку XX стагоддзя, напрыканцы 1970-х і ў 1980-я праявілася толькі асобнымі эпізодамі, часта скандальнымі. Тут можна згадаць мастака-камуніста Мікалая Паўлоўскага, які ў 1979 годзе падчас турыстычнай паездкі ў Францыю застаўся ў Парыжы. А ў 1987-м Генадзь Хацкевіч з-за мары трапіць у Парыж зрабіў своеасаблівы мастацкі жэст – спробу ўгону самалёта (з кавалкам гаспадарчага мыла замест бомбы). Гэтыя ўчынкі выклікалі надзвычайны рэзананс у мастацкіх колах Беларусі, і азнаямляльныя турыстычныя паездкі ў Еўропу былі забароненыя. Знакавай фігурай беларускай эміграцыі другой паловы XX стагоддзя стаў Барыс Забораў, прызнаны мінскі кніжны графік, ілюстратар, які эміграваў у 1981 годзе ў Парыж. Там ён заняўся жывапісам і здабыў поспех: Забораў аформіў некалькі спектакляў «Камедзі Франсэз», у яго прайшлі выставы ў Рускім музеі і Траццякоўскай галерэі, ягоны аўтапартрэт замовіла галерэя Уфіцы, у 2010-м ён правёў выставу ў Мінску, што выклікала небывалы ажыятаж у асяродку мастакоў.

Чарговую хвалю пошукаў свабоды творчасці і пакупнікоў для больш годнага жыцця далі гады гарбачоўскай перабудовы. З распадам СССР і здабыццём незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе пачалася бурная дзейнасць па абмену выставамі. У 1990-я ў Парыж накіроўваюцца шматлікія беларускія мастакі (рабіць групавыя выставы было фінансава прасцей). У 1991-м толькі мастацкім аб'яднаннем «Няміга» было праведзена тры выставы ў ваколіцах Парыжа (Фантэнбло). У 1995 годзе па ініцыятыве французскага боку прайшла выстава беларускіх ікон з Музея старабеларускага мастацтва пры Нацыянальнай Акадэміі навук (куратар – доктар мастацтвазнаўства Віктар Шматаў).

Канец 1990-х – пачатак 2000-х можна без перабольшання назваць «адкрыццём» беларусам творчасці Марка Шагала. У 1991 годзе ў Віцебску адкрываецца першая экспазіцыя ў доме Шагала на Пакроўскай вуліцы, у 1997-м – музей і арт-цэнтр Марка Шагала, які ладзіць штогадовыя «Шагалаўскія чытанні», пачынае выпускаць бюлетэнь музея. Арт-цэнтр атрымоўвае ў дар літаграфіі майстра і манаграфіі пра Шагала. У Віцебск упершыню прыязджаюць унучкі мастака. Мэрыет Меер-Грабэр – кіраўніца Французскага фонду Шагала – курыруе арганізацыю пяці выстаў ягоных твораў са збору сям'і (1997–2005).

На пачатку 2000-х прадпрымаюцца спробы актывізаваць культурныя сувязі з Францыяй і на міждзяржаўным узроўні. У красавіку 2002 года і ў 2006 годзе ў Цэнтры Кардэна «Эспас Кардэн» на Елісейскіх палях у Парыжы адбыліся Дні культуры Беларусі ў Францыі, у праграме якіх была выстава сучасных беларускіх мастакоў – потым яна прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі («Мінск – Парыж – Мінск»). У 2004 годзе П'ер Кардэн наведаў Нацыянальны мастацкі музей РБ. За ўнёсак у развіццё беларуска-французскіх адносін у сферы культуры Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў знакамітага мадэльера ордэнам Францыска Скарыны.

На пачатку XXI стагоддзя атрымалі распаўсюджанне сумесныя праекты дзяржавы і бізнэсу, якія падтрымліваюцца Міністэрствам замежных справаў. Выстава «Мастакі Парыжскай школы» (2012–2014) у Нацыянальным мастацкім музеі з карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка стала адкрыццём многіх імёнаў невядомых дагэтуль майстроў. У 2015 годзе на 66-й Міжнароднай выставе сучаснага мастацтва малюнку і акварэлі, якая адкрылася ў «Гран-Пале», упершыню быў прадстаўлены нацыянальны павільён Беларусі і творчасць 11 вядомых мастакоў з усёй краіны. Па выніках выставы беларуская мастачка Валянціна Шоба і айчынны скульптар Сяргей Парцянкоў былі ўзнагароджаны прэстыжнай прэміяй Тэйлара. У 2016 годзе ў «Восеньскім салоне» на Елісейскіх палях упершыню ў якасці ганаровага ўдзельніка была прадстаўлена



3.

l'art contemporain en Occident et la supériorité de l'art réaliste humaniste imprégné de l'esprit révolutionnaire du Parti».

Ce n'est qu'au début des années 1970 que l'art biélorusse soviétique a commencé à s'exposer en France. En 1971, une exposition «Art graphique de la République soviétique socialiste de Biélorussie» a eu lieu à Lyon, réitérée en 1981 dans d'autres villes de France. En 1977, une expositionde costumes folkloriques de la collection du Musée d'État de la RSSB (curateur – Michas Ramaniuk) a été inaugurée à Paris. En 1981, trois expositions ont eu lieu à la fois à Minsk: une exposition consacrée au 100ème anniversaire de Fernand L éger, «Tissus de Lyon XVII – XX siècles de musées et de collections privées de France»,«Oeuvres céramiques de Picasso» dédiée au 100ème anniversaire de la naissance de l'artiste peintre.

L'émmigration artistique vers la France, si intense au début du XX siècle, à la fin des années 1970 et dans les années 1980 s'est faite remarquer par des cas ponctuels, souvent scandaleux. On pourrait citer le cas du peintre communiste Nicolas Pavlovski qui lors de son voyage touristique en France est resté à Paris. En 1987, Guennadi Khatskevich rêvant de venir à Paris a recouru à un geste artistique – il a essayé de détourner un avion (avec un morceau de savon de ménage en guise de bombe). Ces actes ont provoqué une réaction extraordinaire dans les milieux artistiques du Bélarus et les voyages d'étude en Europe ont été interdits pour longtemps. C'est Boris Zaborov, dessinateur et illustrateur de livres, qui est devenu une figure remarquable de l'émmigration biélorusse dans la seconde moitié du XX siècle. Il est parti à Paris légalement. En France, il s'est mis à la peinture et a obtenu un succès. Zaborov a exécuté les décors pour plusieurs spectacles à la «Comédie française», ses œuvres ont été exposées au Musée russe et à la galerie Tretiakov, son autoportrait a été commandé par la Galerie des Offices, en 2010, il a tenu une exposition à Minsk ce qui a provoqué un agiotage sans précédent dans les milieux artistiques. Ce sont les années de perestroïka de Gorbatchev qui ont créé une autre vague de quête de la liberté de création et d'acheteurs pour se procurer une vie plus convenable. Après l'éclatement de l'URSS et l'obtention de l'indépendance en 1991, des échanges d'expositions s'intensifient. En 1990, de nombreux peintres biélorusses (il était financièrement plus facile d'organiser des expositions collectives) se rendent à Paris. En 1991, seule l'association artistique «Niamiga» a organisé trois expositions près de Paris (Fontainebleau). En 1995, une exposition d'icônes biélorusses du Musée de l'ancien art biélorusse auprès de l'Académie nationale des sciences (curateur – docteur en critique d'art Viktor Shmatov) s'est tenue à l'initiative de la partie française.

Fin 1990 – début 2000 peuvent sans exagération être considérées comme une «découverte» par les Biélorusses des oeuvres de Marc Chagall. C'est en 1991 qu'une première exposition s'ouvre à Vitebsk dans la maison de Chagall rue Pakrovskaya, en 1997 le musée et le Centre d'art Marc Chagall qui organise annuellement des «Lectures de Chagall», commence à publier un bulletin du musée. Pour la première fois, les petites filles du peintre visitent Vitebsk. Meret Meyer Graber, gérante de la fondation française Chagall, supervise l'organisation de cinq expositions de ses oeuvres de la collection familiale (1997–2005).

Au début des années 2000, des efforts sont entrepris en vue d'intensification des liens culturels avec la France également au niveau interétatique. En avril 2002 et 2006, les Journées de la culture biélorusse en France ont été organisées au Centre de P. Cardin «Espace Cardin» sur les Champs Élysées à Paris où étaient exposées des œuvres de peintres biélorusses contemporains – par la suite l'exposition s'est déroulée au Musée national des beaux arts (Minsk-Paris-Minsk). En 2004, Pierre Cardin a visité le Musée national des beaux arts de la République du Bélarus. Le célèbre grand couturier a été décoré par le

Беларусь. У Салоне экспанаваліся творы шасці беларускіх мастакоў і скульптараў: Паліны Амельяновіч, Уладзіміра Грамовіча, Ганны Дзідзішкі, Васіля Пешкуна, Анастасіі Хобатавай, а таксама Алены Вентрыён-Макарэвіч — беларускай мастачкі, якая жыве ў Парыжы. У 2018 годзе ў Цэнтры Пампіду прайшла маштабная выстава «Шагал, Лісіцкі, Малевіч. Рускі авангард з Віцебска (1918—1922)». З 50 твораў знакавых фігур авангарда, якія прыехалі з Траццякоўскай галерэі, Рускага музея, музея Стэдэлейка, МоМА, музея Людвіга, экспанавалася некалькі работ з Нацыянальнага мастацкага музея РБ і Віцебскага абласнога краязнаўчага музея — у прыватнасці, партрэт Марка Шагала, зроблены Юдэлем Пэнам, творы Майсея Куніна, скульптуры і графічныя працы Давіда Якерсона.

Актывізавалася праца па вяртанні культурных каштоўнасцей. Важным крокам у гэтай справе можа быць капіяванне работ, звязаных з гісторыяй і культурай краіны. Яшчэ ў 2015-м у Музеі Адама Міцкевіча ў Парыжы пасол Павел Латушка ўбачыў партрэт цешчы паэта, знакамітай піяністкі Марыі Шыманоўскай, напісаны Валенціем Ваньковічам. Копія партрэта была зроблена мастаком Віктарам Альшэўскім і перададзена Філіялу Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь «Дом Ваньковічаў». Гэты акт яшчэ раз падкрэслівае, як глыбока беларуская культура была інтэгравана ў французскую, якія трывалыя адносіны здаўна існавалі паміж нашымі краінамі. А сёлета пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі правяло перамовы з нашчадкамі славутых майстроў Парыжскай школы — Дзінай Любіч і Івам Дзюлак-Царфіным — аб перадачы шэрагу твораў Восіпа Любіча і Шрагі Царфіна на радзіму, арганізацыі выстаў і набыцці твораў мастацтва для беларускіх музеяў…

Такім чынам, беларуска-французскія культурныя сувязі сёння паспяхова развіваюцца пры ўдзеле дзяржавы, дапамозе прадстаўнікоў бізнэсу і зацікаўленасці творчай інтэлігенцыі. Сумесныя высілкі садзейнічаюць павышэнню культурнага патэнцыялу нашай краіны.


4.

Président du Bélarus Alexandre Lukashenko de l'ordre Francisc Skaryna pour sa contribution au développement des relations franco-biélorusses dans le domaine de la culture.

Au début du XXI siècle, sont devenus fréquents des projets communs des autorités publiques et des hommes d'affaire qui sont soutenus par le Ministère des affaires étrangères. L'exposition «Peintres de l'école de Paris» (2012—2014) au Musée national des beaux arts du Bélarus de la collection corporative de Belgazprombank a permis de découvrir beaucoup de peintres méconnus jusqu'à ce moment. En 2015, pour la première fois un stand national du Bélarus était organisé à la 66ème Exposition internationale de l'art contemporain de dessins et d'aquarelles au Grand Palais sur lequel étaient exposées des œuvres de 11 peintres de tout le pays. A l'issue de l'exposition, la femme peintre biélorusse Valentine Shoba et le sculpteur biélorusse Siarhei Partsiankov ont reçu le Prix Taylor. En 2016, le Bélarus a pris part au «Salon d'automne» sur les Champs Élysées comme pays à l'honneur. Au Salon étaient exposées des oeuvres de six peintres et sculpteurs biélorusses: Palina Amélianovich, Uladzimir Gramovich, Hanna Didishka, Vasil Peshkun, Anastasia Hobatava ainsi que Alena Ventrillon-Makarevich, femme peintre biélorusse qui vit à Paris. En 2018, au Centre Pompidou une importante exposition «Chagall, Lissitzky, Malevitch. L'avant-garde russe de Vitebsk (1918—1922)» a eu lieu. Parmi les 250 œuvres de peintres connus de l'avant-garde venues de la Gallerie Tretiakov, du Musée russe, du Musée Stedelijk, du MoMA, du musée Ludwig, il y avait quatre œuvres de la collection du Musée national des beaux arts du Bélarus et 20 œuvres de la collection du musée régional de Vitebsk, notamment, un portrait de Marc Chagall, peint par Ioudel Pen, des oeuvres de Moïs Kunin, des sculptures et des oeuvres graphiques de David Iakerson. L'Ambassadeur du Bélarus en France Pavel Latushka, le Directeur général du Musée national des beaux arts Uladzimir Prakaptsov et le directeur du Musée régional de Vitebsk Hleb Savitski ont pris part à la cérémonie d'inauguration de l'exposition. Les représentants de la partie biélorusse se sont rencontrés avec le président du Centre Pompidou Serge Lasvignes et ont discuté des perspectives d'échange d'expositions temporaires entre les musées. Ils se sont également entretenus avec la petite fille de Chagall Meret Meyer Graber au sujet de la possibilité d'organiser des expositions au Bélarus d'œuvres du peintre de sa collection privée.

Les efforts visant à rapatrier des œuvres de valeur se sont également intensifiés. La duplication des œuvres, liées à l'histoire et à la culture du pays pourrait être un pas important dans ce sens. En 2015, l'Ambassadeur Pavel Latushka a remarqué au Musée Adam-Mickiewicz de Paris un portrait de la belle mère du poète, la célèbre pianiste Maria Shimanovska, peint par Walenty Wańkowicz. Une copie du portrait a été réalisée par le peintre Victor Alshevski et remise à la filiale du Musée national des beaux arts de la République du Bélarus «Maison de Wańkowiczs». Cet acte souligne, une fois de plus, combien la culture biélorusse était intégrée à la culture française, les liens forts qui existaient depuis longtemps entre nos deux pays. Cette année-là, l'Ambassade de la République du Bélarus en France a mené les négociations avec les descendants des célèbres maîtres de l'École de Paris — Dzina Lubitch et Yves Dulac-Zarfin — au sujet de la remise d'un nombre d'œuvres d'Ossip Lubitch et de Schraga Zarfin au pays de leur naissance, de l'organisation d'expositions et de l'acquisition de leurs œuvres pour les musées biélorusses.

Ainsi, les relations culturelles franco-biélorusses se développent avec succès de nos jours avec la participation de l'État, avec l'aide d'hommes d'affaire et l'intérêt de l'intelligentsia artistique. Les efforts conjoints contribuent au renforcement du potentiel culturel de notre pays.

**1. Валенцій Ваньковіч. Партрэт Марыі Шыманоўскай. Алей. 1828. / Walenty Wańkowicz. Le portrait de Maria Shimanovski. Huile. 1828.**

**2. Юдэль Пэн. Партрэт Марка Шагала. Алей. 1915. / Ioudel Pen. Le portrait de Marc Chagall. Huile. 1915.**

**3. Надзя Хадасевіч-Лежэ. Пабла Пікаса. Мазаіка ў Зембіне. 1972. / Nadia Khodossievitch-Léger. Pablo Picasso. Mosaïque à Zembin.1972.**

**4. Восіп Цадкін. Паэт, ці Амаж Полю Элюару. Бронза. 1954. / Ossip Zadkine. Le poète ou Hommage à Paul Eluard. Bronze. 1954.**

# Беларускія зоркі Манпарнаса

## ВЫСТАВА З ПРЫВАТНЫХ КАЛЕКЦЫЙ У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГІСТАРЫЧНЫМ МУЗЕІ

# Les étoiles biélorusses de Montparnasse

## L'EXPOSITION DE COLLECTIONS PRIVÉES AU MUSÉE NATIONAL D'HISTOIRE




1.

ПРАЙШЛО ШМАТ ЧАСУ, КАЛІ МАЛАДЫЯ МАСТАКІ, УРАДЖЭНЦЫ БЕЛАРУСІ, УПЕРШЫНЮ «АТАКАВАЛІ» ПАРЫЖ, З НЕЙМАВЕРНЫМІ НАМАГАННЯМІ АДОЛЬВАЮЧЫ ГРАМАДСКІ КАНСЕРВАТЫЗМ, УЛАСНЫЯ ТВОРЧЫЯ ЗАНЯПАДЫ, ГОЛАД, ГАЛЕЧУ, ХВАРОБЫ, НЕЗАСЛУЖАНЫЯ КРЫЎДЫ, АСАБІСТЫЯ БЫТАВЫЯ І ЛЮБОЎНЫЯ ДРАМЫ, ЗАЯВІЛІ ПРА СЯБЕ Ў ПОЎНЫ ГОЛАС І СТАЛІ РАЎНАПРАЎНЫМІ ТВОРЦАМІ ПОРУЧ З КАРЭННЫМІ ФРАНЦУЗАМІ. У ВЯДОМУЮ ПАРЫЖСКУЮ ШКОЛУ БЫЛА ЎКЛАДЗЕНА ВЯЛІКАЯ ДОЛЯ ІХ УЛАСНАЙ ЭСТЭТЫКІ, КАСМАПАЛІТЫЧНАЙ, ПАЗБАЎЛЕНАЙ ФРАНЦУЗСКАЙ СПЕЦЫФІКІ І НАЦЫЯНАЛЬНЫХ АДЦЕННЯЎ.

IL S'EST ÉCOULÉ BEAUCOUP DE TEMPS DEPUIS L'ÉPOQUE OÙ DE JEUNES PEINTRES ORIGINAIRES DU BÉLARUS ONT «ATTAQUÉ» POUR LA PREMIÈRE FOIS PARIS EN SURMONTANT AVEC DES EFFORTS INCROYABLES LE CONSERVATISME SOCIALE, SES PROPRES DÉFAILLANCES CRÉATRICES, LA FAIM ET DES MALADIES, DES OFFENSES GRATUITES, DES DRAMES FAMILIAUX ET AMOUREUX, SE SONT DÉCLARÉS À PLEINE VOIX ET SONT DEVENUS CRÉATEURS À PART ÉGALE AVEC LES FRANÇAIS DE SOUCHE. UNE PART IMPORTANTE DE LEUR PROPRE ESTHÉTIQUE, COSMOPOLITE, DÉNUÉE DE LA SPÉCIFICITÉ FRANÇAISE ET DE NUANCES NATIONALES A ÉTÉ APPORTÉE À LA CÉLÈBRE ÉCOLE DE PARIS.

**Барыс Крэпак**

Восем мастакоў, якія былі прадстаўлены ў экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея, вельмі розныя, часам супрацьлеглыя паводле чалавечых, псіхафізічных, стылявых, інтэлектуальных і іншых параметраў. Але іх аб'ядноўвала галоўнае: непадкупная сумленнасць, глыбокая праўдзівасць, пачуццё локця, барацьба за творчае выжыванне ва ўмовах складанага сталічнага быцця, імкненне арганічна ўвайсці ў не заўсёды зразумелае жыццё і знайсці сваю планіду, свае індывідуальныя формулы поспеху.

Прычым яны не сталі «пустэльнікамі», не ізаляваліся, а амаль усе ўдала ўпісаліся ў французскі асяродак, прынялі яго вельмі тонкія духоўныя коды, навучыліся паважаць іншае мысленне. Пры гэтым, што вельмі важна, захавалі сваю творчую індывідуальнасць. І хаця творы, якія мы ўбачылі на выставе, у большасці сваёй пазначаны гадамі пасля Другой сусветнай вайны (акрамя літаграфій Роберта Геніна 1915 года), — усе яны па вобразна-пластычных параметрах цалкам адтуль — з дабраславенных першых дзесяцігоддзяў ХХ стагоддзя.

Марк Шагал, Восіп Цадкін, Міхаіл Кікоін, Пінхус Крэмень, Яўген Зак, Роберт Генін, Восіп Любіч, Шрага Царфін — вось імёны тых, чый жывапіс і графіка былі прадстаўлены ўдзячнаму гледачу. Усе сто твораў — з беларускіх прыватных калекцый, а таксама з прыватнага збору пецярбургскага мастацтвазнаўца і калекцыянера Аляксея Радзівонава. Куратарка — Ала Зміёва, вядомая галерыстка і выдавец.

Манпарнас... Назва гэтага раёна, непрыкметнага мястэчка ў пачатку ХХ стагоддзя, стала легендарнай. Цэнтрам гэтага манпарнаскага братэрства быў так званы «Вулей» («La Ruche») — інтэрнацыянальны інтэрнат для маладых мастакоў-эмігрантаў з майстэрнямі ў доме пад шпілем ратонды. «Вулей» — гэтая «віла Медычы для беднякоў» — стаў у 1910-я прыкладна такім жа мастацкім аазісам, якім быў на Манмартры стары дом Бато-Лавуар — першы прыстанак маладога Пікаса. Менавіта адсюль ён крышку раней за нашых землякоў пачынаў свой асляпляльны шлях па лесвіцы, што вяла ўверх, і доўгія гады сябраваў і з беларускімі манпарнасцамі — Шагалам і Цадкіным. Праўда, чалавечыя стасункі з суседам па майстэрні Суціным у Шагала не зладзіліся, але Марк Захаравіч, тым не менш, паважаў своеасаблівы талент земляка-небаракі. Па вялікім рахунку, «Вулей» на працягу чвэрці стагоддзя — з 1905 па 1930 год — з'яўляўся цэнтрам артыстычнага жыцця Парыжа, ды і ўсёй Еўропы.

...У сярэдзіне 1950-х Марк Шагал пачаў працаваць у тэхніцы каляровай літаграфіі (да гэтага ён, акрамя жывапісу, шмат рабіў афортаў на біблейскія тэмы). Яркія і святочныя, біблейскія сюжэты Шагала, якія экспанаваліся на выставе, на першы погляд, да наіўнага простыя ў выкананні: быццам бы дзіцё малявала сур'ёзную дарослую кніжку. Але ўсе гэтыя 13 маленькіх кампазіцый прасякнуты такой першабытнай стыхійнай сілай і гармоніяй, ажно разумееш: Шагал ведаў, што рабіў! Старадаўнія іўдзейскія тэксты напоўнены нейкім святлоадчувальным агнём адроджанага таінства, дзе ўвасоблены ў роўнай ступені «зямное» і «нябеснае».



2.

**Baris Krepak**

Huit peintres qui ont été représentés dans l'exposition du Musée national d'histoire, sont très différents, parfois opposés en ce qui concerne leurs caractéristiques humains, psychiques et physiques, stylistiques, intellectuels et d'autres. Mais ce qui importe c'est ce qui était propre à eux: une honnêteté incorruptible, une profonde sincérité, un sens de l'entraide, une lutte pour la survie professionnelle dans les conditions d'une existence complexe dans la capitale française, une aspiration à s'intégrer d'une manière organique dans une vie, pas toujours facile à comprendre, et à trouver son destin, sa formule de succès individuelle. Et il faut dire qu'ils ne sont pas devenus «ermites», ne se sont pas repliés sur eux-même, mais presque tous ont réussi à s'inscrire dans l'environnement français, ont accepté ses codes spirituels très fins, ont appris à respecter une autre manière de penser. Avec cela, et ce qui est très important, ils ont gardé leur individualité artistique. Et même si les œuvres, que nous avons vues à l'exposition, dans leur majorité sont datées de la période de l'après seconde guerre mondiale (à part des lithographies de Robert Guénine de 1915) – elles sont toutes d'après leurs paramètres imagés et plastiques entièrement de là-bas – des premières décennies bénies du XX siècle.

Marc Chagall, Ossip Zadkine, Mikhaïl Kikoïne, Pinchus Krémègne, Eugène Zak, Ossip Lubitch, Schraga Zarfin, voilà les noms des peintres dont des peintures et des œuvres graphiques ont été présentées à un visiteur reconnaissant. Toutes les cent oeuvres sont venues de collections privées biélorusses, ainsi que de la collection privée du critique artistique et collectionneur de Saint Pétersbourg Alexei Radionov. La curatrice était Alla Zmieva, célèbre éditrice et galeriste.

Montparnasse... Le nom de ce lieu, un bourg de peu d'importance au début du XX siècle, est devenu légendaire. Et c'est la soi-disante Ruche – foyer international pour les jeunes peintres émigrés avec des ateliers dans l'immeuble sous la pointe de la rotonde qui constituait le centre de cette confrérie de Montparnasse. La «Ruche», cette «villa Médicis pour les pauvres», est devenue en 1910 un oasis artistique à peu près le même que le Bâteau-Lavoir à Montmartre – premier refuge du jeune Picasso. C'est justement là, un peu plus tôt que nos compatriotes, qu'il a commencé son parcours éblouissant sur l'escalier qui menait en haut, et il entretenait des relations d'amitié pendant de nombreuses années avec les résidents biélorusses de Montparnasse – Chagall et Zadkine. Il est vrai que les rapports humains de Chagall avec son voisin à l'atelier Chaïm Soutine n'allaient pas bien, tout de même Marc Chagall respectait un talent spécifique de son compatriote - pauvre diable. A bien y regarder, la «Ruche» durant un quart de siècle – de 1905 à 1930 a été un centre de la vie artistique de Paris, voire même de l'Europe entière.

Au milieu des années 1950, Marc Chagall a commencé à utiliser la lithographie en couleur (jusque là, à part la peinture, il faisait pas mal d'eau-fortes inspirées par les sujets bibliques). De couleurs éclatantes et festifs, les sujets bibliques de Chagall qui étaient exposés, à première vue, sont simples jusqu'à naïveté d'après leur exécution: on dirait que c'est un enfant qui a dessiné un livre

Да нядаўняга часу былы смілаўчанін Сэм (Файбіш-Шрага) Царфін, непасрэдны зямляк Хаіма Суціна, быў у Беларусі амаль невядомы. У 1930-я, ужо грамадзянін Францыі, Царфін шмат працаваў не толькі ў жывапісе, але і ў прыкладной творчасці. Аднак Суцін, убачыўшы аднойчы пейзажы і нацюрморты земляка, параіў яму кінуць прыкладное мастацтва і цалкам аддацца свайму сапраўднаму прызванню — жывапісу. На выставе мы ўбачылі і цудоўныя жывапісныя работы 1940 — 1960-х (фігуратыўныя кампазіцыі, нацюрморты, урбаністычныя і лірычныя пейзажы), якія ён маляваў у Рані-су-Буа, пад Парыжам, дзе мастак жыў пасля вайны, і цэлых восем цікавых акварэльна-гуашавых эскізаў тканін, выкананых у пачатку 1930-х.

Яўген (Эжэн) Зак, які нарадзіўся ў вёсцы Магільна Ігуменскага павета Мінскай губерні (зараз Уздзенскі раён Мінскай вобласці), пражыў зусім мала — 41 год. Памёр ад інфаркту, але застаўся ў гісторыі мастацтва як таленавіты самабытны жывапісец-неакласіцыст (дарэчы, ён вельмі любіў «блакітны» і «ружовы» перыяды маладога Пікаса, што адчуваецца ў яго мастацтве), а таксама кніжны графік. У экспазіцыі прадстаўлены некалькі ілюстрацый да кнігі вершаў у прозе Рэнэ Марана «La porte louder». Успамінаю, як я ў дзяцінстве ў бібліятэцы майго дзеда знайшоў кніжку гэтага француза пад назвай «Батуала» (пра цяжкае жыццё неграў), перакладзеную, здаецца, у пачатку 1920-х на рускую мову. Але хто яе ілюстраваў — не помню. Мо Яўген Зак?

Шэсць маляўнічых работ Пінхуса Крэменя, выдатнага мастака, ураджэнца мястэчка Жалудок Лідскага павета Гродзенскай губерні (цяпер — Шчучынскі раён Гродзенскай вобласці), былі прадстаўлены ў экспазіцыі, хоць адна карціна — «Зімовы гарадскі пейзаж» — была выканана не ў прывычнай «крэменьскай» пластычнай манеры гэтага «жывапіснага лірыка». Астатнія — нацюрморты і жаночы партрэт — моцныя, асляпляльныя па яркасці фарбаў, звонкія па жывапісе.

Міхаіл Кікоін, ураджэнец горада Гомеля, быў прадстаўлены ўсяго двума палотнамі: «Паўднёвым пейзажам» і партрэтам княгіні Мэй Мак-Дугал дэ Лесепс, а таксама алоўкавым накідам «Ню». Сяброўка многіх манпарнасцаў таго часу Марыя Вараб'ёва-Стэбельская (Марэўна) у сваіх мемуарах «Маё жыццё з мастакамі «Вулля»» пісала: «Палотны Кікоіна па сваёй востравыразнай колеравай дынаміцы, пабудаванай на свабоднай гульні святлаценю і яркасці фарбаў, выклікаюць незвычайную экспрэсію і свежасць пачуццяў...» І гэта сапраўды так.

Пра былога віцябляніна Восіпа Цадкіна, вучня Юдаля Пэна і блізкага сябра Марка Шагала, шмат гаварыць не трэба: яго імя як вялікага скульптара, аўтара знакамітага помніка «Разбураны горад» у Ратэрдаме, як графіка — у авангардзе сусветнага мастацтва. У экспазіцыі было 11 каляровых і чорна-

**АЛА ЗМІЁВА, куратарка экспазіцыі:**

*«Мы прадставілі шырокаму гледачу шыкоўную выставу, складзеную з твораў мастакоў Парыжскай школы, старанна адабраных у адпаведнасці з патрабавальным густам прыватных калекцыянераў. Некаторыя творы ўпершыню аказаліся ў публічным доступе. У экспазіцыі глядач мог убачыць сто твораў розных жанраў, датаваных з 1915-га па 1970-я гады мінулага стагоддзя, выкананыя ў розных тэхніках жывапісу і графікі.*

*Першым значным крокам па вяртанні імёнаў мастакоў-ураджэнцаў тэрыторыі сучаснай Беларусі стала стварэнне мемарыяльнага музею на радзіме Хаіма Суціна ў пасёлку Смілавічы. Сёння ў гэтым музеі адкрытая зала іншага мастака, які нарадзіўся ў гэтым мястэчку больш за стагоддзе таму, — Шрагі Царфіна. Некалькі гадоў таму міжнародная навуковая канферэнцыя «Суцінскія чытанні» сабрала ў Мінску і Смілавічах сапраўдны «зорны» склад даследчыкаў Парыжскай школы. Сёння сувязі спецыялістаў з Францыі, Расіі, Літвы і Беларусі ўжо сталі рэгулярнымі і праяўляюцца ў арганізацыі сумесных выстаў і канферэнцый, а таксама ў перакладзе і выданні даследаванняў і манаграфій, прысвечаных Ecole de Paris. Сёння ёсць перадумовы для арганізацыі пастаяннай экспазіцыі Восіпа Любіча на яго радзіме ў Гродзенскім музеі...»*

sérieux pour les adultes. Et pourtant, toutes ces 13 petites compositions sont pénétrées d'une telle force primitive spontanée et d'harmonie, et tout de suite, on réalise: Chagall savait ce qu'il faisait! Les anciens textes hébreux sont remplis d'un feu phototrophe du sacrement régénéré où sont incarnés à part égale le «terrestre» et le «céleste».

Jusqu'à récemment, originaire de Smilavitchi Sam (Faïbich-Schraga) Zarfin, natif de la même ville que de Chaïm Soutine, était presque inconnu au Bélarus. En 1930, déjà citoyen de France, Zarfin travaillait beaucoup dans la peinture et dans l'art appliqué. Mais Soutine, après avoir vu ses paysages et nature-mortes lui a conseillé d'abandonner l'art appliqué et s'adonner entièrement à sa véritable vocation — la peinture. À l'exposition, nous avons vu aussi bien de formidables peintures 1940—1960 (compositions picturales figuratives, nature-mortes, paysages urbains et lyriques) qu'il a peintes à Rosny-sous-Bois près de Paris où le peintre vivait après la guerre, et huit intéressantes esquisses de tissus, peintes à l'aquarelle et à la gouache début 1930.

Eugène Zak qui est né au village Mahilna, district d'Uzda, région de Minsk, et a vécu très peu — 41 ans. Il est mort d'un infractus, mais il a marqué l'histoire de l'art en tant que peintre-néoclassique, talentueux et original, (à propos,il aimait beaucoup les périodes «bleu» et «rose» du jeune Picasso, ce qui se ressent dans ses oeuvres) et dessinateur de livres.

À l'exposition sont présentées quelques illustrations pour le livre de poèmes en prose de René Moran «La porte louder».

Je me rapelle que dans mon enfance, j'ai trouvé dans la bibliothèque de mon grand-père un livre de cet auteur français intitulé «Batouala» (sur la vie dure des noirs), traduit en russe, il me semble au début des années 1920. Mais je ne me souviens pas qui l'a illustré. Peut-être Eugène Zak?

Six peintures pittoresques de Pinchus Krémègne, un peintre remarquable, originaire du bourg Zhaludok, district de Stchuchin, région de Grodno, étaient présentées à l'exposition, il est vrai qu'un tableau — «Paysage urbain d'hiver» — n'était pas peint à la manière plastique habituelle de Krémègne, ce «peintre lyrique». Les autres — nature-mortes et un portrait de femme sont forts, éblouissants pour ce qui concerne la vivacité des couleurs,et parlants d'après la manière de peindre.

Mikhaïl Kikoïne, originaire de Gomel, était représenté par deux toiles: «Paysage sud», et par un portrait de la princesse May Mac-Dougall de Lesseps, ainsi que par une ébauche au crayon «Nue». Amie de plusieurs résidents de Montparnasse de l'époque Marie

**ALLA ZMIEVA, curateur de l'exposition:**

*«Nous avons présenté au grand public une formidable exposition composée d'œuvres de peintres de l'école de Paris, soigneusement choisis compte tenu du goût exigent des collectionneurs privés. Certaines œuvres ont été présentées pour la première fois au grand public. L'exposition a permis aux visiteurs de voir cent œuvres de différents genres datées de 1915 à 1970 du siècle passé, exécutées selon les techniques différentes de peinture et de dessin.*

*Le premier pas dans le retour des noms des peintres originaires du territoire de l'actuel Bélarus a été la création d'un musée mémorial au pays de Chaïm Soutine, au bourg de Smilavichi. Actuellement, dans ce musée est ouvert un autre salon dédié au peintre qui est né dans ce bourg il y a cent ans — Schraga Zarfin. Il y a quelques années, une conférence scientifique internationale «Lectures de Soutine» a réuni à Minsk et à Smilavichi un véritable corps «étoilé» de chercheurs de l'école de Paris. De nos jours, les contacts entre les spécialistes de France, Russie, Lithuanie et Bélarus sont devenus réguliers et se manifestent dans l'organisation des expositions et conférences communes, ainsi que dans la traduction et publication des recherches et des monographies consacrées à l'école de Paris. Aujourd'hui, il existe des conditions pour organiser une exposition permanente d'Ossip Lubitch dans sa ville natale au Musée de Grodno...»*


3.

белых літаграфій і адзін афорт. Аднак і па гэтых творах («Два цені», «Чорны бог», «Вясковыя музыкі», «Размова», «Агнявы анёл», «Гітарыст» і інш.) можна адчуць цадкінскую канцэпцыю мастацтва: адданая любоў да чалавека, прыроды, антычнай і біблейскай міфалогіі, музыкі і паэзіі. Жывы рух душы, дынаміка, экспрэсія, наватарскія «кубістычныя» ўсплёскі ад бурнага манпарнасаўскага юнацтва — усё гэта было ў працах Цадкіна на выставе.
Радзімай Восіпа Любіча, як і выдатнага мастака Леона Бакста, з'яўляецца Гродна. Ён, як і Царфін, належыць да «позняй» Парыжскай школы. Пасяліўся ў Парыжы толькі ў пачатку 1920-х, да гэтага яго жыццё праходзіла ў Адэсе, дзе ён вучыўся ў мастацкім вучылішчы, і ў Берліне, дзе распісваў дэкарацыі для тэатраў. Працаваў у розных жанрах жывапісу, захапляўся афортам. У экспазіцыі было паказана больш за дваццаць яго твораў: ад алейнага жывапісу (фігуратыўныя карціны, пейзажы, нацюрморты) да афортаў, акварэлі і алоўкавых кампазіцый, у тым ліку з вядомага цыкла «Арлекіны».
Роберт Генін паходзіў з вёскі Высокае Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні. Мастацкую адукацыю атрымаў у Вільні (яшчэ раней за Суціна, Кікоіна і Крэменя) і ў Адэсцкім мастацкім вучылішчы, дзе потым вучыўся Восіп Любіч. А на Манпарнас перабраўся ў першыя гады XX стагоддзя. Ён — адзіны з «манпарнасцаў», хто ў 1936-м вярнуўся ў СССР, каб, як наіўна спадзяваўся, сваімі манументальнымі фрэскамі прысвяціць мастакоўскі талент будаўніцтву сацыялізму. Але ідэолагі сацрэалізму Геніна не зразумелі...
У экспазіцыі быў прадстаўлены «мюнхенскі» цыкл генінскіх літаграфій «Жанчына на вайне». Сімволіка, экспрэсіўнасць, гнуткасць ліній, рухавасць

Vorobiev-Stebelska (Marevna) écrivait dans ses mémoires «Ma vie avec les peintres de la Ruche»: «Les toiles de Kikoïne d'après leur dynamique de couleur expressive, construite sur un libre jeu d'ombre et de lumière, et l'éclat de couleurs, provoquent une expression extraordinaire et une fraîcheur des sensations...», et c'est vraiment le cas.
Il n'est pas nécessaire de parler beaucoup de l'originaire de Vitebsk, Ossip Zadkine qui était élève d'Ioudal Pen et ami proche de Marc Chagall: son nom en tant que grand sculpteur, auteur du célèbre «Monument à la Ville détruite de Rotterdam», en tant que dessinateur est à l'avant-garde de l'art mondial. L'exposition comprenait 11 lithographies, de couleur et noir et blanc, et une eau-forte. Et même, d'après ces œuvres-là («Deux ombres», «Dieu noire», «Des Musiciens de village», «Un Entretien», «l'Ange de feu», «Un guitariste», et d'autres) il est possible de ressentir le concept artistique de Zadkine: un amour dévoué de l'homme, de la nature, de la mythologie, antique et biblique, de la musique et de la poésie. Du mouvement vif de l'âme, de l'expression, des rejaillissements «cubistes» novateurs de la jeunesse folle à Montparnasse, tout ça était présent dans les œuvres exposées de Zadkine.
La ville natale d'Ossip Lubitch aussi bien que du formidable peintre Léon Bakst est Grodno. Il appartient aussi bien que Zarfin à l'école de Paris «tardive». Il s'est installé à Paris seulement au début des années 1920, jusqu'à là, il vivait à Odessa où il faisait ses études dans une école artistique, et à Berlin où il peignait des décors de théâtre. Il travaillait dans plusieurs genres de peinture, se passionnait pour l'eau-forte. A l'exposition étaient présentées plus d'une


4.

vingtaine de ses œuvres: à commencer par des peintures à l'huile (des tableaux figuratifs, paysages, nature-mortes) jusqu'à des eaux-fortes, des aquarelles et des compositions au crayon, y compris de la célèbre série «Arlequins».
Robert Guénine est originaire du village Vysokoye, district de Klimovichi, région de Mogilev. Il a reçu sa formation artistique à Vilnius (plus tôt que Soutine, Kikoïne, Krémègne) et à l'Ecole artistique d'Odessa où plus tard faisait ses études Ossip Lubitch. Et c'est au début du XX siècle qu'il s'est installé à Montparnasse. Il est le seul des «Montparnassiens» à retourner en 1936 en URSS afin de pouvoir, comme il espérait naïvement, avec ses fresques monumentales consacrer son talent à la construction du socialisme. Mais les idéologues du socialisme n'ont pas compris Guénine.
A l'exposition était présentée la série «munichoise» de lithographie des Guénine «Femme à la guerre». Symbolisme, expressivité, souplesse de lignes, vivacité de contours, déformation de figures et objets, tout ça est axé sur l'essentiel: sur le renforcement de la tension émotionnelle. C'est ainsi que le peintre a vu la grande drame des femmes pendant la Première guerre mondiale.


5.

контураў, дэфармацыя фігур і прадметаў — усё гэта скіравана на галоўнае: на ўзмацненне эмацыйнага напружання. Так мастак пабачыў вялікую драму жанчын падчас Першай сусветнай вайны.
Літаральна пра кожнага персанажа гэтай выставы можна напісаць асобную кнігу. Пра некаторых мастакоў шыкоўныя альбомы і каталогі даўно існуюць, праўда, выдадзеныя ў асноўным не на іх радзіме. Але я часта кажу: час раскідваць камяні — у мінулым, цяпер прыйшоў час збіраць камяні — вяртаць страчаныя імёны. І за гэта мая падзяка тым прыватным калекцыянерам, якія прадставілі на гэтую выставу творы нашых суайчыннікаў-«манпарнасцаў».
Зразумела, яшчэ шмат недаследаванага засталося ў гісторыі беларускай шматаблічнай і неардынарнай культуры. Таму і важна сёння — ліквідаваць гэтыя белыя плямы, якія ў розныя перыяды біяграфіі краіны ўзніклі не па нашай віне.

On peut écrire un livre pratiquement sur chaque personnage de cette exposition. Des catalogues et des albums dédiés à certains peintres existent déjà, il est vrai, la majorité est publié en dehors de leur pays natal. Mais je me plais à répéter que le temps pour lancer des pierres fait partie du passé, le moment est venu d'en ramasser c'est à dire de faire revenir les noms oubliés. J'en remercie tous ces collectionneurs privés qui ont présenté à cette exposition des œuvres de nos ressortissants «montparnassiens».
Il est certain qu'il reste encore beaucoup à explorer dans l'histoire de la culture biélorusse, multiforme et extraordinaire. C'est pourquoi il est important aujourd'hui d'enlever ces taches blanches qui sont survenues dans de diverses périodes de notre pays, et pas de notre faute.



1. Восіп Любіч. Брычка. Каляровая літаграфія.Каля 1940-га. / Ossip Lubitch. Calèche. Lithographie en couleur. Env. 1940. © ADAGP
2. Восіп Любіч. Цыркачы. Алей. Каля 1930-х. / Ossip Lubitch. Artistes de cirque. Huile. Env. 1930. © ADAGP
3. Пінхус Крэмень. Нацюрморт на дыване. Алей. Каля 1950. / Pinchus Krémègne. Nature morte sur un tapis. Huile. Env.1950. © ADAGP
4. Роберт Генін. Удава. Папера, аўталітаграфія, каляровая крэйда. 1915. / Robert Guénine. Une veuve. Papier, autolithographie, craie de couleur. 1915. © ADAGP
5. Файбіш-Шрага Царфін. Сабор св. Ранана ў Лакранане. Алей. 1968. / Faibish-Schraga Zarfin. Cathédrale de Saint Ronan à Locronan. Huile. 1968. © ADAGP
6. Восіп Любіч. Паўднёвы пейзаж. Алей. Каля 1950-х. / Ossip Lubitch. Paysage de Sud. Huile Env.1950. © ADAGP
7. Міхаіл Кікоін. Паўднёвы краявід. Алей. Каля 1960-х./ Mikhail Kikoïne. Paysage de Sud. Huile. Env.1960. © ADAGP

# Палёты «Вулля»
# Les vols de «La ruche»

1.

**Ала Лаўрыновіч**

У Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі імя Хаіма Суціна можна не толькі вывучыць азы выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, спеваў і харэаграфіі, але і тонкасці баявых адзінаборстваў, дасканаліць сябе на занятках шэйпінгам і ў школе ёгі.

2008 год стаў вызначальным у жыцці Цэнтра — адбылося адкрыццё ўнікальнага музея «Прастора Хаіма Суціна», прысвечанага жыццю і творчасці гэтага ўраджэнца Смілавіч і вядомага мастака Парыжскай школы. Музей можа стаць тым пунктам адліку, дзякуючы якому кожнае дзіця, падлетак можа знайсці ў сабе жаданне працягваць вялікія традыцыі знакамітых землякоў.



2.

Лагічным наступным крокам даследчай работы стала адкрыццё ў 2015-м трэцяй залы музея, прысвечанага яшчэ аднаму мастаку Парыжскай школы і таксама ўраджэнцу Смілавіч Шрагу Царфіну.

Знамянальнай вяхой у гісторыі Цэнтра стаў і 2016 год, калі быў дадзены старт арт-цэнтру «Вулей» для юных мастакоў, мэта якога — выяўленне і развіццё мастацкіх здольнасцей навучэнцаў. Асноўны акцэнт зроблены на творчай дзейнасці дзяцей і падлеткаў, на знаёмстве іх з гісторыяй і культурнай спадчынай Беларусі і свету, на развіццё садружнасці. У развіцці нашага Цэнтра мы рухаемся ад простага да складанага, ад невядомага да спазнанага. Цяпер нашы дзеці ўпэўнены ў сваіх сілах і робяць усё магчымае для дасягнення самых смелых ідэй і задумак. Рэгулярны ўдзел у міжнародных конкурсах і выставах толькі сёлета прынёс 68 міжнародных дыпломаў. Напрыклад, дыплом пераможцы атрымала Анастасія Гурская ў Санкт-Пецярбургу ў рамках II Міжнароднай праграмы «Прафарыентацыя юных мастакоў», Залаты медаль і Дыплом пераможцы прывезла Вікторыя Андрэйчык з Міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка «Намалюй мне свет».

**Alla Lavrynovich**

L'année 2008 a été décisive dans la vie du Centre artistique Chaïm Soutine pour les enfants et les jeunes en raison de l'ouverture d'un musée exceptionnel «L'espace Chaïm Soutine», consacré à ce natif de Smilovichi et artiste peintre de l'école de Paris. Le musée peut devenir un point de référence susceptible d'éveiller dans chaque enfant, adolescent l'envie de perpétuer les grandes traditions des célèbres compatriotes.

Logiquement, le travail de recherche a conduit à l'étape suivante — l'ouverture en 2015 de la troisième salle du musée consacrée à un autre artiste peintre de l'école de Paris, lui aussi originaire de Smilovichi — Schraga Zarfin.

L'année 2016 a également été une étape importante dans l'histoire du Centre, un centre d'art pour les jeunes artistes «La ruche» a été ouvert, dont le but est d'identifier et de développer les capacités artistiques des élèves. L'accent principal est mis sur les activités artistiques des enfants et des adolescents, sur leur initiation à l'histoire et au patrimoine culturel du Bélarus et du monde entier, et sur le développement de la communauté artistique. Pour le développement de notre Centre, nous passons du simple au complexe, du connu à l'inconnu. Nos enfants ont confiance en leur force et font tout leur possible pour réaliser des idées et des projets les plus audacieux. Rien que cette année-là, la participation régulière à des concours et à des expositions internationales a rapporté 68 diplômes internationaux. Par exemple, Anastasia Gurskaya a remporté la victoire à Saint-Pétersbourg dans le cadre du II Programme International «L'orientation professionnelle des jeunes artistes», et la médaille d'or et le diplôme de victoire ont été remportés par Victoria Andreichik au concours international de dessins pour enfants «Dessine-moi le monde».

En juin 2018, des oeuvres d'élèves du centre d'art «La ruche» ont été présentées à l'école d'art pour enfants Adoma Braque à Klaipeda. Dans la perspective de la





У чэрвені 2018 гады работы навучэнцаў арт-цэнтра «Вулей» былі прадстаўлены ў дзіцячай мастацкай школе імя Адома Брака ў Клайпедзе. У перспектыве супрацоўніцтва і зваротная выстава прац дзяцей з Клайпеды ў Смілавічах і арганізацыя творчых конкурсаў, паездка групы «Вулля» ў Літву на сумесны пленэр.

А ў невялікім мястэчку Шампіны-сюр-Вод у Францыі, дзе правёў апошнія гады жыцця Хаім Суцін, хаваючыся ад нацыстаў падчас Другой сусветнай вайны, 15 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Bonjour M.Soutine», складзенай з 29 дзіцячых работ арт-цэнтра «Вулей». Узрост удзельнікаў: ад 8 да 15 гадоў. Выстава афіцыйна была ўключана ў каляндар культурных падзей у Францыі.

Цырымонія адкрыцця адбылася ў рамках дзён Еўрапейскай культурнай спадчыны ў мэрыі Шампіны-сюр-Вод пры падтрымцы і актыўным удзеле Пасольства Беларусі ў Францыі, Пасольства Францыі ў Беларусі, ААТ «Белгазпрамбанк», Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, прыватнай установы культуры «Спадчына і час».

Па выніках першага года навучання ў арт-цэнтры «Вулей» дзвюм найбольш таленавітым і яркім яго ўдзельніцам Анастасіі Гурскай і Галіне Міцынскай была дадзена ўнікальная магчымасць асабіста прысутнічаць на цырымоніі адкрыцця разам з педагогам Аленай Карнеенка.

Аташэ па культуры Віталь Корнеў і першы сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі Васіль Панарадаў высока ацанілі творчасць хлопчыкаў і дзяўчынак са Смілавіч і выказалі пажаданні далейшага творчага развіцця і самарэалізацыі ў мастацтве.

Прысутныя госці, у тым ліку мэры некалькіх бліжэйшых гарадоў, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі французскай прэсы і проста аматары мастацтва і мясцовыя жыхары, мелі магчымасць не толькі пазнаёміцца з выставай, але паўдзельнічаць у майстар-класах па жывапісе, якія падрыхтавалі і правялі для ўсіх жадаючых Анастасія Гурская і Галіна Міцынская.

Выстава праехала яшчэ па некалькіх гарадах Францыі і доўжылася да канца кастрычніка.

Падарункам для нашай мастацкай дэлегацыі стала экскурсія па Парыжы: Манмартр, Эйфелева вежа, Сабор Парыжскай Божай Маці, Луўр, цудоўны Люксембургскі сад, помнік Суціну – уся гэтая прыгажосць будзе натхняць юных творцаў на далейшыя творчыя здзяйсненні.

coopération, il est prévu d'organiser une exposition d'œuvres d'enfants de Klaipeda à Smilovichi et des concours artistiques, un voyage du groupe «La ruche» en Lituanie pour une séance commune de peinture en plein air.

Et c'est dans la petite ville de Champigny-sur-Veude en France, où Chaïm Soutine a passé les dernières années de sa vie en se cachant des nazis au cours de la Seconde Guerre mondiale, qu'a eu lieu, en septembre 2018, la cérémonie d'ouverture de l'exposition «Bonjour M.Soutine», composée de 29 œuvres d'enfants du centre d'art «La Ruche», âgés de 8 à 15 ans. L'exposition a été officiellement inscrite au calendrier des manifestations culturelles en France.

La cérémonie d'ouverture a eu lieu dans le cadre des Journées européennes du patrimoine à l'hôtel de ville de Champigny-sur-Veude avec le soutien et la participation active de l'Ambassade du Bélarus en France et de l'Ambassade de France au Bélarus, de SA «Belgazprombank», du Comité exécutif de la région de Minsk et de l'institution culturelle privée «Héritage et temps».



À l'issue de la première année d'études au centre artistique «La ruche», les deux élèves les plus brillantes et talentueuses Anastasia Gurskaya et Galina Mitsinskaya ont eu l'occasion d'assister à la cérémonie d'ouverture, accompagnées de leur professeure Elena Karneenka.

Le Conseiller culturel Vitaly Kornev et le premier secrétaire de l'Ambassade de la République du Bélarus en France Vasily Ponoriadov ont beaucoup apprécié la créativité des jeunes filles et garçons de Smilovichi et leur ont souhaité de s'accomplir professionnellement et de s'épanouir sur le plan personnel.

Les invités présents, parmi lesquels les maires de plusieurs villes voisines, des personnalités publiques, des représentants de la presse française, de simples amateurs d'art, ainsi que les habitants de Champigny-sur-Veude ont eu l'occasion non seulement de se familiariser avec l'exposition, mais également de participer à des cours de peinture préparés et donnés par Anastasia Gurskaya et Galina Mitsinskaya.

L'exposition est passée par plusieurs autres villes en France et a duré jusqu'à la fin d'octobre.

Ce fut un cadeau pour notre délégation artistique de pouvoir visiter Paris: Montmartre, la tour Eiffel, la cathédrale Notre-Dame de Paris, le Louvre, le magnifique jardin du Luxembourg, le monument à Soutine – toute cette beauté va inciter les jeunes créateurs à de nouvelles réalisations artistiques.



**1. Кавярня ў Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі. / Le café au Centre artistique pour les enfants et les adolescents.**

**2. Інсталяцыя Паўла Вайніцкага ў двары Цэнтра. / Une installation de Pavel Voinitski dans la cour du Centre.**

**3. Юлія Хасеневіч. 13 год. Рэшткі былой велічы. Батык. / Julia Hasenevich. 13 ans. Les restes de la grandeur passée. Batik.**

**4. Анастасія Гурская. 14 год. Партрэт незнаёмца. Гуаш. / Anastasia Gurskaya. 14 ans. Le portrait d'un inconnu. Gouache.**

**5. Арына Міхайлоўская. 13 год. Зімовая алея. Батык. / Arina Mikhailovskaya. 13 ans. Une allée d'hiver. Batik.**

**6. Майстар-клас у Шампіны-сюр-Вод. / Des cours de peinture à Champigny-sur-Veude.**

# Любімы фатограф Радэна
# Le photographe préféré de Rodin


1.

ЖЫЦЦЁ ПЯТРА ШУМАВА ВЫРАЗНА ПАДЗЯЛІЛАСЯ НА ДВА ПЕРЫЯДЫ: ГРОДЗЕНСКІ — ЧАС ШУМАВА-РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА, І ПАРЫЖСКІ — ЧАС ШУМАВА-МАСТАКА, ЯКІ НАЗІРАЎ ЗА СВЕТАМ, ІМКНУЎСЯ ЗАФІКСАВАЦЬ ЯГО ВА ЎСЁЙ ЗМЕНЛІВАСЦІ І РАЗНАСТАЙНАСЦІ.

LA VIE DE PETR CHOUMOFF S'EST CLAIREMENT DIVISÉE EN DEUX PÉRIODES — LA PÉRIODE DE GRODNO — L'ÉPOQUE DU CHOUMOFF RÉVOLUTIONNAIRE, ET LA PÉRIODE PARISIENNE — L'ÉPOQUE DU CHOUMOFF ARTISTE, QUI OBSERVAIT LE MONDE, ASPIRAIT À LE CAPTURER DANS TOUTE SA VARIABILITÉ ET SA DIVERSITÉ.

**Андрэй Вашкевіч**

Пётр Шумаў нарадзіўся 13 сакавіка 1872 года ў Гродне. Бацька Іван паходзіў з тульскіх дваран і быў прысланы ў заходнія губерні Расіі ў 1864-м. Ён займаў досыць высокае становішча ў іерархіі чыноўнікаў Гродна.

У 1892 годзе Пётр Шумаў скончыў гродзенскую гімназію і паступіў у тэхналагічны інстытут у Санкт-Пецярбургу. Там ён пачаў актыўна працаваць у сацыялістычных гуртках, нават некаторы час перахоўваў нелегальную студэнцкую бібліятэку. Але ў турму трапіў у сваім родным горадзе за справу па арганізацыі рабочых на барацьбу за свае правы. Пятру забаранілі жыць у сталіцы імперыі, і ён паступіў у тэхналагічны інстытут у Харкаве адразу на трэці курс факультэта хіміі. Але рэвалюцыйная дзейнасць настолькі захапіла яго, што ўжо ў лютым 1899 г. Шумаў быў з інстытута выключаны. На гэтым яго сістэматычная адукацыя скончылася. Агулам у 1894—1907 гадах Пятра Шумава арыштоўвалі шэсць разоў.

Пасля няўдалай першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 Шумаў стаў перад выбарам: або шматгадовая турма, або эміграцыя. У 1908 годзе ўжо быў у Парыжы. Тут ён сустрэў свайго знаёмага, таксама рэвалюцыянера, Яна Стружэцкага, які працаваў фатографам, і гэта вызначыла далейшы лёс Шумава, ён таксама пачаў навучацца майстэрству фатаграфіі.

Паколькі Пётр Шумаў ведаў хімію і меў добрую гуманітарную падрыхтоўку, то быў у стане злучыць якасць фотаздымкаў з артыстызмам і майстэрствам іх выканання. У 1911 годзе, валодаючы ўжо дастатковым вопытам, ён адкрыў уласную фотамайстэрню. Каб лепш уліцца ў творчае асяроддзе французскай сталіцы, Пётр Шумаў змяняе сваё імя на П'ер Шумофф і хутка становіцца ці не самым папулярным фатографам Парыжа. Найважнейшым кліентам і сябрам Пятра Шумава стаў знакаміты скульптар і мастак Агюст Радэн — адзін з творцаў і самых яскравых прадстаўнікоў імпрэсіянізму. З 1911 года і аж да смерці Радэна Шумаў зрабіў некалькі соцень яго здымкаў — у майстэрні падчас працы, у кабінеце, а таксама перад пахаваннем... Здымкі Радэна, зробленыя Пятром Шумавым, — выключна важная жыццёвая хроніка вялікага скульптара. Працы Шумава падабаліся мастаку сваім імпрэсіяністычным падыходам да

**Andreï Vashkevitch**

Petr Choumoff était né le 13 mars 1872 à Grodno. Son père Ivan, issu de la noblesse de Toula, fut envoyé dans les provinces occidentales de Russie en 1864. Il occupait un poste assez important dans la hiérarchie des fonctionnaires de Grodno.

En 1892, Petr Choumoff termina ses études au gymnase de Grodno et entra à l'Institut technologique de Saint-Pétersbourg. Là-bas, il commença à travailler activement dans des cercles socialistes. Pendant un certain temps, il a même caché une bibliothèque clandestine pour les étudiants. Mais c'est dans sa ville natale qu'il se retrouva en prison pour avoir organisé un mouvement pour la défense des droits des ouviers.

Il lui était interdit de résider dans la capitale impériale, et Choumoff entra à l'Institut technologique de Kharkov, directement en troisième année. Mais l'activité révolutionnaire l'avait tellement captivé, qu'en février 1899 Choumoff fut exclu de l'Institut. Ce fut la fin de son éducation systématique. Entre 1894 et 1907, Petr Choumoff fut arrêté six fois.

Après l'échec de la première révolution russe 1905—1907, Choumoff dut faire un choix: passer de longues années en prison ou bien émigrer. En 1908, il était déjà à Paris. C'est ici qu'il rencontra une de ses connaissances, lui aussi révolutionnaire, Yan Strujetsky, qui travaillait comme photographe, et c'est ce qui détermina le destin de Choumoff, il commença à apprendre les techniques de la photographie.

Puisque Petr Choumoff s'y connaissait en chimie et avait une bonne formation générale, il était en mesure d'allier la qualité des photographies à la créativité et à la maîtrise de leur réalisation. En 1911, ayant déjà une certaine expérience, il ouvrit son propre studio photo. Pour mieux s'intégrer dans les milieux artistiques de la capitale française, Petr Choumoff changea son prénom en Pierre Choumoff et devint rapidement un des plus célèbres photographes parisiens.

Le sculpteur et peintre Auguste Rodin, un des auteurs et le plus brillant des représentants de l'impressionnisme, devint le client le plus important et l'ami



выканання здымка – гульнёй са святлом і вытрымкай, выкарыстаннем рэтушы, часам наўмыснай размытасцю выявы...
Шумаў найбольш праявіў сябе як партрэтыст. Ён фатаграфаваў прадстаўнікоў польскай і расійскай інтэлігенцыі, французскіх міністраў і англійскіх лордаў. Кліенты задоўга запісваліся на візіт у яго майстэрню. Сам Шумаў выязджаў да таго, каго збіраўся здымаць, толькі ў выключных выпадках. Так, у 1920 годзе ён выканаў серыю здымкаў знакамітага мастака Клода Манэ. Гэты своеасаблівы фотарэпартаж быў падарункам Манэ ў дзень яго васьмідзесяцігоддзя.
1920-я гады – самыя лепшыя для Шумава як фатографа. Са знішчанай грамадзянскай вайной Расіі прыехалі шматлікія эмігранты – вучоныя, палітыкі, мастакі. Усе яны вельмі любілі фатаграфавацца ў Шумава. «Я вельмі ўдзячны вам за мае здымкі, поўныя жыцця і экспрэсіі», – пісаў Шумаву ў 1927 года Марк Шагал. У захапленні ад яго здымкаў былі Уладзімір Маякоўскі, Барыс Савінкаў, Марына Цвятаева, Альберт Энштэйн, Анатоль Франс і іншыя. Творчым людзям была даспадобы эксперыментальная манера майстра. Шумаў ніколі не садзіў чалавека проста тварам да аб'ектыва. Ён мог зрабіць здымак амаль са спіны, але, тым не менш, выдатна характарызаваў свайго кліента. Майстар таксама рабіў вельмі добрыя рэпрадукцыі шэдэўраў французскага мастацтва, за што атрымаў бронзавы медаль Французскага таварыства фатографаў. У 1925 годзе Пётр Шумаў стаў залатым медалістам мастацкай выставы ў Парыжы. Апрача дакументальнай і партрэтнай фатаграфіі ён займаўся фотарэпартажамі і так званай «фатаграфіяй моды». Напрыклад, выканаў рэпартаж з выставы карцін яшчэ аднаго знакамітага гродзенца Леона Бакста і фатаграфаваў мадэлей для вядомага часопіса «Les Modes».
Фотаспадчына Шумава вылучаецца стылістычнай і тэхнічнай цэльнасцю. Выкананыя ім партрэты лёгка пазнаюцца дзякуючы характэрнай эстэтыцы аўтара. Фатограф, па ўяўленні Шумава, – гэта ўнікальнае спалучэнне мастака і спецыяліста-тэхніка, які можа так апрацаваць негатыў, каб здабыць ідэальны, а значыць найбольш блізкі да прыроды вобраз. Гэта не азначае імкнення да рэалізму, а хутчэй гэта адлюстраванне зменлівасці, нетрываласці свету.
Эканамічны крызіс канца дваццатых гадоў негатыўна адбіўся на працы Пятра Шумава. Замоў было ўсё менш, і майстар вымушаны быў закрыць майстэрню. Некалькі разоў наведаўшы Польшчу, вырашыў пераехаць туды. У 1934 годзе з цяжкім сэрцам выехаў з Парыжа. Шумаў пасяліўся ў Лодзі і памёр тут 25 чэрвеня 1936 года. Пахаваны на мясцовых евангелісцкіх могілках.
Так выглядае кароткая хроніка жыцця гэтага выдатнага чалавека. Зробленыя ім здымкі сёння захоўваюцца ў многіх музеях і рэкламных агенцтвах свету, прадаюцца на аўкцыёнах антыкварыяту і цэняцца як сапраўдныя прадметы мастацтва. З пэўнасцю прыходзіць час, каб і родны горад і ўся Беларусь ушанавалі асобу Пятра Шумава – рэвалюцыянера і майстра фатаграфіі. Летась гродзенскі фатограф Аляксандр Ласмінскі вырашыў арганізаваць выставу твораў Шумава, але ў Беларусі знаходзяцца толькі тры ягоных арыгінальных негатывы. Каб звязацца з французскімі ўласнікамі арыгіналаў, Ласмінскі звярнуўся па дапамогу асабіста да пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі. У выніку праводзяцца перамовы па набыцці для Гродзенскага абласнога краязнаўчага музею калекцыі твораў Шумава – каля 50 фотаздымкаў славутых дзеячаў культуры і навукі, а таксама палітыкаў першай чвэрці XX стагоддзя. Фотаздымкі будуць надрукаваны на аснове шкляных негатываў, якія захоўваюцца ў Музеі Радэна, а таксама ў фондзе Ражэ Віале пры Гістарычнай бібліятэцы Парыжа.

**1. Агюст Радэн і гісторык мастацтва Леон Бенедзіт.** *Фота Пятра Шумава з фондаў УК ГДГАМ.* **/ Auguste Rodin et l'historien de l'art Léonce Bénédite.** *Photographie de Pierre Choumoff du fonds du Musée d'histoire et d'archéologie de Grodno.*
**2. Пётр Шумаў у 1920-я. / Pierre Choumoff dans les années 1920.**

de Pierre Choumoff. Dès 1911 et jusqu'à la mort de Rodin, Choumoff réalisa plusieurs centaines de ses photographies – dans son atelier en plein travail, dans son bureau, et aussi avant les obsèques... Les clichés de Rodin, réalisés par Pierre Choumoff – c'est une chronique exceptionnellement importante de la vie du célèbre sculpteur. Rodin appréciait les œuvres de Choumoff pour son approche impressionniste dans la réalisation d'une image, notamment, l'utilisation du jeu de lumière et d'exposition, de la retouche, parfois d'un flou intentionnel de l'image...
Surtout, Choumoff se fit connaître comme portraitiste. Il photographiait des représentants de l'intelligentsia polonaise et russe, des ministres français et des lords anglais. Pour se faire prendre en photo, les clients prenaient rendez-vous longtemps à l'avance. Choumoff ne se rendait au domicile de ses clients que dans des cas exceptionnels. Par exemple, en 1920 il réalisa une série de photographies du célèbre peintre Claude Monet. Ce fut une sorte de reportage photo offert en cadeau à Monet pour ses quatre vingts ans.
Les années 1920 furent les meilleures années pour Choumoff en tant que photographe. Beaucoup d'émigrés vinrent de Russie détruite par la guerre civile – des scientifiques, des hommes politiques, des artistes peintres. Ils aimaient tous se faire prendre en photo par Choumoff. «Je vous suis très reconnaissant pour mes photographies, pleines de vie et d'expression», écrivait en 1927 Chagall à Choumoff. Vladimir Maïakovski, Boris Savinkov, Marina Tsvetaeva, Albert Einstein, Anatole France et d'autres étaient tous fascinés par ses photos. Les personnalités artistiques appréciaient une manière expérimentale du maître. Choumoff n'avait jamais demandé à ses clients de s'asseoir simplement face à l'objectif. Il était capable de prendre une photographie presque du dos, et parvenait tout de même à caractériser parfaitement son client. Le maître réalisait aussi de très bonnes reproductions de chefs d'œuvres de l'art français, ce qui lui valut la médaille de bronze de l'Association française des photographes. En 1925, Pierre Choumoff reçut la médaille d'or à une exposition d'art à Paris. A part la photographie documentaire et les portraits, il réalisait aussi des reportages photo, et pratiquait la «photographie de mode». Par exemple, il réalisa un reportage de l'exposition de tableaux du célèbre citoyen de Grodno Léon Bakst et photographiait des modèles pour le célèbre magazine «Les Modes».
L'héritage photographique de Choumoff se distingue par une intégrité stylistique et technique. Ses portraits sont facilement reconnaissables grâce à une esthétique propre à l'artiste. Le photographe, selon Choumoff – c'est une unique alliance du peintre et du spécialiste-technicien, qui peut traiter un négatif de manière à obtenir une image parfaite, au plus près de la réalité.
Cela ne signifie pas une aspiration au réalisme, c'est plutôt un reflet de la variabilité, de l'instabilité du monde.
La crise économique de la fin des années 1920 eut un effet néfaste sur le travail de Pierre Choumoff. Les commandes se faisaient rares et le maître fut obligé de fermer son studio. Après avoir visité la Pologne à plusieurs reprises, il décida de s'y expatrier. En 1934, le coeur serré, il quitta Paris. Choumoff s'installa à Lodz et y mourut le 25 juin 1936. Il fut inhumé au cimetière évangéliste de la ville.
Telle est la version courte de la chronique de la vie de cet homme formidable. Les photographies prises par Choumoff sont conservées dans de nombreux musées et agences publicitaires dans le monde, se vendent aux enchères d'antiquités et sont appréciées comme de véritables objets d'art. Indéniablement, le moment arrive pour que la ville natale et le Bélarus entier rendent hommage à la personnalité de Pierre Choumoff, révolutionnaire et maître de la photographie.
L'année dernière, le photographe Alexandre Losminsky a décidé d'organiser une expositions d'œuvres de Choumoff, mais le Bélarus ne dispose que de trois clichés originaux. Pour entrer en contact avec les propriétaires français d'originaux, Losminsky s'est adressé à l'Ambassadeur du Bélarus en France Pavel Latushka. Suite à cela, le projet d'acquisition par le Musée régional de Grodno d'une collection d'œuvres de Choumoff – près de 50 photos de personnalités célèbres de la culture, de la science, ainsi que d'hommes politiques du premier quart du XXème siècle est en train d'être finalisé. Les photos seront obtenues à partir de négatifs sur plaques de verre, conservés au Musée Rodin et à l'Agence Roger-Viollet de la Bibliothèque historique de la ville de Paris.

1.

# Парыжская школа як пункт адліку
# L'école de Paris comme point de départ

**Алеся Белявец**

На арт-мапе свету Парыж займае месца важкае і прывабнае, у пачатку XX стагоддзя заслужана лічыўся сталіцай сусветнага мастацтва, тым чароўным магнітам, які прыцягнуў і мноства аўтараў з тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Творцы Парыжскай школы далі падставу згадваць нашу краіну ў кантэксце сусветнага мастацтва. І таму сёння важна не толькі даследаваць гэтую з'яву, але і доўжыць традыцыі, заснаваныя на абмене мастацкімі набыткамі.

Мяняюцца цэнтры і кірункі мастацтва, але Парыж застаецца месцам легендарным і адметным для розных аўтараў, а беларуская прысутнасць у гэтым горадзе становіцца ўсё больш заўважнай.

Гэта і Дні беларускай культуры, якія ладзіць наша Амбасада, сумесныя музычныя і тэатральныя фестывалі, што праходзяць у гарадах Беларусі і Францыі, а таксама — удзел беларускіх аўтараў у буйных выставах сучаснага мастацтва.

**«Восеньскі салон»**

Многія знаныя творцы (Поль Сезан, Агюст Рэнуар, Амедэа Мадзільяні, Жорж Брак, Марк Шагал) бралі ўдзел у «Восеньскім салоне» — вялікай выставе выяўленчага мастацтва, што вядзе свой адлік з 1903 года і заснавана аб'яднаннем дзеячаў мастацтва ў Францыі, а цяпер праходзіць пад патранатам міністра культуры. Салон — цалкам удалы пачатак замежнай кар'еры і каштоўны радок у арт-біяграфіі. Варта толькі згадаць Рамана Заслонава, які ў 1997-м на

**Alesia Beliavets**

Sur la carte artistique du monde Paris occupe une place importante et attirante, au début du XX siècle, Paris était considérée, à juste titre, comme une capitale de l'art mondial, un aimant magique qui a attiré également beaucoup d'auteurs du territoire de l'actuel Bélarus.

Les peintres de l'école de Paris ont donné la raison d'évoquer notre pays dans le contexte de l'art mondial. C'est pourquoi de nos jours il est important non seulement d'étudier ce phénomène, mais également de continuer les traditions, basées sur l'échange des acquis artistiques. Les centres et les tendances artistiques changent, mais Paris reste un lieu légendaire et remarquable pour de divers auteurs, et la présence biélorusse dans cette ville devient de plus en plus flagrante.

Ce sont et les Journées de la culture biélorusse, organisées par notre Ambassade, et les festivals de musique et de théâtre qui ont lieu dans des villes du Bélarus et de la France, ainsi que la participation d'auteurs biélorusses dans de grandes expositions d'art contemporain.

**«Le Salon d'automne»**

Beaucoup d'auteurs connus (Paul Cézanne, Auguste Renoir, Amedeo Modigliani, Georges Braque, Marc Chagall) prenaient part au «Salon d'automne» qui est une exposition d'art visuel qui date de 1903 et qui a été créée par une association d'artistes peintres en France et



2.


3.


4.

«Восеньскім салоне» ў Парыжы атрымаў першую прэмію, яго творчае жыццё да сёння праходзіць паміж дзвюма краінамі. У 2014 годзе ў межах салона адбыўся паказ работ французскага мадэльера Жан-Мары Пюжоля і беларускай дызайнеркі Ларысы Нуры-Шакінка, а ў адным з павільёнаў былі выстаўлены працы нашай мастачкі Алены Вентрыён-Макарэвіч, што жыве ў Парыжы.

У 2016-м ужо не асобныя мастакі, а Беларусь як краіна была прадстаўлена ў якасці ганаровай госці. Амбасада Беларусі ў Францыі выступіла ініцыятарам і адным з суарганізатараў (сумесна з ААТ «Белгазпрамбанк») удзелу беларускіх мастакоў у гэтай міжнароднай выставе. Былі паказаны творы шасці аўтараў: Паліны Амельяновіч, Уладзіміра Грамовіча, Ганны Дзідзішка, Васіля Пешкуна, Анастасіі Хобатавай, якія ў 2015 годзе прымалі ўдзел у «Восеньскім салоне з Белгазпрамбанкам» (Палац мастацтва ў Мінску), а таксама Алены Вентрыён-Макарэвіч. Культурнае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Францыяй не абмежавалася толькі гэтай выставай: шэсць французскіх мастакоў, у тым ліку кіраўнікоў парыжскага «Восеньскага салона», прынялі ўдзел у «Восеньскім салоне» ў Мінску.

Ужо склалася традыцыя, што пераможцы мінскага салона, вызначаныя экспертным журы, атрымліваюць належную дапамогу для ўдзелу ў парыжскім. У выніку ў кастрычніку 2017 года ў французскай сталіцы свае работы прадставілі дзесяць беларускіх мастакоў: Аляксандр Акуцёнак, Аляксандр Бельскі, Алеся Бялко, Яна Выцік, Георгій Капуснікаў, Сямён Маталянец, Фёдар Шурмелеў, Дыяна Гарбач, Ганна Каханоўская. А мастачка Алена Вентрыён-Макарэвіч увайшла ў склад членаў асацыяцыі «Восеньскі салон» — найбольш прэстыжнай грамадскай арганізацыі сучасных мастакоў Францыі. Таксама быў арганізаваны перформанс мастачкі з Гродна Ганны Каханоўскай. А 15 кастрычніка адбылася сустрэча Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі з прэзідэнтам «Восеньскага салона» Сільвіяй Кэклан: узровень супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі беларускай і французскай школ выяўленчага мастацтва быў ацэнены пазітыўна, а таксама — абмеркаваны далейшыя планы.

**«Art Capital»**

Гэта буйная міжнародная выстава ў Парыжы, якая штогод збірае ў Гран-Пале каля 2000 сучасных французскіх мастакоў, а таксама аўтараў з усіх кантынентаў. З 2006 года выстава «Art Capital» аб'ядноўвае чатыры салоны: «Салон французскіх мастакоў», «Салон малюнка і вадзяных фарбаў», «Салон параўнанняў» і «Салон незалежных мастакоў», у апошнім журы адсутнічае. У 2015-м у Гран-Пале ўпершыню можна было ўбачыць працы беларускіх мастакоў. Ідэя прадставіць айчыннае мастацтва на выставе належала старшыні асацыяцыі «Абмен: Францыя — Беларусь» Аркадзю Валадосю: «Ганаруся тым, што паспрыяў абмену беларускіх і французскіх мастакоў. На «Art Capital» прадстаўлены дзве тысячы аўтараў з усяго свету. Буйная міжнародная мастацкая акцыя ладзіцца пры дапамозе мноства валанцёраў, якія працуюць на грамадскіх пачатках. На той выставе я бачыў павільёны вельмі многіх краін — Германіі, Японіі, Карэі, Расіі, Іспаніі, Канады, Мексікі, Швецыі. З усяго свету! Здзівіўся: чаму няма беларускага павільёна? Пагаварыў з прэзідэнтам салона, ён сказаў: «А чаму б і не?» Запрасіў Паўла Паўлавіча Латушку. Пазнаёміў іх, і справа рушыла. Ідэя, магчыма, і мая. Але без пасла, які знайшоў спонсараў, мы не змаглі б гэта зрабіць. Спачатку на «Art Capital» прыехалі дзесяць беларускіх мастакоў. Павел Паўлавіч пазней сказаў, што гэта была самая значная падзея года. У снежні 2016-га мы зрабілі выставу «Art Capital» у Мінску, яна прайшла ў Цэнтры сучаснага мастацтва. У экспазіцыі былі прадстаўлены працы французскіх мастакоў з чатырох розных салонаў. Лічу, што гэта таксама была культурная падзея ў Беларусі...»

Нашы творцы ўдзельнічалі ў «Салоне малюнка і акварэлі». Дзесяць аўтараў адбіраў Віктар Альшэўскі. Беларуская Амбасада і асабіста пасол былі арганізатарамі праекта, пасадзейнічалі Нацыянальны мастацкі музей, Культурны цэнтр Беларусі ў Францыі.

maintenant se tient sous le patronage du Ministre de la culture. Une participation au Salon marque un bon début de carrière internationale et un point prestigieux dans une biographie artistique. Il suffit d'évoquer Roman Zaslonov qui en 1997 a reçu le premier prix du «Salon d'automne». Sa vie artistique est toujours partagée entre les deux pays. En 2014, une présentation d'œuvres du styliste français Jean-Marie Pujol et du designer biélorusse Larissa Noury Shakinko a également eu lieu dans le cadre du Salon, ainsi que des œuvres de notre peintre Elena Ventrillon-Makarevich qui vit à Paris.

En 2016, ce ne sont plus des peintres séparés mais le Bélarus en tant que pays était présenté comme invité d'honneur. C'est l'Ambassade du Bélarus en France qui a initié et organisé (conjointement avec SA «Belgazprombank») la participation de peintres biélorusses à cette exposition internationale. Les œuvres de six peintres: Polina Omelianovich, Vladimir Gramovich, Hanna Didishka, Vasil Peshkun, Anastasia Khobotova qui avaient participé au «Salon d'automne avec Belgazprombank» (Le Palais des arts à Minsk), ainsi qu'Alena Ventrillon-Makarevich ont été présentées au Salon. La coopération culturelle entre le Bélarus et la France ne s'est pas limitée à cette exposition: six peintres français, y compris des organisateurs du «Salon d'automne» de Paris ont pris part au «Salon d'automne» à Minsk. Il est devenu une tradition que les vainqueurs du salon de Minsk déterminés par un jury d'experts reçoivent une aide nécessaire pour participer au salon de Paris. Suite à cela, en octobre 2017, dix peintres biélorusses Aliaksandr Akutsionak, Aliaksandre Belski, Alisia Bialko, Yana Vytsik, Georgi Kapusnikau, Siamion Matalianets, Fiodar Shurmeleu, Dyiana Garbach, Hanna Kakhanovskaya. Alena Ventrillon-Makarevich est devenue membre de l'association du «Salon d'automne», la plus prestigieuse organisation de peintres contemporains de France. Également, une performance artistique de la peintre de Grodno Hanna Kakhanovskaya a été organisée. Et le 15 octobre, l'Ambassadeur du Bélarus en France Pavel Latushka s'est rencontré avec la présidente du Salon d'automne Sylvie Koechlin, les interlocuteurs ont exprimé un avis positif concernant le niveau de coopération entre des représentants des écoles artistiques biélorusses et françaises et ont discuté des futurs projets.

**«Art Capital»**

Le Salon «Art Capital» est une grande exposition à Paris qui présente chaque année au Grand Palais près de 2000 peintres français contemporains ainsi que des auteurs de tous les continents. Depuis 2006, Art Capital réunit quatre salons — la Société des artistes français, le Salon du dessin et de la peinture à l'eau, le Salon Comparaisons et la Société des artistes indépendants, cette dernière n'a pas de jury. C'est en 2015 qu'on pouvait voir des œuvres de peintres biélorusses pour la première fois. L'idée de présenter l'art national à l'exposition appartenait au président de l'association «Échange: France — Bélarus» Arkadi Volodos: «Je suis fier d'avoir contribué aux échanges de peintres biélorusses et français. À "Art Capital" sont présentés 2000 auteurs du monde entier. Cette grande action artistique internationale est organisée avec l'aide de nombreux bénévoles qui travaillent gratuitement. À cette exposition j'ai vu des stands de très nombreux pays — Allemagne, Japon, Corée, Russie, Espagne, Canada, Mexique, Suède. Du monde entier! J'étais surpris: pourquoi il n'y avait pas de stand biélorusse? J'en ai parlé au président du Salon, il a dit: "Pourquoi pas?" J'ai invité M. Pavel Latushka. Je les ai présentés l'un à l'autre, et l'affaire s'est mise en mouvement. C'est à moi que l'idée, probablement, appartient, mais sans l'Ambassadeur, qui a trouvé des sponsors nous, n'aurions pas pu le faire. D'abord, c'était dix peintres biélorusses qui ont pris part à "Art Capital". Plus tard, Pavel Pavlovich a dit que ce fut le plus grand événement de l'année. En décembre 2016, nous avons organisé une exposition "Art Capital" à Minsk, au Centre de l'art contemporain. Des œuvres de peintres français des quatre salons étaient présentées à l'exposition. J'estime que c'était également un événement

Першы раз – і адразу поспех: Валянціна Шоба з працай «Улада цемры», прысвечанай тэме вайны, і Сяргей Парцянкоў са скульптурай на экалагічную тэматыку сталі лаўрэатамі прэстыжнай прэміі фонду Тэйлара.
А 2 снежня 2016 года ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў у Мінску адбыўся працяг: адкрылася міжнародная выстава «Art Capital: з Францыі ў Беларусь».
Наступны наш павільён у рамках выставы «Art Capital» быў зладжаны ў пачатку гэтага года з удзелам 15 беларускіх мастакоў. У салоне параўнанняў паказалі працы чатырох аўтараў – Віктара Альшэўскага, Валерыя Шкарубы, Мікалая Кірэева, Віктара Навіцкага, а 11 творцаў выставіліся ў Салоне малюнка і акварэлі, сярод якіх Уладзімір Тоўсцік, Рыгор Сітніца, Алеся Скарабагатая.

**У гонар Леона Бакста**
Згодна з рашэннем 38-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, з ініцыятывы Рэспублікі Беларусь у Спіс памятных дат ЮНЕСКА, якія адзначаюцца ва ўсім свеце ў 2016 годзе, быў дададзены важны юбілей – 150-годдзе з дня нараджэння ўраджэнца Гродна Леона Бакста, сябра аб'яднання «Мир искусства». Дзеля папулярызацыі творчасці Бакста Пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ЮНЕСКА прапанавала зладзіць у штаб-кватэры гэтай арганізацыі выставу дзіцячага малюнка. У сувязі з тым, што ў Францыі Леон Бакст вядомы больш як удзельнік тэатральных праектаў легендарнага антрэпрэнёра Сяргея Дзягілева, што праходзілі ў пачатку ХХ стагоддзя ў Парыжы, мастацкія творы былі прысвечаны тэатральнай тэматыцы. Быў праведзены конкурс сярод навучэнцаў Гродзенскай вобласці, у выніку адабрана 20 малюнкаў.

**Мастацтва выходзіць на вуліцу**
Арт-праект «Zabor» – экспазіцыя, якая падарожнічае з горада ў горад і знаёміць французскага гледача з беларускім выяўленчым мастацтвам. У 2014-м выстава рэпрадукцый актуальных работ нашых творцаў адкрылася на агароджы мэрыі 16-й акругі ў Парыжы.
Канцэпцыя праекта пазначае: «Праз сто гадоў пасля Парыжскай школы арт-праект "Zabor" прывозіць у гэты горад творчасць сучасных беларускіх мастакоў і прапануе паглядзець на беларускі сучасны жывапіс у фармаце арт-прагулкі». Айчынны жывапіс пастараліся паказаць ва ўсёй разнастайнасці стыляў і тэм: «наіўнае мастацтва Сяргея Каваля, містычны рэалізм Віктара Альшэўскага, прымітывізм Уладзіслава Стальмахова, абстрактнае мастацтва Аляксандра Дасужава і Віталя Дзенісенкі, а таксама канцэптуальныя работы Руслана Вашкевіча і Сяргея Грыневіча».
Наша краіна ганарыцца выдатнымі помнікамі архітэктуры. Фармат «арт-прагулкі» быў падоўжаны: на агароджах пасольстваў Беларусі ў Парыжы, Бруселі, Берліне, Вене размясціліся вялікія плакаты з фотаздымкамі гістарычных пабудоў. Новы праект займеў назву «Спадчына Беларусі».

**«У калысцы імпрэсіянізму»**
У жніўні 2017-га пры садзейнічанні Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў адбыўся Першы міжнародны конкурс мастацтваў у камунах Жыверні і Ліон-ла-Фарэ рэгіёна Нармандыя. Таксама была арганізавана выстава твораў у галерэі «Galerie Lehalle» у Парыжы. Праз год у гарадах Вернон і Радпон (Нармандыя, Францыя) прайшоў ІІ Міжнародны пленэр па жывапісе пад назвай «У калысцы імпрэсіянізму», у якім прынялі ўдзел мастакі з Беларусі, Францыі, Кітая, Латвіі і Расіі. Вернон знаходзіцца каля вядомай камуны Жыверні, дзе жыў і працаваў Клод Манэ. Беларусь была прадстаўлена Ілонай Касабука. Адным з суарганізатараў пленэру выступіла АГА «Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў», што трэці раз запар арганізавала сумесны выезд у Францыю мастакоў з Беларусі і Кітая. На афіцыйнай цырымоніі закрыцця міжнароднага пленэру ў Замку Бізі

culturel au Bélarus...». Nos créateurs ont pris part au Salon du dessin et de la peinture à l'eau. Victor Alshevski a sélectionné dix auteurs. L'Ambassade du Bélarus, et Monsieur l'Ambassadeur personnellement ont organisé ce projet. Le Musée National des beaux-arts, le Centre culturel du Bélarus en France y ont apporté leur contribution. Cette première expérience s'est couronné d'un succès. ValentineShoba avec son œuvre «Le pouvoir des ténèbres» consacrée au sujet de la guerre, et Siarhei Partsiankov avec une sculpture portant sur le thème de l'environnement ont reçu le prestigieux Prix Taylor.
Et c'est le 2 décembre 2016, à Minsk qu'a eu lieu la suite des événements: l'inauguration d'une exposition internationale «Art Capital: de la France au Bélarus».
Notre deuxième stand au du salon «Art Capital» a présenté au début de cette année 15 peintres biélorusses. Des œuvres de quatre auteurs – Victor Alshevski, Valery Shkaruba, Mikalai Kireev, Victor Navitski – étaient exposées au Salon Comparaison, et 11 auteurs dont Uladzimir Toustik, Rygor Sitnitsa, Alesia Skarabagataya s'exposaient au Salon du dessin et de la peinture à l'eau.

**En l'honneur de Léon Bakst**
Conformément à la résolution de la 38e session de la Conférence générale de l'UNESCO, à l'initiative de la République du Bélarus, un jubilé très important pour nous – le 150ème anniversaire de la naissance du natif de Grodno Léon Bakst, cofondateur du mouvement Le Monde de l'Art – avait été rajouté sur la Liste des dates commémoratives de l'UNESCO qui étaient célébrées dans le monde entier en 2016. Afin de populariser les œuvres de Léon Bakst, la délégation permanente du Bélarus auprès de l'UNESCO a proposé d'organiser au siège de l'organisation une exposition de dessins d'enfant. Etant donné que Léon Bakst est connu en France plutôt comme auteur des projets théâtraux du légendaire Serge de Diaghilev, impresario de ballet, qui se réalisaient à Paris au début du XX siècle, des œuvres artistiques étaient consacrées au thème du théâtre. Un concours a été organisé parmi les élèves de la région de Grodno et vingt dessins ont été sélectionnés.

**L'art descend dans la rue**
Le projet artistique «Zabor» c'est une exposition ambulante qui se déplace d'une ville à l'autre et fait connaître aux spectateurs français l'art visuel biélorusse. En 2014, une exposition des reproductions d'œuvres actuelles de nos auteurs a été inaugurée sur la clôture de la Mairie du 16e arrondissement de Paris. Le concept du projet dit: «Au bout de cent ans après l'école de Paris, le projet artistique "Zabor" amène dans cette ville des œuvres de peintres biélorusses contemporains et propose de découvrir la peinture biélorusse contemporaine sous forme d'une promenade artistique». On s'est efforcé de montrer la peinture nationale dans toute la diversité de style et de thème: «peinture naïve de Siarhei Kaval, réalisme mystique de Victor Alshevski, primitivisme d'Uladzislav Stalmakhov, peinture abstraite d'Aliaksandr Dasuzhav et Vital Dzénisenka ainsi que des œuvres conceptuelles de Ruslan Vashkevich et Siarhei Grynevich».
Notre pays est fier non seulement de l'art visuel mais aussi de formidables monuments d'architecture. Le format de promenade artistique a eu une suite: sur les clôtures des ambassades du Bélarus à Paris, Bruxelles, Berlin, Vienne sont placées de grandes pancartes portant des photos d'édifices historiques. Le nouveau projet a pris le nom de «Patrimoine du Bélarus».

**«Au berceau de l'impressionnisme»**
En juillet 2017, avec l'aide de la Confédération biélorusse des associations artistiques un premier concours international d'arts a été organisé dans les communes de Giverny et de Lyons-la-Forêt en Normandie. Également, une exposition d'œuvres a été organisée dans la «Galerie Lehalle» à Paris. Au


5.


6.



7.

(Вернон) Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка адзначыў важнасць падобных міжнародных культурных праектаў, якія садзейнічаюць лепшаму знаёмству з гісторыяй і сучаснасцю школ выяўленчага мастацтва розных краін свету, што адпавядае аднаму з важных падыходаў ЮНЕСКА – павага да разнастайнасці культур і дыялог з'яўляюцца падмуркам да міжнароднага супрацоўніцтва.

**Кавалачак Венецыі ў Парыжы**

Венецыянскае біенале – важная частка культурнага прадстаўніцтва дзяржавы на міжнародным узроўні. На апошнім біенале (2017) у беларускім павільёне быў паказаны праект «Стол», куратарам і адным з аўтараў (прадзюсар Віктар Лабковіч і кінарэжысёр Сяргей Талыбаў) стаў Раман Заслонаў. Гэта 32-хвіліннае відэа з больш чым двух дзясяткаў мініцсэн, якія адбываюцца за сталом, што здаецца бясконцым. Закальцаваны сюжэт, пэўная тэатральнасць падачы дзеянняў герояў спрыяе ўлучанасці гледача ў драму і камедыю, якія разгортваюцца па іншым боку стала.

«Мастацтва – гэта вельмі значны капітал, якім мы валодаем», – слушнае перакананне Рамана Заслонава прывяла яго да ідэі паказаць свой праект у Парыжы. Пры падтрымцы амбасады Рэспублікі Беларусь падзея адбылася ў «Galerie FRANCIS BARLIER». Дзве залы – гэта большая плошча, чым была прапанавана ў Венецыі, таму да інсталяцыі і відэа мастак дадаў яшчэ і жывапісны твор (у Мінску, напрыклад, былі яшчэ і паказы перформансу). Хоць асаблівай рэкламнай кампаніі не праводзілася, падзея адбылася. Можа, на руку сыграла размяшчэнне «Стала» ў буйным галерэйным квартале Avenue Matignon, але хутчэй – асаблівае ўспрыманне праекта замежным гледачом, далёкім ад нашых рэалій. «Стол» запрасілі ў Дрэздэн на біенале сучаснага мастацтва, паступілі прапановы і ад Дацкага музея сучаснага мастацтва, галерэй ЗША і Канады.

***

Так накопліваюцца важныя інтэрнацыянальныя кантакты... Хто ведае, можа, праз стагоддзе пасля яркага росквіту Парыжскай школы новыя беларускія аўтары гэтак жа моцна загучаць на сусветных фэстах.

**1. Арт-праект «Спадчына Беларусі» на агароджы Амбасады Рэспублікі Беларусь у Францыі. / Les projet artistique «Le patrimoine du Bélarus» sur la clôture de l'Ambassade de la République du Bélarus en France.**

**2. Афіша «Восеньскага салона» 2016 года. / L'affiche du «Salon d'automne». 2016.**

**3. Валянціна Шоба. Улада цемры. Аўтарская тэхніка. 2015. / Valentina Shoba. Le pouvoir des ténèbres. Technique d'auteur.2015.**

**4. Сяргей Парцянкоў. Урабарас. Папера, змешаная тэхніка. 2015. / Siarhei Partsiankov. Un ouroboros. Papier. Technique mixte. 2015.**

**5. Творы навучэнцаў мастацкіх школ Гродзенскай вобласці на выставе тэатральнага малюнка ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, Парыж.** *Фота з сайта grodnonews.by.* /
**Des œuvres d'étudiants d'écoles d'art de la région de Grodno à l'exposition de dessins théâtraux au siège de l'UNESCO. Paris.** *Une photo du site grodnonews.by.*

**6. Руслан Вашкевіч. Не гледзячы ні на што. Алей. 2013. Праект «Zabor». / Ruslan Vashkevich. Malgré tout. Huile. 2013. Le projet «Zabor».**

**7. Раман Заслонаў. Праект «Стол» у «Galerie FRANCIS BARLIER». Парыж. / Raman Zaslonau. Le projet «Table» à la «Galerie FRANCIS BARLIER». Paris.**

bout d'un an, dans les communes de Vernon et de Radepont (Normandie) a eu lieu le 2ème festival international de peinture en plein air «Dans le berceau de l'impressionnisme» auquel ont pris part des peintres du Bélarus, France, Chine, Lettonie et Russie. Vernon se trouve près de la célèbre commune de Giverny où vivait et travaillait Claude Monet. Le Bélarus était représenté par Ilona Kasabuka. C'est la Confédération biélorusse des associations artistiques qui a été un des organisateurs de ce festival international de peinture et qui a organisé pour la troisième fois de suite une visite commune en France de peintres de Bélarus et de Chine. Lors de la cérémonie officielle de clôture du festival international de peinture en plein air au château de Bizy (Vernon) l'Ambassadeur du Bélarus en France Pavel Latushka a noté l'importance des projets internationaux qui favorisent une meilleure connaissance de l'histoire et du présent d'écoles d'art visuel de différents pays du monde ce qui correspond à un des principes importants de l'UNESCO – le respect de la diversité culturelle et le dialogue constituent la meilleure base pour la coopération internationale.

**Un petit bout de Venise à Paris**

La Biennale de Venise est une part importante pour la présentation d'un pays sur le plan international. Lors de la dernière Biennale (2017) le stand biélorusse a présenté le projet «Table» dont le curateur et un des auteurs (producteur Victor Labkovich et réalisateur Siarhei Talybau) était Raman Zaslonau. C'est une vidéo de 32 minutes avec plus d'une vingtaine de mini-scènes qui se passent à table ce qui parait interminable. Un sujet bouclé, une manière théâtrale de présenter des actions des personnages favorisent l'implication du spectateur dans le drame et la comédie qui se déroulent de l'autre côté de la table.

«L'art c'est un grand capital dont nous disposons», – cette conviction judicieuse de Raman Zaslonau l'a conduit à l'idée de montrer son projet à Paris. Avec l'aide de l'Ambassade de la République du Bélarus, l'événement a eu lieu à la «Galerie FRANCIS BARLIER». Deux salles c'est un espace plus grand que celui qui était proposé à Venise, c'est pourquoi à l'installation artistique et à la vidéo, l'artiste a rajouté une œuvre de peinture (à Minsk par exemple, il y a eu encore des démonstrations de performance artistique). Même si l'on n'a pas fait trop de publicité, l'événement s'est bien passé. Peut-être c'est le fait que le projet «Table» s'exposait dans un quartier plein de galeries d'art (Avenue Matignon) qui y a contribué mais le projet a bien marché plutôt grâce au regard différent des spectateurs étrangers, éloignés de nos réalités. Le projet «Table» a été invité à Dresde pour la Biennale de l'art contemporain, des propositions sont venues du Musée de l'art moderne de Danemark, de galeries des Etats Unis et du Canada.

Ainsi s'accumulent des contacts internationaux importants...Qui sait, peut-être, au bout de cent ans après un brillant épanouissement de l'école de Paris, de nouveaux auteurs biélorusses feront parler d'eux lors des événements mondiaux.

# Мінск — цэнтральная кропка

## ПРАЕКТ «АД ЛІСАБОНА ПРАЗ МІНСК ДА УЛАДЗІВАСТОКА»

# Minsk comme point central

## PROJET «DE LISBONNE EN PASSANT PAR MINSK JUSQU'À VLADIVOSTOK»

**Віктар Альшэўскі**

З моманту ўсведамлення таго факту, што наша краіна знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, мы імкнёмся падмацаваць свой геаграфічны статус палітычнымі, эканамічнымі і культурнымі чыннікамі. Так што ідэя культурніцкай акцыі, у якой былі б задзейнічаны творцы ўсёй Еўропы, а яшчэ лепей — і краін Еўразіі, што называецца, лётала ў паветры і чакала рэалізацыі на беларускай глебе. Калі б гэтай справай не заняліся Павел Латушка і я, знайшліся б іншыя. На пасадзе міністра культуры Рэспублікі Беларусь Павел Паўлавіч шмат зрабіў для таго, каб наша мастацтва ведалі ў свеце, а беларусы ў сябе дома маглі пазнаёміцца з сусветным артам. Тую ж справу ён доўжыць і ў статусе дыпламата. Я ж займеў пэўны досвед папулярызацыі набыткаў сённяшняй культуры ў час, калі быў кіраўніком Цэнтра сучасных мастацтваў. Таму паразуменне паміж намі знайшлося лёгка. Кожная выстава, што мае грамадскі розгалас, а праект «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» якраз з гэтага шэрагу, правакуе пытанне: чаму да ўдзелу запрасілі менавіта гэтых аўтараў і паводле якіх крытэрыяў адбіраліся творы? І тут варта ведаць, што сёння ўдзел у прэстыжных экспазіцыях далёка не заўжды вызначаецца ўзроўнем твораў. У тым жа Гран-Пале, калі маеш грошы на ўнёсак, на аплату арэнды выставачнай плошчы, транспарт, мантаж-дэмантаж — выстаўляй, што пажадаеш. Ці амаль што пажадаеш. Можа, і мы да гэтага прыйдзем, калі мастацтва пазбавіць дзяржаўнай падтрымкі і яно вымушана стане на камерцыйныя рэйкі. Сёння ж на нашых выставах існуе бар'ер, пераадолець які дылетанту даволі цяжка. Так што ўсе творы выставы «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» адпавядаюць крытэрыям прафесіяналізму. А ўжо на якую ідэю скарыстоўваць свой творчы патэнцыял і навыкі — справа самога мастака.

Пры арганізацыі выставы мы зыходзілі з уласных арганізацыйных і матэрыяльных магчымасцей. Мы не ставілі мэтаю прыцягнуць увагу грамады экзотыкай ці эпатажнымі работамі, хоць некаторыя творы і маглі выклікаць неадназначную рэакцыю публікі. Было важна давесці: пры багатай разнастайнасці еўрапейскай і шырэй — еўразійскай культуры ёсць мастацкія з'явы і напрамкі, актуаль-

**МЫ НЕ СТАВІЛІ МЭТАЮ ПРЫЦЯГНУЦЬ УВАГУ ГРАМАДЫ ЭКЗОТЫКАЙ ЦІ ЭПАТАЖНЫМІ РАБОТАМІ, ХОЦЬ НЕКАТОРЫЯ ТВОРЫ І МАГЛІ ВЫКЛІКАЦЬ НЕАДНАЗНАЧНУЮ РЭАКЦЫЮ ПУБЛІКІ. БЫЛО ВАЖНА ДАВЕСЦІ: ПРЫ БАГАТАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ ЕЎРАПЕЙСКАЙ І ШЫРЭЙ — ЕЎРАЗІЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ ЁСЦЬ МАСТАЦКІЯ З'ЯВЫ І НАПРАМКІ, АКТУАЛЬНЫЯ ДЛЯ ЎСЯГО КАНТЫНЕНТА; А НАША МАСТАЦТВА, ЗАХОЎВАЮЧЫ САМАБЫТНАСЦЬ, ЛЁГКА СТАСУЕЦЦА З СУСВЕТНЫМ МЭЙНСТРЫМАМ.**

**Victor Alshevski**

Depuis que nous avons compris que notre pays se trouvait au centre de l'Europe, nous nous efforçons d'enrichir notre position géographique par des facteurs politiques, économiques et culturelles. Ainsi l'idée d'une action culturelle dans laquelle seraient impliqués des artistes de toute l'Europe et même mieux - des pays d'Eurasie, était dans l'air et attendait d'être réalisée sur le sol biélorusse. Si Pavel Latushka et moi-même ne nous en étions pas chargés, d'autres l'auraient fait.

En tant que Ministre de la culture de la République du Bélarus Pavel Pavlovich a fait beaucoup pour que notre art soit connu dans le monde et pour que les Biélorusses puissent découvrir chez eux l'art mondial. Il poursuit cette activité et en tant que diplomate. Quant à moi, j'ai acquis une certaine expérience de popularisation des réalisations de la culture contemporaine lorsque je dirigeais le Centre d'art contemporain. Du coup, nous nous sommes compris tout de suite.

Toute exposition, qui provoque une grande résonance, et c'est le cas du projet «De Lisbonne en passant par Minsk jusqu'à Vladivostok», soulève la question: pourquoi précisément ces artistes-là ont été invités à



ныя для ўсяго кантынента; а наша мастацтва, захоўваючы самабытнасць, лёгка стасуецца з сусветным мэйнстрымам. І мэты сваёй, як мне падаецца, мы дасягнулі.

Праект быў пілотным. Ёсць спадзяванне, што ён займее працяг. Прынамсі, гэтая думка была агучаная на адной з сустрэч кіраўніцтва Саюза мастакоў з першым намеснікам міністра культуры Беларусі. Спадзяюся, у перспектыве ў праекце будзе больш шырока прадстаўлена еўразійская прастора — краіны, якія хоць і належаць да іншай геаграфічнай зоны, але адчуваюць сваю еднасць з еўрапейскай цывілізацыяй. Да прыкладу, нікога не бянтэжыць, што ў віцебскім «Славянскім базары» ўдзел бяруць не толькі славянскія краіны. Дык чаму ж нешта падобнае не можа быць у мастацкім праекце?

Наша выстава мае поўную назву «Ад Лісабона праз Мінск, Маскву і Астану да Уладзівастока», бо, акрамя Беларусі і Партугаліі, экспанавалася ў Расіі і Казахстане. Паўсюль мела поспех, паколькі ідэя адзінай культурнай прасторы не сустракае супраціву нават у тых краінах, дзе грамада занепакоена адмоўнымі наступствамі глабалізацыі.

Складана сказаць, што вырасце з гэтага зерня. Можа, выстава стане традыцыйнай, мо трансфармуецца да ўзроўню фестывалю мастацтваў. Адно хацелася захаваць нязменным: каб Мінск заставаўся цэнтральнай кропкай культурніцкай лініі «Лісабон — Уладзівасток». Ⓜ

*Занатаваў Пётра Васілеўскі.*

y participer et selon quels critères les œuvres ont été sélectionnées? De ce fait, il convient de prendre en compte le fait qu'aujourd'hui la participation à des expositions prestigieuses n'est pas toujours déterminée par le niveau des œuvres. Notamment, au Grand Palais à Paris, si vous avez suffisamment d'argent pour payer les droits d'entrée, la location de l'espace d'exposition, le transport, le montage et le démontage — vous êtes libres d'exposer tout ce que vous voulez. Ou presque. Peut-être, nous en arriverons là aussi quand l'art ne bénéficiera plus du soutien gouvernemental et il sera forcé de monter sur des rails commerciaux. Mais pour l'instant, nos expositions ont une barrière que les dilettants ont beaucoup de mal à surmonter. Cela veut dire que toutes les œuvres de l'exposition «De Lisbonne en passant par Minsk jusqu'à Vladivostok» répondent aux critères du professionnalisme. Et c'est à l'artiste lui même de décider où mettre à profit son potentiel artistique et ses compétences.

Pour organiser cette exposition, nous tenions compte de nos propres capacités matérielles et celles d'organisation. Nous n'avions pas pour but d'attirer l'attention de la société par des œuvres exotiques ou scandaleuses, bien que certaines oeuvres étaient susceptibles de provoquer une réaction mitigée du public. Il était important de faire comprendre qu'au sein de la grande diversité culturelle européenne, et à plus grande échelle de la diversité culturelle eurasienne, il existe des phénomènes artistiques et des courants, pertinents pour tout le continent; et notre art tout en gardant son originalité s'inscrit facilement dans les principaux courants mondiaux. Et, il me semble, nous avons atteint notre objectif.

**NOUS N'AVIONS PAS POUR BUT D'ATTIRER L'ATTENTION DE LA SOCIÉTÉ PAR DES ŒUVRES EXOTIQUES OU SCANDALEUSES, BIEN QUE CERTAINES OEUVRES ÉTAIENT SUSCEPTIBLES DE PROVOQUER UNE RÉACTION MITIGÉE DU PUBLIC. IL ÉTAIT IMPORTANT DE FAIRE COMPRENDRE QU'AU SEIN DE LA GRANDE DIVERSITÉ CULTURELLE EUROPÉENNE, ET À PLUS GRANDE ÉCHELLE DE LA DIVERSITÉ CULTURELLE EURASIENNE, IL EXISTE DES PHÉNOMÈNES ARTISTIQUES ET DES COURANTS, PERTINENTS POUR TOUT LE CONTINENT; ET NOTRE ART TOUT EN GARDANT SON ORIGINALITÉ S'INSCRIT FACILEMENT DANS LES PRINCIPAUX COURANTS MONDIAUX**

C'était un projet pilote. Nous espérons qu'il aura une suite. Du moins, l'idée a été évoquée lors d'une rencontre des dirigeants de l'Union des artistes peintres avec le Premier vice-ministre de la Culture du Bélarus. J'espère qu'à l'avenir le projet représentera plus largement l'espace eurasien — ces pays qui appartiennent à une autre zone géographique, mais ressentent leur appartenance à la civilisation européenne. Par exemple, personne n'est surpris que les pays slaves ne sont pas les seuls à participer au festival musical à Vitebsk «Slavyansky Bazar». Alors, pourquoi ne pas en faire autant dans un projet artistique?

Le nom complet de l'exposition est «De Lisbonne jusqu'à Vladivostok en passant par Minsk, Moscou et Astana», car les œuvres ont été exposées non seulement au Bélarus et au Portugal, mais aussi en Russie et au Kazakhstan. Partout l'exposition a été un succès parce que l'idée d'un espace culturel unique ne rencontre pas de résistance, même dans les pays où la société est préoccupée par les effets négatifs de la mondialisation.

Il est difficile de dire ce que cette expérience va donner. Il se peut que l'exposition devienne régulière ou bien se transforme en festival des arts.

Mais il y a une chose que je souhaite conserver inchangée: que Minsk reste le point central de la ligne culturelle «Lisbonne — Vladivostok». Ⓜ

*Propos recueillis par Peter Vasilevsky.*

**Віктар Альшэўскі. Музеі свету. Карабель з Лісабона. Дыптых. Алей. 2016.**
**Victor Alshevski. Musées du monde. Le navire de Lisbonne. Diptyque. Huile. 2016.**



# Першыя промні

БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ СЕЗОНЫ Ў ФРАНЦЫІ

# Les premiers rayons

LES SAISONS MUSICALES BIELORUSSES EN FRANCE

1.

ФРАНКА-БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ «ЖЫЦЦЁ Ў МУЗЫЦЫ — LA VIE EN MUSIQUE» ВЯДОМАЯ АРГАНІЗАЦЫЯЙ ЛАКАЛЬНЫХ ЭЛІТАРНЫХ КАНЦЭРТАЎ І ЗАКРЫТЫХ ВЕЧАРОЎ КЛАСІЧНАЙ МУЗЫКІ ДЛЯ ПАРЫЖСКІХ МЕЛАМАНАЎ. 2014 ГОД ЗАПАЧАТКАВАЎ АФІЦЫЙНАЕ АРТЫСТЫЧНАЕ ПАРТНЁРСТВА АСАЦЫЯЦЫІ З ПАСОЛЬСТВАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ФРАНЦУЗСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ.

L'ASSOCIATION FRANCO-BIELORUSSE «LA VIE EN MUSIQUE» EST UNE SOCIETE BIEN CONNUE DE CONCERTS ELITAIRES LOCAUX ET DE SOIREES PRIVEES DE MUSIQUE CLASSIQUE POUR LES MELOMANES PARISIENS. C'EST EN 2014 QU'A DEBUTE UN PARTENARIAT ARTISTIQUE OFFICIEL DE L'ASSOCIATION AVEC L'AMBASSADE DE LA REPUBLIQUE DU BELARUS EN REPUBLIQUE FRANCAISE

**Алена Каваленка**

— Мы ўзялі ўдзел у Днях беларускай культуры, правялі за той год больш канцэртаў, фармат нашай дзейнасці пашырыўся, — распавядае Георгій Сасноўскі, старшыня «La vie en musique». — Акрамя музыкі французскіх кампазітараў Дэбюсі, Равэля і Сен-Санса на канцэртах Асацыяцыі гучалі творы Мацея Радзівіла, Тадэвуша Касцюшкі, Напалеона Орды, Генрыха Вагнера, Мар'яна Наско і Яўгена Глебава.
А ў красавіку 2015-га ўпершыню за гісторыю свайго існавання беларускае пасольства адчыніла дзверы для шырокай публікі: на канцэрце Асацыяцыі, першым у шэрагу культурных акцый, прымеркаваных да 250-й гадавіны з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, беларускія музыканты выконвалі творы кампазітара для фартэпіяна і акампанавалі французскай спявачцы Эстэль Кек. Варта адзначыць таксама вераснёўскі канцэрт у штаб-кватэры ЮНЕСКА, арганізаваны Асацыяцыяй, Пасольствам Беларусі ў Францыі і пры партнёрстве дэлегацый пры ЮНЕСКА Пасольства Літвы і Пасольства Рэспублікі Польшча. Разам з беларускай піяністкай Кацярынай Глазоўскай квартэт Чурлёніса выканаў пералажэнне паланэзу «Развітанне з Радзімай», а поль-

**Alena Kavalenka**

— Nous avons pris part aux Journées de la culture biélorusse, et avons donné cette année-là plus de concerts, le format de nos activités s'est élargi,- raconte Georges Sosnovski, président de «La vie en musique». A part la musique de compositeurs français comme Debussy, Ravel et Saint-Saëns lors de concerts de l'Association des oeuvres de Maciej Radziwiłł, Tadeusz Kościuszko, Napoleon Orda, Genrich Wagner, Marian Nosko et Evgeniy Glebov étaient exécutées.
Et en avril 2015, pour la première fois l'Ambassade biélorusse a ouvert ses portes au grand public: au concert organisé par l'Association qui commençait les événements culturels dédiés au 250ème anniversaire de Michał Kleofas Ogiński, les musiciens biélorusses interprétaient des œuvres du compositeur pour piano et accompagnaient la cantatrice Estelle Kaique. Il convient de mentionner également Il convient de mentionner également le concert organisé en septembre au siège de l'UNESCO par l'Association avec le partenariat de l'Ambassade du Bélarus en France et celui des délégations auprès de l'UNESCO de l'Ambassade de Lituanie et de l'Ambassade de Pologne. La pianiste biélorusse Ekaterina Glazovskaya et le quatuor Čiurlionis ont interprété ensemble un arrangement de la polonaise «Les

ская спявачка Эльжбета Запольска — творы Агінскага і Марыі Шыманоўскай. Мерапрыемства прайшло на высокім узроўні, і вельмі паказальна, што на ім прысутнічала тагачасная генеральная дырэктарка ЮНЕСКА Ірына Бокава.

Адкуль жа ўзнікла ідэя Беларускіх музычных сезонаў у Францыі і ў чым палягала іх канцэпцыя?

— Думаю, іх з'яўленне стала лагічным працягам, дэталізацыяй ідэі развіцця Дзён беларускай культуры ў Францыі, — мяркуе спадар Сасноўскі. — Увогуле Дні — маштабны комплекс культурных мерапрыемстваў з розных мастацкіх сфер. Мы вырашылі акцэнтаваць увагу французскай публікі на музычных, тэатральных і мастацкіх сезонах. Асноўная задача нашай Асацыяцыі як аднаго з арганізатараў Беларускіх музычных сезонаў — прэзентаваць беларускую музычную культуру і дасканалае выканальніцкае майстэрства, бліскучую тэхнічнасць юных айчынных музыкантаў, навучэнцаў музычных школ і каледжаў.

Беларускія музычныя сезоны маюць два напрамкі — класічны і народны. Так, у іх рамках адбыліся гастрольныя выступленні Беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры» і ансамбля «Талака» Віцебскай абласной філармоніі ў Парыжы і Ліёне, Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь у Парыжы, сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі ў Цілі, Сажоне, Маране, Сэн-Жорж-дэ-Дзідоне, Сэн-Жэні-дэ-Сэнтонжы, калектыву беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы «Прымакі» ў Парыжы і дзіцячага калектыву «Вытокі» ў Ліёне. Арганізацыяй паспяховых гастроляў фальклорных і вялікіх «класічных» калектываў займаецца непасрэдна беларускае пасольства ў Парыжы. Асацыяцыя «Жыццё ў музыцы», у сваю чаргу, апякуецца камернымі канцэртамі музыкі класічнай. Сезоны праводзяцца 2-3 разы на год (у маі і лістападзе, напрыклад).

— Мы не можам арганізоўваць канцэрты часцей, — тлумачыць такую перыядычнасць спадар Сасноўскі. — Трэба глядзець на рэчы рэальна і браць пад увагу вялізную колькасць разнастайных мерапрыемстваў у Парыжы. Але ў нас ёсць свая публіка, французы, якія пастаянна прыходзяць на нашы канцэрты. Яны па-сапраўднаму зацікаўленыя знаёмствам з новымі музыкантамі, новымі прачытаннямі знаёмых твораў і, нарэшце, з новымі сачыненнямі ад зусім невядомых ім беларускіх кампазітараў.

Але ці існуюць праграмы Беларускіх музычных сезонаў, складзеныя выключна з сучаснай і старадаўняй айчыннай музыкі?

— Не буду хітрыць — казаць пра падрыхтоўку такой спецыяльнай праграмы Сезонаў пакуль рана, — кажа Сасноўскі. — Французы вельмі — у добрым сэнсе — недаверлівыя. Каб завабіць іх на канцэрты, трэба выконваць творы вядомыя. Я знайшоў кампраміс і складаю праграмы з, умоўна кажучы, класічных шлягераў і таго, што парыжская публіка ніколі не чула. Формула працуе. Французы толькі-толькі пачынаюць знаёміцца з музычнай культурай Беларусі, класічнай і народнай. Цяпер яны ведаюць: мы можам выдатна выконваць класіку, але, на маю думку, пачуць нашу ўласную класіку ў вялікіх аб'ёмах яны не гатовыя. Беларускія музычныя сезоны сёння акцэнтуюць вельмі высокі ўзровень нацыянальнай выканальніцкай школы, захаванне лепшых акадэмічных традыцый. Але прыйдзе час, і творы сучасных айчынных кампазітараў будуць гучаць у рэпертуары Сезонаў усё часцей і часцей.

...Афіцыйнае адкрыццё Беларускіх музычных сезонаў у Францыі адбылося ў маі 2016 года — на камерным канцэрце ў пасольстве скрыпачка Вера Лапарава (Беларусь) і піяніст Томас Герман (Нідэрланды) выканалі творы Мацея Радзівіла, Сяргея Пракоф'ева, Клода Дэбюсі і самога Георгія Сасноўскага:

— Для мяне асабіста было вельмі важна абазначыць пачатак Сезонаў чымсьці незвычайным. Да нас прыехалі вядомыя музыканты (Вера Лапарава — канцэртмайстарка радыёаркестра «Метраполь Оркест», Томас Герман — дырэктар дэпартамента музыкі ў школе для адораных дзяцей у Гаазе). Яны пагадзіліся выканаць прэм'еру майго твору для скрыпкі і фартэпіяна «Сябра, які далёка». Была вельмі прыемная, рамантычная абстаноўка, удалая для прэзентацыі класічнай беларускай музыкі ад яе вытокаў — Санаціны Мацея Радзівілаў — і да сучаснасці. Але не абышлося без незвычайных сітуацый. Калі піяніст пачаў іграць п'есу з майго твору «Першы прамень сонца», раптам спрацавала сістэма супрацьпажарнай бяспекі. Сірэна гучала на працягу 15 хвілін, і гэта стала сапраўдным выпрабаваннем, бо магло разбурыць


2.

adieux à la Patrie», et la cantatrice polonaise Elżbieta Zapolska a interprété des œuvres d' Ogiński et de Maria Szymanowska. L'événement a été bien organisé et ce qui est très significatif, c'est la présence au concert d'Irina Bokova, Directrice générale de l'UNESCO de cette période.

D'où est venue l'idée des Saisons musicales biélorusses en France et en quoi consiste leur concept?

— Je pense que leur apparition a été une suite logique, une mise en pratique de l'idée du développement des Journées de la culture biélorusse en France, — estime M. Sosnovski. — En général, les Journées c'est un grand ensemble d'événements culturels dans de différents domaines de l'art. Nous avons décidé de concentrer l'attention du public français sur les saisons musicales, théâtrales et artistiques. Le rôle principal de notre Association en tant qu'un des organisateurs des Saisons musicales biélorusses consiste à présenter la culture musicale biélorusse et une maîtrise d'interprétation parfaite, une technique brillante de nos jeunes musiciens, d'étudiants d'écoles et collèges musicaux.

Les Saisons musicales biélorusses ont deux volets: classique et folklorique. Ainsi, dans leur cadre ont eu lieu des concerts de l'Ensemble national du Bélarus «Pesniary» et de l'ensemble musical de la philharmonie régionale d'État de Vitebsk à Paris et à Lyon, de l'Orchestre national de chambre de la République du Bélarus à Paris, de l'orchestre symphonique de l'Académie nationale de musique de Bélarus à Sajon, Marans, Saint-Georges-de-Didonne, Saint-Genis-de-Saintonge, du groupe musical de la communauté biélorusse en Pologne «Prymaki» à Paris et du groupe de musique d'enfants «Vytoki» à Lyon.

C'est l'Ambassade biélorusse à Paris qui s'occupe de l'organisation des tournées de groupes folkloriques et de grands groupes «classiques». L'Association «La vie en musique», à son tour, s'occupe des concerts de musique classique de chambre. Les Saisons ont lieu 2-3 fois par an (par exemple, en mai et en novembre).

чароўную атмасферу вечарыны. Каб не згубіць эмацыйную сувязь з аўдыторыяй і выратаваць сітуацыю, я вырашыў распавесці, як пісаў «Сябра», маўляў, ёсць сябры, якія знаходзяцца так далёка, што сустрэцца з імі больш нельга... (Дарэчы, я ўдзячны Паслу за ідэю прэзентаваць гісторыю твору для публікі.) Калі сірэна выключылася, падчас выканання другой п'есы, роўна а 9-й вечара ў зале пасольства, дзе адбываўся канцэрт, пачаў біць гадзіннік. Ён прабіў дзевяць разоў. Самае цікавае, што гэты гадзіннік ніхто ніколі не заводзіў. Да гэтага выпадку можна ставіцца як заўгодна, але я сказаў, што мая музыка здолела вызваліць нейкія энергетычныя эманацыі.

Такім чынам, прэм'ернае выкананне на першых Беларускіх музычных сезонах было сапраўды адметнае пэўнымі знакамі. І, я ўпэўнены, гэты канцэрт ніхто з прысутных ніколі не забудзе.

«Жыццё ў музыцы» даўно супрацоўнічае з гімназіяй-каледжам пры Акадэміі музыкі, таму Асацыяцыя запрасіла да ўдзелу ў Беларускіх музычных сезонах двух таленавітых навучэнцаў-піяністаў — Уладзіслава Хандогага і Кірыла Атрошчанку. Яны сыгралі ў чатырох канцэртах, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння Сяргея Пракоф'ева і 400-й гадавіне смерці Уільяма Шэкспіра.

— Першае выступленне прайшло на Елісейскіх палях у канцэртным агенцтве UCN у нашага даўняга сябра, графа Патрыка дэ Вільнуазі (на жаль, ён загінуў сёлета ў аўтамабільнай аварыі, мы плануем арганізаваць канцэрт ягонай памяці), — распавядае Георгій Сасноўскі. — На другім канцэрце, які адбыўся ў пасольстве, Кірыл і Улад гралі мае пералажэнні ўрыўкаў з «Рамэа і Джульеты» Пракоф'ева. Трэці выступ гэтай серыі — у Рэгіянальнай кансерваторыі Парыжа — быў арганізаваны ў партнёрстве са сталічнай мэрыяй — і тое вельмі важны крок і для Асацыяцыі, і для беларускага пасольства. А чацвёрты прайшоў у Мэрыі сёмай акругі. Хлопцы выконвалі творы Рахманінава, Гендэля і Мендэльсона.

Другія беларускія музычныя сезоны распачаліся прэзентацыяй Гродзеншчыны. У 2017-м на майскі канцэрт у Парыжы прыехалі гродзенскія піяністы Аляксей Пятроў і Ганна Голуб, таксама ў пасольстве прайшоў вернісаж гродзенскага фатографа Аляксандра Ласмінскага. Аляксей і Ганна сыгралі на фартэпіяна ў чатыры рукі праграму «Фантастычная музыка». Тут аб'яднаныя творы, звязаныя з казачнымі, хай сабе і жудаснымі, вобразамі ў музыцы: «Вальпургіева ноч» Шарля Гуно з оперы «Фаўст», «Ноч на Лысай гары» Мадэста Мусаргскага, уверцюра да оперы «Лятучы галандзец» Рыхарда Вагнера, «Шэсце на пакаранне» і «Сон у ноч шабашу» з «Фантастычнай сімфоніі» Гектара Берліёза.

— Публіка ацаніла арыгінальнасць ідэі, канцэрт прайшоў з вялікім поспехам, — падкрэслівае спадар Сасноўскі. — Гэта падштурхнула стварыць такі ж канцэрт у Мінску, і сёлета ў красавіку мы прадставілі праграму ў Нацыянальным мастацкім музеі. «Фантастычная музыка» стала першым у шэрагу запланаваных канцэртаў пад назвай «ParisМінск». Мне б хацелася надаць Сезонам больш аб'ём, павялічыць арганізацыйны спектр і зрабіць іх франка-беларускімі, з канцэртамі ў дзвюх сталіцах.


3.


4.

— Nous ne pouvons pas organiser les concerts plus souvent, — dit M. Sosnovski. — Il faut dire les choses telles qu'elles sont et prendre en considération un nombre énorme d'événements de toute sorte à Paris. Mais nous avons notre public à nous, les Français qui assistent régulièrement à nos concerts. Ils sont vraiment intéressés par la connaissance de nouveaux musiciens, par de nouvelles interprétations des œuvres connues et enfin par de nouvelles œuvres des compositeurs biélorusses qu'ils ne connaissent pas du tout.

Et bien, est-ce qu'il y a des programmes des Saisons musicales biélorusses qui sont composés exclusivement de la musique biélorusse classique, ancienne et contemporaine?

— Je ne vais pas faire le malin, il est encore prématuré de parler de la préparation d'un tel programme spécial des Saisons, — dit M.Sosnovski. Les Français sont très méfiants, au sens positif du terme. Pour les faire venir aux concerts, il faut interpréter des œuvres connues. J'ai trouvé un compromis et je compose des programmes de, disons, tubes classiques et des œuvres que le public français n'a jamais entendues. Et la formule marche. Les Français sont juste au début de leur connaissance de la culture musicale du Bélarus, classique et folklorique. Maintenant, ils savent que nous pouvons parfaitement interpréter des œuvres classiques, mais je pense qu'ils ne sont pas prêts à écouter beaucoup d'œuvres classiques biélorusses. Les Saisons musicales biélorusses aujourd'hui mettent en exergue un haut niveau de l'école biélorusse d'exécution, la conservation des meilleurs traditions classiques. Mais le moment viendra, et des œuvres de nos compositeurs nationaux contemporains se feront entendre au répertoire des Saisons de plus en plus souvent.

L'inauguration officielle des Saisons musicales biélorusses en France a eu lieu en mai 2016 — lors d'un concert de chambre à l'Ambassade, la violoniste Vera Laporeva (Bélarus-Pays Bas) et le pianiste Thomas Herrmann (Pays Bas) ont interprété des œuvres de Maciej Radziwiłł, Sergei Prokofiev, Claude Debussy et de Georges Sosnovski lui-même.

— Pour moi personnellement, il était très important de marquer le début des Saisons par quelque chose d'exceptionnel. Les musiciens bien connus (Vera Laporeva, premier violon du «Metropole Orkest», Thomas Herrmann, directeur du département de la musique de l'école pour enfants surdoués à La Haye) sont venus pour participer à ce concert. Ils ont accepté d'interpréter en première mon œuvre pour violon et piano «L'Ami qui est loin». L'ambiance était très agréable, romantique, propice à la présentation de la musique classique biélorusse, de ses origines — Sonatine de Maciej Radziwiłł — à des œuvres contemporaines. Et on n'a pas évité des drôles de chose. Lorsque le pianiste a commencé à interpréter une pièce de mon œuvre «Le premier rayon de soleil» c'est le système d'alarme incendie qui s'est déclenché. La sirène a sonné pendant 15 minutes, et ça a été une véritable épreuve car ça risquait de briser l'ambiance magnifique de la soirée. Afin de ne pas perdre le lien émotionnel avec l'audience et de sauver la situation, j'ai pris la décision de raconter comment je composais «L'ami», il y aurait des amis qui se trouvent si loin qu'il n'est plus possible de les revoir... (Au fait, je suis

А пакуль што ў кастрычніку 2017-га французская публіка вітала наступны маштабны праект у рамках Сезонаў – канцэрт Сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі ў царкве Святой Марыі Магдаліны, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Царква знаходзіцца ў сэрцы сталіцы, ля плошчы Згоды, і дагэтуль такія вялікія беларускія калектывы не гралі ў такіх прэстыжных залах Парыжа. У гонар святочнай даты ў беларускай амбасадзе ладзіўся паказ фільма Уладзіміра Мароза і Ігара Чышчэні «Першадрук», а таксама прайшла прэзентацыя ўнікальнага факсімільнага выдання ўсіх кніг, надрукаваных Францыскам Скарынам.

Заключны акорд Другіх беларускіх музычных сезонаў – тры канцэрты ў лістападзе, на якія былі запрошаны піяністы Вераніка Сахарава-малодшая, Вераніка Сахарава-старэйшая і Уладзіслаў Хандогі.

– Абедзве Веранікі сыгралі ў чатыры рукі, і гэта быў маляўнічы выступ маці з дачкой, іскрысты і святочны. Не толькі прафесійны, але і прыгожы – Сахаравы вельмі эфектна глядзяцца за раялем, – адзначае Сасноўскі. – Уладзіслаў Хандогі іграў сола новую праграму, і ягонае выкананне сюіты Марыса Равэля «Начны Гаспар» выклікала ў публікі не абы-якую рэакцыю – яму апладзіравалі стоячы. І таму, што гэта была французская музыка. І таму, што гэта вельмі складаны твор для такога юнага выканаўцы. Але Уладзіслаў справіўся бліскуча.

У жніўні 2017-га Георгій Сасноўскі быў ганараваны медалём Францыска Скарыны за значны ўнёсак у папулярызацыю айчыннай культуры за мяжой і падтрымку маладых беларускіх музыкантаў, але афіцыйнае ўручэнне ўзнагароды адбылося ў беларускай амбасадзе ў Парыжы сёлета ў сакавіку.

– Не хацелася ператвараць цырымонію ў афіцыйнае мерапрыемства, – кажа спадар Сасноўскі. – Разам з намесніцай старшыні Асацыяцыі, піяністкай Юліяй Сафаравай мы падрыхтавалі разнастайную яркую праграму і вырашылі сыграць у чатыры рукі – у тым ліку і некалькі ўрыўкаў з майго новага дыску «Empreintes» («Адбіткі»), які быў выдадзены пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў РБ і беларускага пасольства ў Францыі. Тыраж, што выпускалі ў Беларусі, спецыяльна прывезлі ў Парыж напярэдадні мерапрыемства, і першы дыск я падарыў Паслу.

На сёлетнім вясенні канцэрце Трэціх беларускіх музычных сезонаў Лізавета Лясун (віяланчэль) і Таццяна Вайновіч (фартэпіяна) выконвалі Баха, Гайдна, Бакерыні, Сен-Санса, Рахманінава і – Вячаслава Кузняцова.

reconnaissant à l'Ambassadeur pour l'idée de présenter l'histoire de création de l'œuvre à l'audience). Quand la sirène a cessé de sonner, lors de l'interprétation de la deuxième pièce, pile à 9h du soir c'est l'horloge qui se trouvait au salon de l'Ambassade où se déroulait le concert qui a commencé à sonner. Elle a sonné neuf coups. Et la chose la plus curieuse était que personne n'avait jamais remonté l'horloge. On peut prendre ces incidents comme on veut, mais j'ai dit que ma musique avait pu libérer certaines émanations énergétiques. Ainsi, l'interprétation en première de ces œuvres lors des premières Saisons musicales biélorusses a été vraiment marquée par certains signes. Et je suis sûr, aucun de ceux qui y assistaient n'oubliera jamais ce concert.

«La vie en musique» coopère depuis longtemps avec le Collège national musical, c'est pourquoi l'Association a invité à prendre part aux Saisons musicales biélorusses deux étudiants-pianistes de talent – Vladislav Khandogui et Kirill Atroschenko. Ils se sont produits aux quatre concerts, dédiés au 125ème anniversaire de la naissance de Sergei Prokofiev et au 400ème anniversaire de la mort de William Shakespeare.

– Le premier concert – privé- a eu lieu sur les Champs Elysées au siège de la société UCN EVENT chez notre ami de longue date le comte Patrick COSSERON DE VILLENOISY (malheureusement, il est mort cette année-là à la suite d'un accident de route, nous envisageons d'organiser un concert afin de lui rendre hommage), – raconte Georges Sosnovski. Lors du deuxième concert qui a été donné à l'Ambassade, Kirill et Vladislav ont exécuté mes arrangements d'extraits de «Roméo et Juliette» de Prokofiev; Le troisième concert de cette série, donné au Conservatoire à Rayonnement Régional de Paris, a été organisé en partenariat avec la Mairie de la capitale de France, et ça a été un événement très important tant pour l'Association que pour l'Ambassade. Et enfin, le quatrième concert a eu lieu à la mairie du 7$^{e}$ arrondissement de Paris. Les garçons interprétaient des œuvres de Rachmaninov, Haendel et Mendelssohn.

Les deuxièmes Saisons musicales biélorusses ont commencé par une présentation de la région de Grodno. Ce sont les pianistes de Grodno Alexei Petrov et Anna Goloub qui sont venus à Paris afin de prendre part au concert en mai 2017, en même temps un vernissage du photographe de Grodno Alexandre Losminski a été organisé à l'Ambassade. Alexei et Anna ont joué du piano à quatre mains pour interpréter le programme «La musique fantastique». Le programme réunissait des


5.


6.

— Я быў вучнем Вячаслава Уладзіміравіча ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, і мне вельмі прыемна, што музыка аднаго з мэтраў прагучала ў гэтым канцэрце, — адзначае Сасноўскі. — У 2019-м мы святкуем 100-гадовы юбілей Уладзіміра Алоўнікава, у якога я таксама меў шчасце навучацца, таму лічу за гонар арганізаваць канцэрт ягоных сачыненняў і твораў, прысвечаных яму.

Якая будучыня мусіць напаткаць Беларускія музычныя сезоны? У наступным годзе не толькі парыжская публіка, але і жыхары іншых рэгіёнаў Францыі пазнаёмяцца з беларускімі музыкантамі і кампазітарамі. А самым перспектыўным кірункам развіцця Сезонаў, на думку Георгія Сасноўскага, стане іх распаўсюд у іншых еўрапейскіх краінах...

**1. Лізавета Лясун (віяланчэль), Георгій Сасноўскі (фартэпіяна). / Elisabeth Lessoun (violoncelle), Georges Sosnovski (piano).**

**2. Георгій Сасноўскі. / Georges Sosnovski.**

**3. Канцэрт Сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі ў царкве Святой Марыі Магдаліны. / Le concert de l'Orchestre symphonique de l'Académie de musique de Bélarus dans l'église de la Madeleine.**

**4. Гродзенскія піяністы Аляксей Пятроў і Ганна Голуб з саветнікам Віталём Корневым і Паслом Паўлам Латушкам. / Les pianistes de Grodno Alexei Petrov et Anna Goloub avec le Conseiller culture Vitaly Kornev et l'Ambassadeur Pavel Latushka.**

**5. Піяніст Уладзіслаў Хандогі. / Le pianiste Vladislav Khandogui.**

**6. Канцэрт «Фантастычная музыка» ў НММ. / Le concert «La musique fantastique» au Musée national des beaux-arts.**

*Фота Сяргея Ждановіча і з архіва Асацыяцыі. / Les photos de Siarhey Zhdanovich et des archives de l'Association.*

œuvres liées à des personnages féériques, bien qu' épouvantables: «La nuit de Walpurgis» de l'opéra «Faust» de Charles Gounod, «Une nuit sur le Mont Chauve» de Modeste Moussorgski, «Le Vaisseau fantôme» de Richard Wagner, «Marche au supplice» et «Songe d'une nuit du sabbat» de «la Symphonie fantastique» d'Hector Berlioz.

— L'audience a apprécié l'originalité de l'idée, le concert a eu beaucoup de succès, — note M.Sosnovski. C'est ce qui nous a poussé à organiser un tel concert à Minsk, et en avril de l'année en cours, nous avons présenté le programme au Musée national des beaux-arts. «La musique fantastique» a été le premier concert de la série «ParisMinsk». J'aimerais bien organiser les Saisons à plus grande échelle, renforcer le côté organisationnel et les rendre franco-biélorusses avec des concerts donnés dans les deux capitales. En attendant, en octobre 2017 le public français a salué un grand concert de plus dans le cadre des Saisons, notamment, le concert de l'Orchestre symphonique de l'Académie de musique de Bélarus dans l'église de la Madeleine, consacré au 500ème anniversaire de l'imprimerie biélorusse. L'église se trouve au centre de la capitale française, près de la place de la Concorde, et auparavant, de si grands collectifs de musique biélorusses ne s 'étaient pas produits dans des salles si prestigieuses de Paris. A l'occasion de cet anniversaire, la projection du film de V ladimir Moroz et d'Igar C hychenia «Le premier imprimeur» ainsi que la présentation d'une édition en fac-similé de tous les livres imprimés par Francisc Skaryna ont été organisées à l'Ambassade du Bélarus

Et l'accord final des deuxièmes Saisons musicales biélorusses c'était trois concerts en novembre pour lesquels nous avons invité les pianistes Véronika Sakharova-fille, Véronika Sakharova-mère et Vladislav Khandogui.

— Les deux Véronika ont joué à quatre mains, et c'était un spectacle pittoresque d'une mère avec sa fille, étincelant et festif. Toutes les deux jouent très bien du piano ensemble et forment un duo magnifique. Professionnelles et belles, les Sakharova sont spectaculaires au piano, — remarque M. Sosnovski. — Vladislav Khandogui jouait en solo un nouveau programme, et son interprétation de la suite «Gaspard de la nuit» de Maurice Ravel a provoqué chez l'audience une réaction qui n'était pas indifférente — le public s'est mis debout pour l'applaudire, d'une part, parce que c'était une œuvre musicale française, d'autre part, pour apprécier le talent du jeune interprète qui malgré son si jeune âge a su maîtriser une œuvre aussi compliquée.

Déjà en août 2017, Georges Sosnovski a été décoré de la médaille Francisc Skaryna pour une contribution importante dans la popularisation de la culture nationale à l'étranger et le soutien de jeunes musiciens biélorusses, mais la remise officielle de la décoration a eu lieu à l'Ambassade biélorusse à Paris cette année-là, en mars.

— Je ne voulais pas réduire la cérémonie à un événement officiel, — dit M. Sosnovski. Avec la vice-présidente de l'Association, la pianiste Yulia Safarova, nous avons préparé un formidable programme varié, et décidé de jouer à quatre mains, y compris quelques extraits de mon nouveau CD «Empreintes», qui a été réalisé avec le soutien du Ministère des affaires étrangères de la République du Bélarus et de l'Ambassade du Bélarus en France. Les CD, fabriqués au Bélarus, ont été amenés spécialement à Paris la veille de la cérémonie, et j'ai offert le premier disque à l'Ambassadeur.

Lors du concert au printemps de cette année-là dans le cadre des troisièmes Saisons musicales biélorusses, ce sont Elisabeth Lessoun (violoncelle) et Tatiana Voynovich (piano) qui jouaient de la musique de Bach, Haydn, Boccherini, Saint-Saëns, Rakhmaninov et — de Viatcheslav Kuznetsov.

— J'étais étudiant de M Kuznetsov au Conservatoire National de Bélarus, et ça me fait plaisir que la musique de mon maître se soit faite entendre lors de ce concert, — remarque M. Sosnovski. — En 2019, nous célébrons le 100ème anniversaire de Vladimir Olovnikov dont j'ai également eu le bonheur d'être élève, c'est pourquoi je pense que c'est un honneur pour moi d'organiser un concert composé de ses œuvres et qui lui sont dédiées.

Quel avenir pour les Saisons musicales biélorusses? L'année prochaine, non seulement le public parisien mais aussi les habitants d'autres régions de France connaîtront des musiciens et compositeurs biélorusses. Mais la direction la plus prometteuse de développement des Saisons, de l'avis de Georges Sosnovski, sera leur extension à d'autres pays européens.

# Ад вострава Рэюньён да мядзельскага Шэметава

# De l'ile de la Réunion à Chémétova au pays de Miadel



1.

**Таццяна Мушынская**

Перш чым распавесці пра актыўную і надзвычай плённую дзейнасць асацыяцыі «Абмен: Францыя — Беларусь», трэба годным чынам прадставіць яе заснавальніка. Оперны спявак і вакальны педагог Аркадзь Валадось — наш суайчыннік. Ён амаль сорак гадоў пражыў у Францыі, але нарадзіўся недалёка ад Слоніма.

Вучыўся ў Беларускай, аднак скончыў Ленінградскую кансерваторыю. Пасля перамогі на Усесаюзным конкурсе вакалістаў імя Глінкі перспектыўнага спевака запрасілі адразу два калектывы — Беларуская опера і Кіраўскі тэатр. На сцэне апошняга Аркадзь Валадось праспяваў увесь рускі і італьянскі рэпертуар барытона, а ягонай любімай роллю была партыя Яўгена Анегіна. Ад Кіраўскага тэатра спявак паехаў на стажыроўку ў Мілан, дзе выдатныя салісты таго часу з'яўляліся ягонымі партнёрамі.

Пры канцы 1980-х артыст перабіраецца на сталае жыхарства ў Францыю і актыўна развівае міжнародную кар'еру. Ён выступае па кантрактах у Італіі, Іспаніі, Францыі. Спявае ў Вашынгтоне і Нью-Ёрку. Выконвае вядучыя партыі ў пастаноўках «Травіяты» на Сіцыліі, «Золата Рэйна» — у Марселі, «Атэла» — у Бельгіі. Калі Мсціслаў Растраповіч увасабляў як дырыжор у Рыме

**Tatiana Mushinskaya**

Avant de parler d'une activité intense et pleine de résultats de l'Association «Échange: France — Bélarus», il faut présenter convenablement son fondateur. Le chanteur d'opéra et le professeur de chant Arkadi Volodos est notre compatriote. Il vit en France depuis presque 40 ans, mais il est né non loin de Slonim.

Il faisait ses études au Conservatoire du Bélarus, mais finalement il a terminé le Conservatoire de Léningrad. Après la victoire au Concours National des vocalistes de toute l'Union Glinka le chanteur prometteur a été invité à la fois par deux institutions de musique — l'Opéra du Bélarus et le Théâtre Kirov. Sur la scène de ce dernier, Arkadi Volodos a chanté tout le répertoire russe et italien pour un baryton, et son rôle préféré était la partie d'Eugène Onéguine. Le chanteur était envoyé par le Théâtre Kirov pour un stage à Milan où il avait comme partenaires de remarquables chanteurs de l'époque.

A la fin des années 1980, le chanteur s'installe en France et développe activement sa carrière à l'internationale. Dans le cadre de contrats, il se produit en Italie, Espagne, France. Il chante à Washington et New York. Il chante les parties principales dans les spectacles «La Traviata» en Sicile, «L'Or du Rhin»

оперу «Залаты пеўнік», у тую пастаноўку быў запрошаны і Аркадзь Валадось. Спектакль карыстаўся папулярнасцю, выязджаў на гастролі, аднойчы нават даехаў да далёкага Пуэрта-Рыка. А сам артыст з таго часу пасябраваў са славутым музыкантам і ягонай жонкай, спявачкай Галінай Вішнеўскай, шмат разоў бываў у іх у гасцях.

Асацыяцыя «Абмен: Францыя — Беларусь», старшынёй якой з'яўляецца Аркадзь Валадось, узнікла даўно, на пачатку 1990-х.

— І менавіта праз асацыяцыю мы арганізавалі шмат мастацкіх акцый, — згадвае Аркадзь Лявонавіч. — Напрыклад, выстава беларускіх ікон прайшла ў Тулузе. У гэтым горадзе я пэўны час выкладаў. Таму ведаў, да каго звяртацца, хто можа дапамагчы. А ў Мінску таксама ўяўляў, да каго звяртацца. Бо з Уладзімірам Рылаткам, тагачасным намеснікам міністра культуры, мы вучыліся ў Беларускай кансерваторыі на адным курсе. Выстава беларускіх ікон сталася значнай і сур'ёзнай падзеяй. Памятаю, плакат выстаўкі доўга вісеў у Французскім пасольстве ў Мінску.

З ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле Аркадзя Валадося шмат гадоў у Францыі ладзіліся гастролі аркестра Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Акадэміі музыкі, сімфанічнага аркестра «Маладая Беларусь» самой Акадэміі. Доўгатэрміновым праектам асацыяцыі сталася і стварэнне Беларуска-французскага маладзёжнага сімфанічнага аркестра.

— У музыцы лёгка знайсці агульную мову, — разважае спадар Валадось. — І таму, калі 10 ці 15 маладых беларускіх музыкантаў прыязджалі да нас, яны натуральна ўліваліся ў французскі аркестр. А ў ім, напрыклад, 5 французскіх скрыпачоў і 5 беларускіх. Падчас такіх рэпетыцый я заўжды сядзеў побач з дырыжорам, каб перакладаць. Маладым выканаўцам цікавыя падобныя стасункі — і прафесійныя, і чалавечыя. Дзеці сябравалі між сабой. А я быў пасрэднікам у падобных праектах — паміж дырэктарам кансерваторыі ў Нансі і Міхасём Казінцом як рэктарам Акадэміі музыкі. Аркестр «Маладая Беларусь» разоў дзесяць прыязджаў у Францыю — менавіта па лініі Асацыяцыі. Такія творчыя кантакты і вандроўкі зрабіліся рэгулярнымі.

У мяне шчаслівае жыццё, бо я сустракаўся з многімі нестандартнымі асобамі. Міхась Казінец — па-сапраўднаму цудоўны музыкант і дырыжор. Сімфанічны аркестр пад яго кіраўніцтвам выступаў у Нансі ў лепшай канцэртнай зале. І такіх канцэртаў было шмат. Яны заўжды мелі поспех.

Але былі візіты і ў адказ, калі з Францыі прыязджалі студэнты ў Беларускую акадэмію музыкі. Маладым французскім выканаўцам таксама было цікава прыехаць у Беларусь, якую яны, магчыма, мала ведалі. У Мінску падчас канцэртаў, што адбываліся ў Беларускай філармоніі, за пультам стаяў французскі дырыжор. Вынік шматлікіх арганізацыйных намаганняў звычайна апраўдвае сябе. Бо ўсе шчаслівыя прыехаць, пазнаёміцца. І публіка надзвычай задаволеная.

Не магу не згадаць і наш самы экзатычны праект. Аркестр «Маладая Беларусь» двойчы выпраўляўся ў Паўднёвае паўшар'е, на востраў Рэюньён, які належыць да Французскай Палінэзіі. Разам з імі і я туды лётаў, мы купаліся ў Індыйскім акіяне. Праўда, баяўся, каб каго-небудзь з музыкантаў акула не з'ела... *(Смяецца.)* Калі ляцелі назад, недзе праз гадзіну ўбачылі зямлю. Спыталі ў сцюарда, а што за краіна? Ён адказаў — Мадагаскар.

Калі сёлета на Нарачы рабілі фестываль, прысвечаны Дзмітрыю Шастаковічу, да мяне падышла адна з колішніх удзельніц Беларуска-французскага маладзёжнага аркестра. Сказала: сумесныя канцэрты ў 2001 — 2002 гадах — самыя яркія ўражанні яе жыцця. Але заўважу, што без дапамогі пасольства Беларусі ў Францыі наўрад ці мы змаглі б гэтыя задумы ўвасобіць...

Апошнія тры гады Аркадзь Валадось сапраўды заняты Музычным фестывалем, прысвечаным Шастаковічу, які ладзіцца на Мядзельшчыне. Там нарадзіліся продкі славутага кампазітара. А значыць, у Дзмітрыя Дзмітрыевіча, чыя творы выконваюцца па ўсім свеце, менавіта беларускія карані. Калі ўзнікла ідэя такога музычнага фэсту, у гэта мала хто верыў. Але сёлета фестываль «У Шэметава да Шастаковіча» прайшоў у трэці раз і паяднаў чатыры канцэрты.

— Гэта важны і сур'ёзны праект, — лічыць наш суайчыннік. — Першы з іх, які ладзіўся ў 2016-м, быў прымеркаваны да 110-годдзя з часу нараджэння кампазітара. У 2017-м, калі адбыўся другі, я вырашыў, што музычных па-

à Marseille, «Othello» en Belgique. Quand Mstislav Rostropovitch dirigeait en tant que chef d'orchestre «Le Coq d'or» Arkady Volodos avait été invité à participer au spectacle. Le spectacle avait du succès, faisait des tournées, un jour il est allé jusqu'à Porto Rico. Et depuis le chanteur lui-même s'est lié d'amitié avec le célèbre musicien et son épouse Galina Vishnevskaya, les a fréquentés maintes fois.

L'Association «Échange: France-Bélarus» dont Arkadi Volodos est le président est apparue il y a longtemps, au débuts des années 1990.

— Et justement, avec l'Association nous avons organisé beaucoup de manifestations culturelles, se rappelle Arkadi Léonovich. — Notamment, une exposition d'icônes biélorusses à Toulouse. Je donnais des cours pendant un certain temps dans cette ville, c'est pourquoi je savais à qui m'adresser et qui pouvait aider. J'avais aussi l'idée à qui m'adresser à Minsk, car j'avais fait mes études au Conservatoire du Bélarus la même année que Vladimir Rylatko, vice-ministre de la culture à l'époque. L'exposition d'icônes biélorusses fut un événement remarquable et important. Je me souviens que l'affiche de l'exposition était longtemps apposée au mur dans l'Ambassade de France à Minsk.

A l'initiative et avec une participation personnelle d'Arkadi Volodos, des tournées de l'orchestre du Gymnase-collège national près l'Académie de musique et de l'orchestre symphonique de l'Académie elle-même ont été organisées pendant de nombreuses années.

— En musique, il est facile de trouver un langage commun, — raisonne M. Volodos. — C'est pourquoi lorsque 10 ou 15 jeunes musiciens biélorusses venaient chez nous, ils s'intégraient de manière naturelle à un orchestre français. L'orchestre qui pouvait, par exemple, être composé, de 5 violonistes français et 5 violonistes biélorusses. Pendant de telles répétions, j'ai toujours été assis à côté du chef d'orchestre pour traduire. De telles relations, humaines et professionnelles, sont intéressantes pour des jeunes musiciens. Les enfants entretenaient les relations d'amitié entre eux. Et moi, je servais de lien dans ces projets entre le directeur du conservatoire à Nancy et Mikhail Kazinets, recteur de l'Académie de musique. Ces contacts et visites artistiques sont devenus réguliers.

J'ai une vie heureuse, car je croisais pas mal de personnalités hors du commun. Mikhail Kazinets est vraiment un musicien et chef d'orchestre formidable. L'Orchestre symphonique sous sa direction se produisait à Nancy dans la meilleure salle de concert. Et de tels concerts il y en avait beaucoup. Ils ont toujours été un succès.

Il y avait également des visites en retour, quand des étudiants de France venaient à l'Académie de musique du Bélarus. Il était intéressant pour de jeunes musiciens français de venir au Bélarus qu'ils, probablement, connaissaient peu. À Minsk, pendant des concerts à la Philharmonie du Bélarus, Bélarus un chef d'orchestre français était au pupitre. Au bout du compte, de nombreux efforts d'organisation payent toujours. Car tous sont heureux de venir, de découvrir des choses, et le public est très content lui-aussi.

Je ne peux m'empêcher d'évoquer notre projet le plus exotique. L'orchestre «Le Jeune Bélarus» à deux reprises s'est rendu dans l'hémisphère sud, sur l'île de La Réunion. Je m'y suis rendu avec eux, nous nous baignions dans l'Océan




2.


3.

дзей павінна быць болей. І сёлета арганізаваў чатыры канцэрты. Тэма першага праекта, які адбываўся ў пасёлку Нарач, – «Шастаковіч і італьянская музыка XVIII стагоддзя». Другі канцэрт прайшоў у санаторыі «Спадарожнік», трэці – у дзіцячым лагеры «Зубронак» і чацвёрты ў Шэметава, на радзіме продкаў кампазітара. Прычым адбыўся ў касцёле 9 жніўня, у дзень смерці Дзмітрыя Дзмітрыевіча. Важна, што, акрамя сачыненняў класіка, падчас канцэртаў гучала і беларуская музыка. Так, адзін з канцэртаў быў прысвечаны кампазітару Дзмітрыю Смольскаму, які пайшоў з жыцця год таму.

У выніку атрымаўся сапраўды міжнародны фестываль, у ім удзельнічалі музыканты з розных краін. Напрыклад, французскі габаіст Жэром Гішар і французская скрыпачка Шарлот Жуяр, лаўрэаты міжнародных конкурсаў, салісты вядомых аркестраў. Дадам, што Шарлот – салістка аркестра ў Страсбургу. На адкрыцці фестывалю яна выконвала «Поры года» Вівальдзі. У час апошняга канцэрта, калі гучала меса «Stabat Mater» Пергалезі, салíравалі спявачка Соф'я Пятровіч з Сербіі і Даніэла Енчава з Балгарыі, якая цяпер працуе ў французскай оперы. Вядома, удзельнічалі ў праектах і беларускія музыканты. Хацелася б на наступныя фэсты запрасіць артыстаў з Расіі.

Вельмі ганаруся мастацкімі вынікамі, якія мы мелі падчас правядзення фестывалю Шастаковіча. Апошні раз канцэрты асвятлялі многія тэлеканалы. Спадзяюся, з цягам часу фэст набудзе яшчэ большы размах. Зразумела, падобныя мастацкія акцыі немагчымыя без разнастайнай дапамогі, у тым ліку і ад абласных улад. І я яе адчуваў. Праўда, спадзяюся, што паступова ўзнікне структура, якая дапаможа ў далейшым ладзіць музычныя фестывалі. Бо без яе многія пытанні вырашаць складана. Каб далей запрашаць вядомых і годных артыстаў, трэба загадзя заключаць кантракты.

Мару знайсці аднадумцаў і ажыццявіць праекты, звязаныя таксама з харавым мастацтвам. Хачу адкрываць для слухача найперш класічную музыку. У наступным годзе, калі ўсё складзецца, хацеў бы арганізаваць фестываль пад умоўнай назвай «Шастаковіч і Моцарт». Каб, напрыклад, славуты «Рэквіем» Моцарта быў выкананы аматарскімі харамі і аркестрамі. Вядома, падобныя праекты немагчыма рэалізаваць у адзіноце, без калектыву аднадумцаў. Хочацца яшчэ шмат зрабіць для краіны, адкуль я родам і дзе ўпершыню адкрыў для сябе свет музыкі і спеваў.




**1. Адзін з канцэртаў фестывалю Шастаковіча. / L'un des concerts du festival dédié à Shostakovich.**
**2. Праграмка мядзельскага фэсту. / Le programme du festival à Miadel.**
*Фота Мікалая Кірэева. / Les photos de Mikalai Kireev.*
**3. Аркадзь Валадось. / Arkadi Volodos.** *Фота Сяргея Ждановіча. / La photo de Siarhei Zhdanovich.*

Indien. Il est vrai, j'avais peur qu'un musicien ne soit mangé par un requin (il rit). Pendant le vol de retour, à peu près au bout d'une heure nous avons vu la terre. Nous avons posé la question au steward de savoir quel était le pays? Il a répondu – Madagascar.

Quand cette année nous organisions au bord du lac Narotch un festival dédié à Dmitri Shostakovich, une des anciennes musicienness de l'Orchestre de jeunes musiciens français et biélorusses s'est approchée de moi et a dit que les concerts conjoints en 2001–2002 étaient les impressions les plus brillantes de sa vie. Mais je remarque que sans l'aide de l'Ambassade du Bélarus en France, il est peu probable que nous ayons pu mettre en œuvre ces projets...

Ces dernières trois années, Arkadi Volodos est effectivement occupé avec le Festival de musique dédié à Shostakovich que l'on organise au pays de Miadel. Pourquoi justement là-bas? Parce que les ancêtres du célèbre compositeur y étaient nés. Ce qui veut dire que Dmitri Dmitrievich dont les œuvres sont exécutées dans le monde entier a précisément les racines biélorusses. Lorsque l'idée d'une telle fête est venue, il y avait peu de gens qui y croyaient. Mais cette année, le festival «A Chémétova chez Shostakovich» s'est tenu pour la troisième fois et a réuni quatre concerts.

– C'est un projet important et sérieux, – estime notre compatriote. – Le premier concert qui a été donné en 2016 était consacré au 110 anniversaire de la naissance du compositeur. En 2017, après le deuxième concert, je me suis dit qu'il devait y avoir plus d'événements musicaux. Et cette année, j'ai organisé quatre concerts. Le sujet du premier concert, qui était donné dans la petite ville de Naratch, – «Shostakovich et la musique italienne du XVIII siècle». Le deuxième concert a eu lieu dans le sanatorium «Spadarozhnik», le troisième – au camp d'enfants «Zubronak» et le quatrième – à Chémétova au village natal des ancêtres du compositeur. Et ce dernier était donné le 9 août le jour de la mort de Dmitri Dmitrievich. Ce qui est important c'est qu'à part d'œuvres du compositeur lors des concerts, la musique biélorusse se faisait également entendre. Ainsi, un des concerts était dédié au compositeur Dmitri Smolski qui nousa quitté,ilya un an. En résultat de quoi, Depuis le festival est devenu réellement international et des musiciens de différents pays y ont participé. Notamment, le hautboïste français Jérôme Guichard et la violoniste française Charlotte Juillard, lauréats de concours internationaux, solistes d'orchestres connus. Je tiens à ajouter que Charlotte Juillard est soliste de l'Orchestre philharmonique de Strasbourg. A l'ouverture du festival, elle interprétait Les Quatre Saisons de Vivaldi.

Lors du dernier concert les chanteuses Sofija Petrovic venant de Serbie et Daniela Encheva (actuellement à l'Opéra de Paris) ont chanté le Stabat Mater de Pergolesi. Evidemment, des musiciens biélorusses participaient aussi aux projets. J'aimerais bien inviter aux futures éditions de cette fête des musiciens et des chanteurs de Russie.

Je suis très fier de nos réalisations artistiques lors du festival dédié à Shostakovich. La dernière fois, le festival était couvert par de nombreuses chaînes de télévision. J'espère qu'au fil des années le festival prendra encore plus d'ampleur. Il va de soi que de telles manifestations artistiques sont impossibles à réaliser sans toutes sortes d'aide, y compris de la part des autorités régionales. Il est vrai, j'espère qu'une structure va se créer avec le temps qui aidera à organiser les festivals de musique. Parce que sans elle, il est difficile de résoudre de nombreuses questions. Pour continuer d'inviter des musiciens et chanteurs connus et talentueux, il faut conclure des contrats à l'avance.

Je rêve de trouver des partisans des mêmes idées et de réaliser des projets liés également à l'art choral. Je veux faire découvrir à l'auditeur avant tout la musique classique. L'année prochaine, si tout va bien, j'aimerais organiser un festivalsous le nom provisoire de «Shostakovich et Mozart» afin de présenter, notamment, la fameuse messe de Requiem de Mozart par des choraux et orchestres amateurs. Il est clair qu'il est impossible d'organiser de tels projets tout seul, sans un soutien des partisans des mêmes idées. J'aimerais faire encore beaucoup pour le pays où je suis né et où j'ai découvert le monde de la musique et du chant.

# Віяланчэль яднае эпохі
# Le violoncelle réunit les époques

**Наталля Ганул**

Беларусь і Францыя, віяланчэль і фартэпіяна, Уладзімір Перлін і Жэром Перно... У гэтых дыялогах мажорным сугуччам вырасла і ўмацавалася творчая франка-беларуская музычная садружнасць даўжынёй у 20 гадоў. А ўсё пачалося з лёсавызначальнага з'яўлення на рэпетыцыі Канцэртнага аркестра Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі віяланчэліста Жэрома Перно, лаўрэата міжнародных конкурсаў, у тым ліку імя Чайкоўскага і Растраповіча. Ён быў скораны выхаванцамі класа Уладзіміра Перліна. І вось пры падтрымцы французскіх калег ужо праз тры месяцы пасля знаёмства вучні разам з настаўнікам адправіліся ў першае гастрольнае турнэ ў Парыж.

Усё наступнае сяброўскае дваццацігоддзе ўпрыгожана шматлікімі двухбаковымі канцэртнымі праектамі: нашых юных выканаўцаў прымалі знакамітыя залы ЮНЕСКА, у тэатры Трыанон, у раскошнай зале мэрыі XVIII акругі Парыжа, у парыжскіх кафедральных саборах, у горадзе Арлеане. Сапраўды неацэнная дапамога па рамонце і рэстаўрацыі віяланчэляў была арганізавана для беларускіх музыкаў французскімі майстрамі. Неаднаразова ў Парыжскай кансерваторыі праводзіліся майстар-класы ў выбітнага прафесара Філіпа Мюлера. Найважнейшай старонкай у гэтай музычнай франка-беларускай прафесійнай «кузні» стаў працяг навучання і ўдасканаленне майстэрства таленавітых віяланчэлістаў класа Уладзіміра Перліна ў Жэрома Перно, які сёння з'яўляецца прафесарам Парыжскай вышэйшай нацыянальнай кансерваторыі музыкі і танца і Ганаровым прафесарам Беларускай акадэміі музыкі. У сваю чаргу, згодна з рашэннем урада Францыі, Уладзіміру Перліну ў 2003-м быў нададзены ранг Рыцара ордэна «Акадэмічныя пальмы» як музыканту, які актыўна садзейнічае распаўсюджванню французскай культуры ва ўсім свеце. А ў 2013-м ён атрымаў ганаровую ўзнагароду — французскі ордэн «За заслугі ў галіне мастацтва і літаратуры». Але галоўнае тое, што іх выхаванцаў ведаюць па ўсім свеце, яны іграюць у лепшых аркестрах, а сам інструмент віяланчэль, быццам сімвал, становіцца сувязным звяном паміж краінамі, эпохамі, кампазітарамі і выканаўцамі.

У гонар 20-га юбілею супрацоўніцтва Уладзіміра Перліна і Жэрома Перно ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі ў адзін з вясновых вечароў адбыўся раскошны канцэрт. Ён аб'яднаў на адной сцэне зорны склад салістаў (выпускнікоў Рэспубліканскага музычнага каледжа з класа Перліна), дуэт Жэром Перно — Жэром Дзюкро і дырыжора Уладзіміра Перліна з ягоным Канцэртным аркестрам. Ды і праграма канцэрта адлюстроўвала шматграннасць творчых дыялогаў; ад Шуберта да Эндру Ллойда Уэбера.

У той вечар сваё майстэрства паказаў Георгій Анішчанка, вучань Перліна і выпускнік Парыжскай кансерваторыі ў класах Філіпа Мюлера і Жэрома Перно. Сёння ён з'яўляецца першым салістам і канцэртмайстрам Каралеўскага опернага тэатра ў Бруселі. Сапраўды раскошна-аксамітна гучала яго віяланчэль у каларытнай Прэлюдыі-фантазіі іспанца Гаспара Касада.

У свой час Парыжская кансерваторыя разам з Жэромам Перно сустрэлі Івана Карызну, лаўрэата прэстыжных міжнародных конкурсаў, уладальніка бронзы XIV Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага, I Міжнароднага конкурса Каралевы Лізаветы (Брусель). Пасля вучобы ў Парыжы Іван быў спецыяль-




**Natallia Ganul**

Le Bélarus et la France, le violoncelle et le piano, Vladimir Perlin et Jérôme Pernoo… Dans ces dialogues a grandi et s'est renforcée la coopération artistique musicale franco-biélorusse qui dure vingt ans. Tout a commencé par une apparition fatidique du violoncelliste Jérôme Pernoo, lauréat de concours internationaux prestigieux, y compris les Concours Tchaïkovski et Rostropovitch, à une répétition de l'Orchestre de concert du Gymase-Collège national près l'Académie de musique de Bélarus. Il a été conquis par les élèves de la classe de Vladimir Perlin. Et voilà, trois mois après cette rencontre avec le soutien de leurs collègues français, les élèves et leur professeur sont partis pour leur tournée à Paris.

Toutes les vingt années consécutives d'amitié sont embellies par de nombreux projets de concert bilatéraux: nos jeunes musiciens étaient accueillis dans de célèbres salles de l'UNESCO, au Trianon, à la somptueuse salle de la mairie du 18e arrondissement de Paris, dans des cathédrales parisiennes, à Orléans. Une aide inestimable a été apportée aux musiciens biélorusses par des réparateurs d'instruments de musique français afin de réparer et restaurer des violoncelles. A plusieurs reprises, des classes de maître ont été organisées au Conservatoire de Paris par le célèbre professeur Phillipe Muller.

La page la plus importante de cette «usine» de formation professionnelle franco-biélorusse est la poursuite de l'éducation et le perfectionnement de la maîtrise des violoncellistes talentueux de la classe de Vladimir Perlin chez Jérôme Pernoo, qui enseigne aujourd'hui au Conservatoire national supérieur de musique et de danse de Paris, et qui est aussi professeur honoraire de l'Académie de musique de Bélarus. A son tour, conformément à la décision du gouvernement français, Vladimir Perlin a été élevé au grade de Chevalier de l'ordre des Palmes académiques en tant que musicien, contribuant activement à la diffusion de la culture française à travers le monde. En 2013, il a reçu une décoration honorifique française — L'ordre des Arts et des Lettres. Mais ce qui importe surtout c'est que leurs élèves sont connus dans le monde entier, ils jouent dans des meilleurs orchestres, et que l'instrument lui-même, le violoncelle, tel un symbole, devient le maillon qui relie les pays, les époques, les compositeurs et les musiciens.

En hommage au vingtième anniversaire de la collaboration entre Vladimir Perlin et Jérôme Pernoo, dans la grande salle de la Philharmonie nationale de Bélarus il y a eu un concert fabuleux. Ce concert a réuni sur la même scène des violoncellistes-solistes les plus doués (anciens élèves du Collège musical national de la classe de Perlin), le duo Jérôme Pernoo et Jérôme Ducros et le chef d'orchestre Vladimir Perlin et son Orchestre de concert. Et le programme de concert reflétait des dialogues artistiques multiformes; de Schubert à Andrew Lloyd Webber.

Ce soir-là, c'est Georgy Onischenko, étudiant de Perlin et diplômé du Conservatoire de Paris des classes de Philippe Muller et Jérôme Pernoo qui a montré son talent. Aujourd'hui, il est le premier soliste et premier violon de l'Opéra Royal à Bruxelles. Avec son violoncelle au véritable son de velours, il a joué un prélude-fantaisie de l'espagnol Gaspar Casado.

En son temps, le Conservatoire de Paris et Jérôme Pernoo ont accueilli Ivan Karizna, lauréat de concours internationaux prestigieux, détenteur de la médaille de bronze du XIV Concours international Tchaïkovski, du Ier Concours



на запрошаны для атрымання найвышэйшага ўзроўню прафесійнага майстэрства ў Міжнародную акадэмію Кронберг (Таўнус, Германія). У сольнай віяланчэльнай Санаце Золтана Кодаі інструмент Івана Карызны нагадваў шматколерную тэмбральна-яркую і насычаную палітру мастака, а ў яго выразна-тэатральным дыялогу-дуэце з Жэромам Перно прагучаў віртуозны фінал Санаты Соль-мажор Жана-Батыста Бар'ера.

У выкананні самага маладога саліста канцэрта, навучэнца 1-га курса Яна Хмялеўскага, віяланчэль шчыра і натхнёна «праспявала» Раманс Габрыэля Фарэ. Нагадаем пра тое, што літаральна за некалькі тыдняў да мінскага выступу пры падтрымцы Жэрома Перно ў Францыі адбылася серыя канцэртаў Яна Хмялеўскага як віяланчэліста, піяніста і кампазітара. Музычна-паэтычным мостам ад французскай лірыкі працягнуліся інтанацыі пранікліва Андантэ з віяланчэльнай санаты Рахманінава (саліст Міхаіл Радунскі).

Нарэшце, галоўныя героі франка-беларускага сяброўства — два Жэромы — Перно і Дзюкро. Харызма выканаўцаў, фантастычна віртуознае валоданне інструментамі, інтанацыйная дакладнасць і выверанасць музычнага тэксту — усё гэта прымушае закахацца ў гэты дуэт, што б яны не гралі — знакамітыя тэмы з «Кармэн» Жоржа Бізэ, Венгерскі танец Брамса або Трыо для дзвюх віяланчэляў і фартэпіяна самога Жэрома Дзюкро (прэм'ера твора адбылася ў Мінску крыху больш за 10 гадоў таму). А колькі страсці, энергетыкі літаральна ўварваліся ў глядзельную залу падчас выканання Гранд-танга Астара Пьяцолы!

Пра свае сяброўскія сувязі з Францыяй Уладзімір Перлін гатовы расказваць гадзінамі, бо гэты творчы альянс натхняе яго па-сапраўднаму.

— Цягам усіх 20 гадоў супрацоўніцтва мы атрымлівалі пастаянную падтрымку дыпламатычных прадстаўнікоў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі і, безумоўна, Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь. Францыя для мяне і маіх вучняў адкрываецца перш за ўсё праз імёны выдатных кампазітараў — Сен-Санса, Дэбюсі, Фарэ, Пуленка, Месіяна. Яны раскрылі для ўсяго свету глыбінныя ўласцівасці віяланчэлі, далі магчымасць пачуць нам праз сваю музыку Вечнасць. Але пры ўсім гэтым я цалкам пагаджаюся са словамі Фёдара Шаляпіна, які справядліва падкрэсліваў, што мала мець талент і прыродныя здольнасці. Істотна сустрэць на сваім шляху людзей, якія падтрымліваюць матэрыяльна, дапамагаюць развівацца і прасоўвацца. І ўсё ж такі спачатку — музыка...

musical international Reine Élisabeth (Bruxelles). Après ses études à Paris, Ivan a été spécialement invité à recevoir le plus haut niveau de compétence professionnelle à l'Académie Internationale Kronberg (Kronberg im Taunus, Allemagne). Lors de l'exécution de la Sonate pour violoncelle seul de Zoltan Kodai, l'instrument d'Ivan Karizna rappelait une palette musicale intense en timbres expressifs, et en duo-dialogue expressif et théâtral avec Jérôme Pernoo c'est le final virtuose de la Sonate en sol majeur de Jean-Baptiste Barrière qui a été interprété.

Le violoncelle du plus jeune soliste du concert, étudiant de première année Yan Khmelevskiy, a sincèrement et avec enthousiasme «chanté» la Romance de Gabriel Fauré. Il est à noter que seulement quelques semaines avant la représentation de Minsk, avec le soutien de Jérôme Pernoo, une série de concerts de Yan Khmelevskiy en tant que violoncelliste, pianiste et compositeur avait eu lieu en France. Tel un pont musical et poétique jeté depuis le lyrisme musical français s'en sont suivies les intonations d'un andante pénétrant de la sonate pour violoncelle de Rachmaninov (soliste Mikhail Radunsky).

Enfin, les personnages principaux de l'amitié franco-biélorusse — deux Jérôme — Pernoo et Ducros. Le charisme des artistes, la parfaite maîtrise de leurs instruments, l'exactitude d'intonation et la justesse du texte musical — tous ces éléments nous font tomber amoureux de ce duo, quoi qu'ils jouent — les thèmes célèbres de «Carmen» de Georges Bizet, la Danse Hongroise de Brahms ou le Trio pour deux violoncelles et un piano de Jérôme Ducros (l'oeuvre était jouée en première il y a un peu plus de 10 ans à Minsk). Et quelle passion, quelle énergie envahit littéralement la salle lors de l'exécution de Grand Tango d'Astor Pyatsoly!

Sur ses relations amicales avec la France Vladimir Perlin peut parler pendant des heures, parce que cette alliance créatrice l'inspire vraiment beaucoup.

— Tout au long des 20 années de coopération, nous recevons un soutien continu des diplomates de l'Ambassade du Bélarus en France et, bien sûr, de l'Ambassade de France en République du Bélarus. La France pour moi et mes étudiants se découvre principalement par des noms de remarquables compositeurs — Saint-Saëns, Debussy, Fauré, Poulenc, Messiaen. Ils ont révélé au monde les propriétés intrinsèques du violoncelle, nous ont donné l'occasion d'entendre à travers leur musique l'Éternité. Mais avec tout cela, je suis entièrement d'accord avec les paroles de Fiodor Chaliapine, qui a justement souligné qu'il ne suffit pas d'avoir du talent et des capacités naturelles. Il est important de croiser sur son chemin les personnes qui apportent un soutien financier, aident à se développer et à progresser. Mais, quand même, la musique passe avant tout...

**1. Уладзімір Перлін. / Vladimir Perlin.**
**2. Жэром Перно. / Jérôme Pernoo.**
**3. Канцэртны аркестр Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. / L'orchestre de concert du Gymase-Collège national près l'Académie de musique de Bélarus.**



# На радзіме караля Рэнэ

## ГАСТРОЛІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА Ў ФРАНЦЫІ

# Au pays du roi René

## LA TOURNÉE DU THÉÂTRE NATIONAL D'OPÉRA ET DE BALLET EN FRANCE

**ВЫКАНАННЕ ШЭДЭЎРАЎ РУСКАЙ МУЗЫКІ — ОПЕР «АЛЕКА» СЯРГЕЯ РАХМАНІНАВА І «ІАЛАНТА» ПЯТРА ЧАЙКОЎСКАГА — АДКРЫЛА НОВЫЯ СЕЗОНЫ САМЫХ ВЯДОМЫХ ТЭАТРАЛЬНЫХ ПЛЯЦОВАК ФРАНЦЫІ Ў ГАРАДАХ РЭН, АНЖЭ І НАНТ. У КАНЦЭРТНЫХ ВЕРСІЯХ ГЭТЫХ ТВОРАЎ ВЫСТУПІЛІ ВЯДУЧЫЯ САЛІСТЫ ОПЕРНАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСІ, А ЗА ДЫРЫЖОРСКІМ ПУЛЬТАМ СІМФАНІЧНАГА АРКЕСТРА БРЭТАНІ СТАЯЎ МАЭСТРА АНДРЭЙ ГАЛАНАЎ.**

C'EST PAR L'INTERPRÉTATION DE CHEFS-D'ŒUVRES DE LA MUSIQUE RUSSE – LES OPÉRAS «ALEKO» DE SERGUEÏ RACHMANINOV ET «IOLANTA» DE PIOTR TCHAÏKOVSKI QUE LES NOUVELLES SAISONS ONT ÉTÉ OUVERTES SUR LES PLUS GRANDES SCÈNES THÉÂTRALES FRANÇAISES À RENNES, ANGERS ET NANTES. LES SOLISTES PRINCIPAUX DU THÉÂTRE D'OPÉRA DU BÉLARUS ONT PRIS PART À CES OPÉRAS EN VERSION CONCERT, ACCOMPAGNÉS DE L'ORCHESTRE SYMPHONIQUE DE BRETAGNE CONDUIT PAR LE CHEF D'ORCHESTRE ANDREI GALANOV.

1.

**Алена Балабановіч**

Адзначым, што гастролі балета Вялікага тэатра Беларусі неаднаразова праходзілі ў Францыі. У 2014 годзе легендарнае «Лебядзінае возера» Чайкоўскага ў выкананні нашых артыстаў убачылі ў 24 гарадах, сярод іх — Страсбург, Грэнобль, Дзіжон, Мец, Безансон, Тулон, Ніца, Марсэль, Тулуза, Ліён, Арлеан, Парыж, Руан, Ліль, Нант. А вось у 2015-м жыхары ўжо 26 гарадоў Францыі апладзіравалі артыстам балета беларускага Вялікага ў «Лебядзіным возеры» і «Спячай прыгажуні» Чайкоўскага.

Сем выступленняў за паўтары тыдні — на пачатку кастрычніка нашы артысты прынялі ўдзел у сумесным праекце: на пляцоўках Опернага тэатра Рэна, Вялікага тэатра ў Анжэ і Тэатра Граслін у Нанце прагучалі оперы «Алека» і «Іаланта» ў выкананні Сімфанічнага аркестра Брэтані, хору Опернага тэатра Рэна і Анжэ-Нант, салістаў і дырыжора Вялікага тэатра Беларусі. Эмацыйная і неверагодна прыгожая музыка Рахманінава і Чайкоўскага аказалася блізкай французскаму гледачу: у кожным тэатры — аншлаг, публіка слухала салістаў, практычна не дыхаючы. Адзначым, што галоўныя партыі ў канцэртных версіях твораў выканалі сапраўдныя зоркі айчыннай оперы: народныя артысты Беларусі Анастасія Масквіна і Уладзімір Пятроў, заслужаныя артысты рэспублікі Андрэй Валенцій і Уладзімір Громаў, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Ірына Кучынская, Наталля Акініна, Ілля Сільчукоў, Віктар Мендзелеў і Аляксандр Гелах. А кіраваў усімі дырыжор Андрэй Галанаў. «Гэта было сапраўднае свята! — не скупіліся на пахвалу крытыкі французскіх выданняў. — Галасы беларус-

### З РЭЦЭНЗІЙ ФРАНЦУЗСКІХ ВЫДАННЯЎ:

- *«Беларускія салісты зноў прадэманстравалі высокі прафесіяналізм і неверагодны талент... Ірына Кучынская ў такой ступені пачуццёва выканала партыю трапяткой Іаланты, што прымусіла забыцца на ўсё і захапіла ў свой уяўны свет, які асвятляе прамень надзеі...»*
- *«Калісьці ў гэтай ролі выходзіў Фёдар Шаляпін... Уладзімір Громаў — Алека — выдатны барытон, які мае прыгожы тэмбр. Ён цудоўна перадаў як адчай, так і жорсткасць свайго героя».*
- *«У Настассі Масквіной — палымянае сапрана. У партыі Земфіры спявачка прадэманстравала шырокі вакальны дыяпазон з чыстымі і высакароднымі верхнімі нотамі».*
- *«Малады тэнар Аляксандр Гелах — спявак з вялікім патэнцыялам... А голас Віктара Мендзелева не можа пакінуць публіку абыякавай: гледачы пачынаюць апладзіраваць пасля першай жа арыі. Нельга не сказаць і пра Наталлю Акініну і яе багатае меца-сапрана. Уладзімір Пятроў цудоўна перадаў бацькоўскія пачуцці сваім глыбокім аксамітным барытонам... Варта згадаць пра сцэнічнае майстэрства і вакальныя дадзеныя Іллі Сільчукова».*
- *«Немагчыма не скарыцца яркаму тэмбру Андрэя Валенція. Ён валодае ўсімі лепшымі якасцямі рускай басовай школы. Нізкі гучны рэгістр і такія ж пераканаўчыя верхнія ноты дазволілі яму выканаць з неверагодным напалам малітву «Гасподзь мой, калі грэшны я...»».*

**Alena Balabanovitch**

Il est à noter que la tournée du Théâtre Bolchoï de Bélarus en France a eu lieu plus d'une fois. En 2014, le légendaire «Lac des Cygnes» de Tchaïkovski, interprété par nos artistes, a été vu dans 24 villes dont Strasbourg, Grenoble, Dijon, Metz, Besançon, Toulon, Nice, Marseille, Toulouse, Lyon, Orléans, Paris, Rouen, Lille, Nantes. Et en 2015, des habitants de 26 villes de France ont applaudi les artistes du Théâtre Bolchoï de Bélarus aux spéctales «Le Lac des Cygnes» et «la Belle au Bois Dormant» de Tchaïkovski.

Il y a eu sept représentations en 10 jours — au début d'octobre nos artistes ont participé au projet commun: sur les scènes du Théâtre d'opéra de Rennes, du Grand théâtre d'Angers et du Théâtre Graslin à Nantes, les opéras «Aleko» et «Iolanta» ont été interprétées par l'Orchestre symphonique de Bretagne, le chœur du Théâtre d'opéra de Rennes, et d'Angers et Nantes, les solistes et le chef d'orchestre du Théâtre Bolchoï de Bélarus.

L'émotion et l'incroyable beauté de la musique de Rachmaninov et de Tchaïkovski ont été appréciées du public français: dans tous ces théâtres les représentations étaient données à guichet fermé, le public écoutait les solistes, patiquement en retenant son souffle. Les parties principales dans les versions concert de ces œuvres ont été interprétées par de véritables étoiles de l'opéra national: les artistes du peuple de Bélarus Anastasia Moskvina et Vladimir Petrov, les artistes émérites de la République du Bélarus Andrei Valentiy and Vladimir Gromov, les lauréats de concours internationaux Irina Koutchinskaya, Natalia Akinina,





кіх салістаў — моцныя і выдатныя! Выстаяць перад іх абаяльнасцю немагчыма!»

Для французскай публікі паказы опер сталіся сапраўдным пагружэннем. Па словах нашых артыстаў, трэба было проста бачыць вочы гледачоў, поўныя слёз, — у такой ступені прыгожая музыка гэтых твораў. Пасля «Алека» Рахманінава — шквал апладысментаў, пасля «Іаланты» Чайкоўскага — шчырае захапленне! Салісты выходзілі на паклоны неаднаразова. Хоць падчас саміх выступаў стаяла неверагодная цішыня. І не таму, што так прынята ў французскіх тэатрах, проста гледачы баяліся прапусціць найменшую дробязь — уважліва сачылі за рухамі, лавілі кожны гук... Такі цёплы прыём чакаў міжнародную каманду падчас усіх выступленняў. Нават па канцэртах жыхары пазнавалі артыстаў на вуліцах — падыходзілі і зноў казалі словы ўдзячнасці ды захаплення. А пасля такога, натуральна, хацелася спяваць толькі лепш і лепш.

З Сімфанічным аркестрам Брэтані і харамі оперных тэатраў Анжэ-Нант і Рэна ўзнікла творчае паразуменне — і гастролі прайшлі выдатна. Але чаму трэба здзіўляцца — разам сабраліся артысты найвышэйшага ўзроўню! У прэсе не аднойчы падкрэслівалася, як камфортна пачуваўся аркестр пад кіраўніцтвам Андрэя Галанава, таленавітага беларускага дырыжора: «Ад яго погляду нічога не схаваецца, пераканаўчым жэстам ён дасылае музыкантам імпульс стваральнай энергіі і перадае ім бліскучае веданне двух твораў. Андрэй Галанаў здолеў увасобіць і вытанчаную лірыку казкі Чайкоўскага, і зямную жарсць у драме Рахманінава».

Так атрымалася, што оперу «Іаланта» артысты спявалі на радзіме караля Рэнэ Добрага — у Анжэ. Таго самога ўладара, які з'яўляецца адной з дзейных асоб музычнага шэдэўра Чайкоўскага. Цудоўнае супадзенне надавала гастролям настрой неверагоднай рамантыкі. Можа быць, яшчэ і таму беларускія салісты кажуць пра гэты праект так: «Кожны раз, выходзячы на сцэну, мы пагружаліся ў стан светлай і вялікай любові, якой, здавалася, было прасякнута ўсё: самі ўтульныя гарады, і ўдзячныя гледачы, і, вядома, геніяльная музыка...» Ⓜ

**1. Зала тэатра ў Анжэ.** *Фота Анастасіі Масквіной. /*
**La salle de théâtre à Angers.** *La photo d'Anastasia Moskvina.*
**2. Віктар Мендзелеў і Ілля Сільчукоў у оперы «Іаланта». /**
**Viktor Mendelev et Ilya Siltchoukov dans l'opéra «Iolanta».**
**3. Анастасія Масквіна ў оперы «Алека». /**
**Anastasia Moskvina dans l'opéra «Aleko».**
*Фота Ларана Гізарда. / Les photos de Laurent Guisard.*

### EXTRAITS DES CRITIQUES FRANÇAISES:

• *«Les solistes biélorusses ont encore une fois montré leur niveau de professionnalisme et leur incroyable talent... Iryna Koutchinskaya a interprété la partie d'Iolonta avec tant d'émotion, qu'elle nous a fait tout oublier et nous a captivé dans sa lumière imaginaire, qui illumine un rayon d'espoir...»*

• *«Autrefois, ce rôle était joué par Fiedor Shaliyapin.... Vladimir Gromov – Aleko – est un baryton remarquable, avec un très beau timbre de voix. Il a pu reproduire aussi bien le désespoir que la brutalité de son personnage». «Anastassia Maskvinina a un soprano flamboyant. Dans la partie de Zemfira, la chanteuse a montré une large tessiture vocale avec des notes hautes pures et généreuses». «Le jeune ténor Alexandr Gelakh est un chanteur avec beaucoup de potentiel... Et la voix de Viktor Mendelev ne laisse pas le public indifférent: les spectateurs commencent à applaudir dès la première aria. On ne peut pas ne pas évoquer et Natalia Akinina et son riche mezzo-soprano. Vladimir Petrov a formidablement interprété des sentiments paternels par sa profonde voix de baryton de velours. Il convient de noter aussi la performance scénique et les capacités vocales d'Ilya Siltchukov».*

• *«Impossible de ne pas être conquis par un timbre brillant d'Andrei Valentia. Il possède toutes les meilleurs caractéristiques de l'école russe de basse. Un registre bas sonore et de pareilles notes hautes convaincantes lui ont permis d'interpréter avec une incroyable intensité la prière «Mon Dieu, je suis un pêcheur...»*

Ilya Siltchoukov, Viktor Mendelev et Alexandr Gelakh. Et c'est le chef d'orchestre Andrei Galanov qui coordonnait tout et tous.

«C'était une véritable fête! — ne ménageaient pas les éloges des critiques de la presse écrite française. — Les voix des solistes biélorusses sont puissantes et remarquables. Il est impossible de résister à leur charme!»

Pour le public français les représentations des opéras ont été une véritable immersion. D'après nos artistes, il suffisait de voir les yeux de spectateurs, remplis de larmes, — à tel point la musique de ces œuvres était belle. A la fin d'Aleko de Rachmaninov il y a eu un tonnerre d'applaudissements, à la fin d'Iolanta de Tchaïkovski — le public était en admiration sincère! Les solistes sont revenus plusieurs fois sur la scène pour s'incliner devant le public. Alors que pendant les représentations elles-mêmes un silence absolu régnait dans la salle. Et ce n'était pas parce que telle était la coutume en France, mais parce que les spectateurs ne voulaient pas laisser passer le moindre détail — ils suivaient les mouvements, captaient chaque son... Un tel accueil chaleureux était réservé à l'équipe internationale lors de toutes ses représentations. Et même après les concerts, les habitants reconnaissaient les artistes dans la rue, ils s'approchaient d'eux et encore leur exprimaient leurs remerciements et admiration. Et après tout cela, on avait, tout à fait naturellement, envie de chanter encore mieux.

Avec l'Orchestre symphonique de Bretagne et les chœurs des théâtres d'opéra d'Angers et Nantes, et de Rennes une compréhension artistique s'est créée — et la tournée a été un succès. Mais pourquoi s'en étonner — ce sont les artistes de plus haut niveau qui se sont réunis ensemble! La presse l'a souligné plusieurs fois — à quel point l'orchestre se sentait à l'aise sous la direction d'Andrei Golovanov, chef d'orchestre biélorusse de talent: «Rien n'échappe à son regard, d'un geste convaincant, il envoie aux musiciens une impulsion d'énergie créatrice et leur transmet une connaissance parfaite des deux œuvres. Andrei Golovanov a réussi à incarner un lyrisme raffiné du conte de Tchaïkovski, et la passion humaine dans le drame de Rachmaninov».

Il s'est trouvé que les artistes chantaient l'opéra «Iolanta» dans la ville natale du roi René, dit le Bon Roi René — à Angers. Ce même seigneur, qui est un des protagonistes du chef d'œuvre musical de Tchaïkovski. Cette coïncidence extraordinaire donnait à la tournée un état d'esprit particulèrement romantique. C'est peut être aussi pour cela que les solistes biélorusses parlent du projet en ces termes: «A chaque fois, en montant sur scène, nous nous plongions dans un état d'amour pur et grand, dont tout semblait être pénétré: les villes confortables elles-mêmes, les spectateurs reconnaissants, et bien sûr la musique géniale...» Ⓜ

# Цела балета

ХАРЭАГРАФІЧНЫЯ КАНТАКТЫ

# Le corps du ballet

LES CONTACTS CHORÉGRAPHIQUES

**ФРАНЦЫІ НАЛЕЖЫЦЬ БЕСПРЭЦЭДЭНТНАЯ РОЛЯ Ў РАЗВІЦЦІ СУСВЕТНАГА БАЛЕТА. КЛАСІЧНЫ ТАНЕЦ СКЛАЎСЯ І ВЫПРАЦАВАЎ АСНОВЫ СВАЁЙ ТЭХНІКІ МЕНАВІТА ТУТ. ПАЧЫНАЮЧЫ З XVII І ДА СЯРЭДЗІНЫ XIX СТ. ФРАНЦЫЯ З'ЯЎЛЯЛАСЯ ГАЛОЎНАЙ ЗАКАНАДАЎЦАЙ ГУСТУ І МОД У ГАЛІНЕ ХАРЭАГРАФІЧНАГА МАСТАЦТВА. АКАДЭМІЧНЫ ТАНЕЦ ВА ЎСЁЙ ЕЎРОПЕ І Ў РАСІІ БЫЎ У ГЭТЫ ЧАС У ПОЎНАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ АД ФРАНЦУЗАЎ-БАЛЕТМАЙСТРАЎ. БЕЛАРУСЬ НЕ СТАЛА ВЫКЛЮЧЭННЕМ.**

LA FRANCE A JOUÉ UN RÔLE SANS PRÉCÉDENT DANS LE DÉVELOPPEMENT DU BALLET MONDIAL. C'EST ICI QUE LA DANSE CLASSIQUE A ÉTÉ CRÉÉE ET A DÉVELOPPÉ LES BASES DE SA TECHNIQUE. DU DÉBUT DU XVIIÈME SIÈCLE ET JUSQU'À LA MOITIÉ DU XIXÈME LA FRANCE ÉTAIT LE PRINCIPALE CRÉATEUR DES GOÛTS ET DES TENDANCES DANS LE DOMAINE DE L'ART CHORÉGRAPHIQUE. LA DANSE CLASSIQUE DANS TOUTE L' EUROPE ET EN RUSSIE DÉPENDAIT ENTIÈREMENT DES CHORÉGRAPHES FRANÇAIS. LE BÉLARUS N'ÉTAIT PAS UNE EXCEPTION.

**Святлана Уланоўская**

Гісторыя кантактаў Беларусі і Францыі ў сферы танцавальнага мастацтва ўзыходзіць да XVIII ст., калі на Беларусі з'явіліся першыя оперна-балетныя трупы пры дварах буйных магнатаў — Радзівілаў у Слуцку і Нясвіжы, Міхаіла Казіміра Агінскага ў Слоніме, Антонія Тызенгаўза ў Гродна, Сямёна Зорыча ў Шклове. Вялікая роля ў станаўленні балетнага мастацтва на Беларусі належыць замежным харэографам і перш за ўсё прадстаўнікам французскай школы танца. Тэатразнаўца Гурый Барышаў, абапіраючыся на архіўныя дакументы, нават выказвае меркаванне, што ў падрыхтоўцы мясцовых танцоўшчыкаў «пераважалі традыцыі французскай Каралеўскай акадэміі музыкі і танца». Сярод запрошаных мэтраў балета быў Луі Максіміліян Дзюпрэ — адзін з заснавальнікаў мужчынскага акадэмічнага танца, настаўнік знакамітых артыстаў і харэографаў, у тым ліку Гаэтана Вестрыса, Максіміліяна Гардэля і самога Жан-Жоржа Навэра. Школу Дзю-

**Svetlana Ulanovskaya**

L'histoire des contacts entre le Bélarus et la France dans le domaine de l'art de la danse remonte au XVIII siècle, quand les premières troupes d'opéra et de ballet ont commencé à faire leur apparition au Bélarus auprès des cours de grandes familles — les Radziwills à Slutsk et à Nesvizh, Mikhail Kazimir Oginsky à Slonim, Anthony Tizengauz à Grodno, Semyon Zorich à Shklov.

Un rôle important dans le développement de l'art du ballet au Bélarus revient aux chorégraphes étrangers, et surtout aux représentants de l'école de danse française. L'expert en théâtre Guriy Baryshev, s'appuyant sur des documents d'archives, a même exprimé l'opinion selon laquelle «les traditions de l'Académie royale française de musique et de danse prévalaient» dans la formation des danseurs locaux. Parmi les maîtres du ballet invités, se trouvait Louis Dupré, un des fondateurs de la danse classique masculine, professeur de danseurs et chorégraphes célèbres, dont Gaëtan Vestris, Maximilien Gardel et



1.

прэ прайшлі і многія беларускія танцоўшчыкі (у 1756 — 1760 гг. Дзюпрэ ўзначальваў Слуцкую і Нясвіжскую балетныя школы), найбольшую вядомасць сярод якіх набыў Антоній Лойка — першы айчынны балетмайстар. У пастаўскай школе Тызенгаўза працаваў яшчэ адзін знаны французскі харэограф і педагог — Франсуа Габрыэль Ле Ду, які садзейнічаў распаўсюджанню ў Беларусі дзейснага балета — разгорнутага сюжэтнага спектакля з паслядоўным развіццём музычна-харэаграфічнай драматургіі.

Гэтаму плённаму перыяду беларускага танцавальнага мастацтва быў прысвечаны даклад доктара мастацтвазнаўства Вольгі Дадзіёмавай у рамках Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Беларускі балет у сусветнай культурнай прасторы», што адбылася 14—15 лютага 2018 у Мінску і Нясвіжы. Ініцыятарам канферэнцыі выступіла Пасольства Беларусі ў Францыі, а галоўным арганізатарам — Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Такі буйны навуковы форум, у якім прынялі ўдзел даследчыкі з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Латвіі і Францыі, у гісторыі айчыннага харэаграфічнага мастацтва адбыўся ўпершыню. Падзея была прымеркавана да гастроляў у сталіцы Нацыянальнага балета Марсэля, пра насычаную творчую дзейнасць і багатую гісторыю якога распавёў падчас канферэнцыі прэзідэнт тэатра Даніэль Арман.

Створаная ў 1972-м сусветна вядомым харэографам Раланам Пеці, з 1984 трупа набыла статус Нацыянальнага харэаграфічнага цэнтра (такіх цэнтраў у Францыі 19). Першыя гастролі Марсэльскага балета ў СССР у 1974 сталі для савецкай публікі акном у Еўропу, а ў балетах Ралана Пеці саліравалі Рудольф Нурэеў, Міхаіл Барышнікаў, Мая Плісецкая, Уладзімір Васільеў з Кацярынай Максімавай, Мікалай Цыскарыдзэ, Ульяна Лапаткіна і інш. Прыемна адзначыць, што ў апошнія гады творчасці ўлюбёнцам Пеці быў выпускнік Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай гімназіі-каледжа Іван Васільеў. Для яго харэограф узнавіў свой легендарны балет «Юнак і смерць», прэм'ера якога адбылася ў Вялікім тэатры Расіі (2010), а таксама запрасіў маладога артыста ў Рымскую оперу танцаваць у «Арлезіянцы».

З 1980-х Марсэльскі балет атрымаў вялікі комплекс сучасна абсталяваных збудаванняў (архітэктар Ралан Сімунэ) агульнай плошчай звыш 6000 квадратных метраў, які ўключае рэпетыцыйныя студыі, глядацкую залу з высоўнай сцэнай, гіганцкую трох'ярусную касцюмерную, дзе захоўваюцца каля 2000 касцюмаў, масажны кабінет, трэнажорную залу і інш. 7 вучэбных студый комплексу займае Вышэйшая школа балета, заснаваная паводле ўказу прэзідэнта Францыі Франсуа Мітэрана ў 1982-м. Пасля сыходу Пеці ў 1998-м трупу ўзначальвалі розныя харэографы, у тым ліку таленавітая балерына і пастаноўшчыца Мары-Клод П'етрагала. З 2014-га мастацкімі кіраўнікамі тэатра з'яўляюцца італьянскі ха-

***МАРЫНА ВЕЖНАВЕЦ,***
***балерына, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, кіраўніца «Балетнай школы Вежнавец»:***

*— У Парыжы нашы выхаванцы выступалі тройчы. Двойчы мы паказвалі балет «Шчаўкунок» на музыку Чайкоўскага. Гэтыя гастролі адбыліся дзякуючы спрыянню пасольства Беларусі ў Францыі.*
*Акрамя таго, у Парыжы не першы год праходзіць паўфінал міжнароднага конкурсу «Маладзёжнае гран пры Амерыкі» (Youth America Grand Prix). Гэта найбуйнейшае міжнароднае спаборніцтва для выканаўцаў ад 9 да 19 гадоў. Спачатку на гэты конкурс паехала выхаванка школы Вера Шпакоўская. Яна не ўвайшла ў тройку лідараў, заняла 4-е месца, але яе запомнілі.*
*У 2017 годзе ў Парыж мы выправіліся большай кампаніяй. Паехалі нашы моцныя выхаванцы, якія дасягнулі пэўнага тэхнічнага і артыстычнага ўзроўню. Гэта Вера Шпакоўская, Ксюша Косава, Эліна Сільвановіч, Ася Ярмаш, з хлопчыкаў — Мікіта Сінкевіч. У выніку ў Нью-Ёрк, на фінал конкурсу «Youth America Grand Prix», запрасілі Веру, Асю і Мікіту. Яны занялі прызавыя месцы ў класічным танцы, а Ксенія Косава аказалася першай у сучаснай харэаграфіі.*

Jean-Georges Noverre lui-même. De nombreux danseurs biélorusses sont passés par l'école de Dupré (entre 1756 et 1760, Dupré était à la tête des écoles de ballet de Slutsk et de Nesvizh), le plus célèbre d'entre eux est Antony Loïko — le premier maître de ballet national. Un autre célèbre chorégraphe et pédagogue français travaillait à l'école de Tisenhaus à Postavy, c'était François Gabriel Le Doux, qui favorisait la diffusion au Bélarus du ballet d'action — un spectacle au sujet détaillé avec le développement successif de la dramaturgie musicale et chorégraphique.

Olga Dadiomova, docteur en histoire de l'art, a consacré un rapport à cette période prospère de l'art de la danse biélorusse dans le cadre de la conférence scientifique internationale «Le ballet biélorusse dans l'espace culturel mondial», qui a eu lieu les 14—15 février 2018 à Minsk et Nesvizh. L'initiateur de la conférence était l'Ambassade du Bélarus en France et l'organisateur principal — l'Académie nationale de musique de Bélarus.

Un tel forum scientifique important, auquel ont pris part des chercheurs de Bélarus, Lituanie, Pologne, Russie, Lettonie et France s'est tenu pour la première fois de l'histoire de l'art chorégraphique biélorusse. L'événement était associé à la tournée à Minsk du Ballet national de Marseille, dont le président Daniel Hermann a fait part pendant la conférence d'une longue histoire et d'une activité intense du théâtre.

Créée en 1972 par le chorégraphe de renommée mondiale Roland Petit, en 1984 la troupe a obtenu le statut de Centre chorégraphique national (il n'y en a que 19 en France). La première tournée du Ballet de Marseille en URSS en 1994 a été pour le public soviétique une véritable fenêtre sur l'Europe, et ce sont Rudolf Nureyev, Mikhaïl Barychnikov, Maya Plisetskaya, Vladimir Vasilyev avec Ekaterina Maximova, Nikolai Tsiskaridze et d'autres qui se produisaient en solo dans les ballets de Roland Petit. Il est agréabler de noter qu'au cours des dernières années de son activité artistique, c'est un diplômé du Gymnase-collège chorégraphique national de Bélarus Ivan Vasiliev qui était le danseur préféré de Petit. Pour lui, le chorégraphe avait repris son ballet légendaire «Le Jeune homme et la mort» dont la première a eu lieu au Théâtre Bolchoï de Russie (2010), et il a également invité le jeune danseur au Théâtre de l'Opéra de Rome pour danser dans «L'Arlésienne».

Depuis les années 1980, le Ballet de Marseille a reçu un vaste complexe de structures modernes (l'architecte Roland Simounet) d'une superficie totale de plus de 6000 mètres carrés, comprenant des studios de répétition, un auditorium avec une scène escamotable, un gigantesque atelier des costumes à trois niveaux où sont gardés environ 2000 costumes, une salle de massage, une salle de sport et d'autres choses. L'École nationale supérieure de danse dont la création a été annoncée le 8 mars 1982 par le Président de France

***MARINA VEZHNAVETS,***
***ballerine, artiste émérite de la République du Bélarus, directrice de «L'école de ballet de Vezhnavets»:***

***— À Paris, nos élèves se sont produits trois fois. Nous avons donné deux fois le ballet «Casse-noisettes» sur la musique de Tchaïkovski. Ces tournées ont eu lieu grâce à l'assistance de l'Ambassade du Bélarus en France.***
***En outre, la demi-finale du concours international «Youth America Grand Prix» se tient à Paris depuis plusieurs années. Il s'agit du plus grand concours international de danse pour les artistes, âgés de 9 à 19 ans. C'est notre élève Vera Shpakovskaya qui a pris part à ce concours la première. Elle ne figurait pas parmi les trois finalistes, en se classant en 4ème position, mais elle a marqué les esprits.***
***En 2017, nous sommes venus à Paris plus nombreux. Nos élèves forts qui avaient atteint un certain niveau technique et artistique faisaient parti de l'équipe. Il s'agissait de Vera Shpakovskaya, Ksyusha Kosova, Elina Silvanovich, Asya Yarmash, et des garçons — Nikita Sinkevich. A la suite de cela, Vera, Asya et Nikita ont été invités à la finale du concours «Youth America Grand Prix» à New York. Ils ont remporté des prix en danse classique et Ksenia Kosova a été la première en chorégraphie contemporaine.***





рэограф Эміа Грэка і нідэрландскі драматург, тэатральны рэжысёр Пітэр Шольтэн. Гэты творчы тандэм склаўся ў 1995-м і атрымаў шырокую міжнародную вядомасць. Пастаноўкі Грэка-Шольтэна нельга аднесці да ўласна балетнага мастацтва — хутчэй, гэта сучасная пластычная мова, якая аб'ядноўвае элементы класічнай тэхнікі з прыёмамі contemporary dance і экспрэсіяй на мяжы брутальнасці, уласцівай фізічнаму тэатру. Невыпадкова іх сумесныя работы нярэдка называюць «экстрэмалізмам». Паказальным у гэтым плане з'яўляецца спектакль «Le Corps du Ballet National de Marseille», прадстаўлены ў межах гастроляў на сцэне нашага Вялікага тэатра.

«Le Corps du Ballet» — першая пастаноўка Грэка-Шольтэна, увасобленая ў Марсэльскім балеце. Красамоўная назва выклікае повязь асацыяцый: гэта і «цела балета», і «кардэбалет», які мысліцца пастаноўшчыкамі асновай не толькі балетнага, але і любога іерархічнага грамадства. Непасрэднай крыніцай натхнення для аўтараў паслужыла даследаванне культуролага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Эліяса Канэці «Маса і ўлада». Невыпадкова ўсе артысты апранутыя ў аднолькавыя камбінезоны і маскі-панчохі, якія хаваюць індывідуальнасць і ствараюць вобраз «чалавека-масы». У цэнтры ўвагі пастаноўшчыкаў аказваецца жыццё чалавечага цела ў супрацьстаянні і ўзаемадзеянні памежных псіхафізічных праяў — ад цела дысцыплінаванага, апаланічна-прыгожага да цела вітальна-дыянісійскага. Гэтаму ўражанню садзейнічае полістылістычная мастацкая мова спектакля, дзе класічныя па (аўтары цытуюць фрагменты з «Лебядзінага возера», «Жызэлі», «Дон Кіхота») суседнічаюць з вострасучаснай пластыкай, а музыка Пятра Чайкоўскага ўжываецца поруч з «Марсельезай» і электронным саўндам.

У канцы XX — пачатку XXI ст. танцавальныя кантакты Беларусі і Францыі ўзбагаціліся новымі адметнымі падзеямі. Гэта і выступы ў сталіцы труп Марыса Бежара (2003), Жан-Клода Галата (2011), Анжэлена Прэльжакажа (2017), і прэм'ера ў Вялікім тэатры балета «Сон у летнюю ноч» у пастаноўцы Філіпа Каэна (1999), і рэгулярны ўдзел французскіх калектываў у Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі ў Віцебску, і неаднаразовыя гастролі беларускага балета ў Францыі, і ўручэнне Валянціну Елізар'еву міжнароднай прэміі «Benois de la Danse» на сцэне палаца ЮНЕСКА ў Парыжы (1996), і інш. Будзем спадзявацца, што наперадзе нас чакаюць новыя яскравыя падзеі!

**1—3. «Марсельскі балет» выступае ў Мінску.** *Фота з сайтаў de-oosterpoort.nl і tut.by.* / **La tournée du Ballet national de Marseille à Minsk.** *Les photos du sites de-oosterpoort.nl et tut.by.*

François Mitterrand occupe 7 salles de cours. Après le départ de Rolland Petit en 1998 le BNM est dirigé par de différents chorégraphes, dont la talentueuse danseuse et metteur en scène, Marie-Claude Pietragalla. En 2014, Emio Greco, chorégraphe italien, et Pieter C. Scholten, dramaturge et metteuse en scène néerlandais, prennent la direction du Ballet National de Marseille. Ce duo artistique s'est formé en 1995 et a acquis une grande renommée internationale. Les spectacles de Greco et Scholten ne peuvent pas être attribués à l'art du ballet proprement dit. Il s'agit plutôt d'un langage plastique moderne qui marie des éléments de la technique classique avec les techniques de danse contemporaine et une expression frôlant la brutalité propre au théâtre physique. Ce n'est pas un hasard si leurs spectacles conjoints sont souvent appelés «extrémalisme». Le spectacle «Le Corps du Ballet National de Marseille» donné dans le cadre de la tournée dans notre Théâtre Bolchoï en est un exemple frappant.

«Le Corps du Ballet» — c'est le premier spectacle de Greco et Scholten, réalisé par le Ballet de Marseille. Le nom éloquent provoque un lien d'associations: il s'agit à la fois du «corps du ballet» et du «corps de ballet», qui, selon les metteurs en scène, est la base non seulement de la communauté de ballet mais aussi de toute société hiérarchique. La source d'inspiration directe des auteurs a été l'oeuvre «Masse et Puissance» d'Elias Canetti, écrivain et lauréat du prix Nobel de littérature. Ce n'est pas un hasard si tous les comédiens sont vêtus de la même combinaison et du même masque, qui cachent leur individualité et créent l'image de «l'homme-masse». Les réalisateurs se concentrent sur la vie du corps humain dans la confrontation et l'interaction de manifestations psychophysiques — du corps discipliné, d'une beauté apollinienne au corps d'une beauté docile dionysiaque. Cette impression est favorisée par le langage artistique polystylistique du spéctacle, où les pas classiques (les auteurs citent des fragments du Lac des Cygnes, Giselle et Don Quichotte) coexistent avec la plastique qui est très en phase avec l'actualité, et où la musique de Pyotr Tchaikovsky s'accorde avec la Marseillaise et des sons électroniques.

À la fin du XX et au début du XXI siècle(s) les contacts entre le Bélarus et la France en matière de danse se sont enrichis de nouveaux événements remarquables. Ce sont des représentations à Minsk de la troupe de Maurice Béjart (2003), Jean-Claude Galata (2011), Angelin Preljocaj (2017), et la première au Théâtre de ballet Bolchoï «Le Songe d'une nuit» mise en scène par Philip Cohen (1999), avec la participation régulière de troupes françaises au Festival international de chorégraphie contemporaine de Vitebsk et des tournées répétées du ballet biélorusse en France et la remise à Valentin Elizariev du prix international «Benois de la Danse» sur la scène du palais de l'UNESCO à Paris (1996), et d'autres choses. Espérons que d'autres événements brillants nous attendent à l'avenir!

# Гледачы нароўні з артыстамі

## БЕЛАРУСКІЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СЕЗОНЫ Ў ФРАНЦЫІ

# Les spectateurs à égalité avec les artistes

## LES SAISONS THÉÂTRALES BIÉLORUSSES EN FRANCE

**Жана Лашкевіч**

Паводле прафесара Гурыя Барышава, першы беларускі прыдворны спектакль сыгралі ў 1730 годзе, а рыхтык да 1746-га «адна вучоная літоўская дама» на імя Уршуля Францішка Радзівіл у сваёй нясвіжскай ардынацыі патрапіла стварыць абсалютна свецкі тэатр (першы падобны ў гісторыі заходніх і ўсходніх славян) і перадусім пераклала для яго Мальера. Адметная рыса беларускай прафесійнай тэатральнай культуры XVIII стагоддзя — шматмоўе. Не адно оперныя, але і драматычныя пастаноўкі выконваліся на розных мовах, у тым ліку і па-французску; асабліва шмат перакладалі і прыстасоўвалі пад мясцовыя патрэбы Бамаршэ, Вальтэра і Мальера; творы апошняга ставілі нават у школьных тэатрах (а з п'есай «Не па сваёй ахвоце лекар» у Забельскім школьным тэатры выкладчык-драматург Міхал Цяцерскі абышоўся настолькі своеадметна, што апярэдзіў «перапрацоўчую» моду на два стагоддзі; натуральна, французская класіка да сёння ладзіць іспыты беларускім пастаноўшчыкам). Наш тэатр кшталціўся і праз пошук, і праз пераймание, і праз навучанне.
У 1995 годзе суайчыннік Мальера прыехаў у беларускую сталіцу па тое самае — вучыцца: набываючы рэжысёрскую адукацыю, Фабрыс Карэй аацаніў тутэйшыя магчымасці і ўтварыў беларускае аддзяленне французскай тэатральнай асацыяцыі Demain le Printemps («Заўтра вясна»). Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Тэатро» на чале з мастацкай кіраўніцай Лідзіяй Манаковай, слынным беларускім рэжысёрам-педагогам, паўстала ў 2007 годзе. У ягоных шэрагах — артысты, рэжысёры, музыканты, перакладчыкі. Цяпер гэ-

**Jeanna Lashkevich**

Selon le professeur Gouri Baryshev, le premier spectacle biélorusse à la cour fut donné en 1730, et justement en 1746 «une dame lituanienne savante» appelée Francesca Ursula Radziwill dans son fee tail a réussi à créer un théâtre tout à fait laïc (le premier dans son genre dans l'histoire des slaves de l'Est et de l'Ouest) et avant tout a traduit pour lui une œuvre de Molière. Le trait caractéristique de la culture théâtrale professionnelle du XVIII siècle est le multilinguisme. Non seulement les spectacles d'opéra mais aussi les mises en scènes dramatiques étaient exécutés en différentes langues, y compris en français, surtout on traduisait et adaptait aux besoins locaux beaucoup de Beaumarchais, Voltaire et Molière; des œuvres de ce dernier étaient mises en scène même dans des théâtres scolaires (et quant à la pièce le «Médecin malgré lui» au Théâtre scolaire de Zabely le pédagogue et dramaturge Mikhail Tsiatserski a fait un acte à tel point original qu'il a devancé la mode de «transformation» de deux siècles; naturellement les œuvres classiques françaises jusqu'à présent posent des problèmes pour les metteurs en scène biélorusses). Notre théâtre se perfectionnait par des recherches, des appropriations et l'apprentissage. En 1995, le compatriote de Molière est venu dans la capitale biélorusse dans le même but — apprendre: en se formant au métier de metteur en scène Fabrice Carey a apprécié les possibilités locales et a créé une filiale de l'Association théâtrale «Demain le Printemps». L'Association internationale «Teatro» avec à sa tête la directrice artistique Lidia Monakova, pédagogue et metteuse


1.

тыя ўтварэнні разам рупяцца пра беларускія стажыроўкі для франкамоўных выканаўцаў — прафесійных (яны доўжацца каля чатырох тыдняў) і непрафесійных (цягам дзевяці месяцаў). Штогод каля пяцідзесяці творцаў імкнуцца ў Мінск пераймаць і вучыцца, напрацоўваць досвед, завяршаючы курс увасобленымі «замалёўкамі з жыцця беларусаў і французаў, створаных беларусамі і французамі». Фабрыс Карэй сцвярджае, што перадусім ягоны праект існуе для культурнага абмену і шмат якія адукацыйныя адметнасці сучаснай Беларусі ён хацеў бы сцвердзіць у французскім побыце — прыкладам, агульны доступ да вывучэння замежных моў альбо музыкі.

Беларускай тэатральнай прысутнасці ў Францыі, краіне з велічнымі і прадстаўнічымі творчымі інстытутамі, вельмі паспрыяла Пасольства Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы на чале з заўзятым тэатралам, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Паўлам Латушкам. У 2014 годзе заўважнай падзеяй «Дзён беларускай культуры ў Францыі» зрабіўся паказ спектакля «Пан Тадэвуш» Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы пад ганаровым патранатам ЮНЕСКА на сцэне парыжскага тэатра МС93 (ён спецыялізуецца на пастаноўках усходняй Еўропы). Паэма Адама Міцкевіча гучыць на трыццаці трох сусветных мовах; для сцэнічнага ўвасаблення па-беларуску быў выкарыстаны пераклад Язэпа Семяжона, а для французскіх субцітраў — пераклад Рабера Буржуа. «Мы прывезлі Міцкевічу ў Парыж прывітанне з радзімы, на якую ён ніколі не вярнуўся і па якой сумаваў усё жыццё», — заўважыў рэжысёр Мікалай Пінігін, апавёўшы пра адметную дарэчнасць паказу, арганізаванага Пасольствам, бо якраз у 2014-м парыжскаму выданню «Пана Тадэвуша» зраўнялася 180 гадоў.

З «Дзён беларускай культуры ў Францыі» неўзабаве вылучыліся «Беларускія тэатральныя сезоны ў Францыі». Іх «першай ластаўкай», нязмушанай і лёгкай, у сакавіку 2016 года зрабілася лірычная камедыя Жана-Клода Іслера «Лёгкага жыцця ніхто не абяцаў» у пастаноўцы Аляксандра Яфрэмава і калектыву сталічнага Тэатра-студыі кінаакцёра нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Французскі драматург таксама наведаў тэатр «Ад'яр» і засведчыў сваю задаволенасць высокім узроўнем сцэнічнага ўвасаблення. Падкрэсленай цікавасцю наведнікаў карысталася і выстава «Тэатр у плакаце» адзінаццаці сучасных беларускіх мастакоў. У чэрвені папулярны парыжскі тэатр Les Feux-de-la-Rampe («Агні рампы») прыняў спектакль Мікалая Пінігіна «ART» паводле вядомай інтэлектуальнай п'есы Ясміны Рэза. Яркае пражыванне сваіх роляў Алегам Гарбузам, Сяргеем Чубам і Паўлам Харланчуком-Южаковым, адметныя псіхалагічныя складнікі дачыненняў ансамбля персанажаў, трапнасць і нечаканыя павароткі рэжысёрскага прачытання выклікалі прызнанне публікі і пакінулі па сабе найлепшыя ўражанні.

У 2017 годзе мінскі праект «ТрыТфармаТ» «з аншлагам прадставіў Парыжу пацешную камедыю з меладраматычным фіналам» беларускага драматурга Сяргея Гіргеля пад назваю «13-ы гузік Напалеона». Рэжысёрка Таццяна Траяновіч удакладніла, што гралі спектакль у зале Мэрыі 9-й акругі Парыжа недалёка ад Grande Opera (а гэта гістарычны гарадскі цэнтр). Памяшканне для паказу — нязвыкла невялікае, таму давялося памяняць мізансцэны і адмовіцца ад часткі дэкарацый. Экраны для перакладу на французскую перакрывалі пляцоўку, таму вырашылі пускаць цітры на столь. Французы назвалі гэтае рашэнне геніяльным, бо залу арганізавалі паводле прынцыпу амфітэатра: у першыя шэрагі запрасілі носьбітаў рускай мовы, а ў сярэдзіне на пад'ёме асталявалі месцы для франкамоўных гледачоў — каб зручней было засяроджваць позірк то на сцэне, то на столі. «Калі ў глядзельню панеслі дадатковыя крэслы, — распавяла Таццяна Траяновіч, — спадар Пасол здаволена адзначыў рэкордны продаж нашых квіткоў: зала мэрыі мусова змясціла каля 350 гледачоў. А мы... хваляваліся. Наш спектакль —



3.

en scène biélorusse très connue, a été créée en 2007. L'Association réunit des acteurs, metteurs en scène, musiciens, traducteurs. Maintenant, ces deux structures s'occupent des stages au Bélarus pour les acteurs francophones — professionnels (qui durent environs quatre semaines) et amateurs (durant 9 mois). Chaque année, près d'une cinquantaine d'artistes aspirent à venir à Minsk afin de s'approprier et apprendre, acquérir de l'expérience, en terminant leur cours par des «esquisses de vie de Français et de Biélorusses, réalisées par des Biélorusses et des Français». Fabrice Carey affirme qu'avant tout, son projet existe pour des échanges culturels et qu'il y a beaucoup de choses dans le système d'éducation du Bélarus qu'il aimerait voir en France, notamment l'accès général à l'étude des langues étrangères ou bien de la musique.

C'est l'Ambassade de la République du Bélarus en France avec à sa tête un fervent amateur de théâtre, l'Ambassadeur extraordinaire et plénipotentiaire Pavel Latushka qui a beaucoup contribué à la présence théâtrale biélorusse en France, pays avec de grandioses et représentatives institutions théâtrales. En 2014, c'est le spectacle «Pan Tadeusz» du Théâtre national Yanka Kupala sous le patronage de l'UNESCO sur la scène du théâtre parisien MC93 (qui se spécialise dans les spectacles de l'Europe de l'Est) qui a marqué «Les Journées de la cultures biélorusses en France».

Le poème d'Adam Mickiewicz est traduit en trente-trois langues; c'est la traduction de Yazep Semiazhone qui était utilisée pour la mise en scène en biélorusse, et celle de Robert Bourgeois — pour les surtitres français. «Nous avons apporté à Mickiewicz les salutations de la patrie où il n'avait jamais retourné et dont il s'était ennuyé toute sa vie» — a remarqué le metteur en scène Mikalai Pinigin, en soulignant l'organisation opportune par l'Ambassade de ce spectacle, car justement en 2014, 180 ans se sont écoulés depuis l'édition parisienne de «Pan Tadeusz».







2.

Sous peu, les «Saisons théâtrales biélorusses en France» se sont dégagées des «Journées de la culture biélorusse en France». C'est la comédie lyrique de Jean-Claude Islert «Personne n'a dit que ce serait facile» mise en scène par Alexandre Efremov et la troupe du Théâtre-studio d'acteur de cinéma du Studio national de cinéma «Belarusfilm» qui en est devenue, en mars 2018, «la première hirondelle» dégagée et légère.

Le dramaturge français a assisté aussi au spectacle donné au Théâtre Adyar et exprimé sa satisfaction du haut niveau de la réalisation scénique. L'exposition «Théâtre sur les affiches» de onze peintres contemporains biélorusses bénéficiait également d'une curiosité prononcée de spectateurs. En juin, un théâtre populaire parisien Les Feux-de-la-Rampe a accueilli le spectacle de Mikalai Pinigin «ART» d'après la pièce intellectuelle connue de Yasmina Reza. De brillantes interprétations de leurs rôles par Oleg Garbuzov, Sergei Tchub et


4.

камедыя сучасная. Яна вельмі аддалена мае дачыненне да гістарычнай тэмы. Калекцыянер, які апантана шукае трынаццаты гузік параднага мундзіра Напалеона (паводле легенды, гузік забяспечвае абсалютную ўладу над усім светам), у фінале знаходзіць сваё каханне. Але з самых першых рэплік глядзельня засведчыла сваё паразуменне са сцэнай, так што даводзілася рабіць шматлікія паўзы — каб перачакаць выбухі рогату і апладысменты. А часам публіка рэагавала ў абсалютна нечаканых месцах! У дзень спектакля нам паведамілі: зала мэрыі да нашых паслуг толькі дзве гадзіны, таму давядзецца іграць без антракту. Але артыстам трэба пераапрануцца — чым заняць гледачоў хоць бы якіх пяць-сем хвілін? І тады Арцём Давідовіч, адзіны, каму не трэба было мяняць касцюм, на інвалідным вазку свайго персанажа выкаціў на сцэну і абвясціў музычную паўзу: пад акампанемент рэквізітнай балалайкі і музычнага інструмента, названага "казой", заспяваў шлягеры з рэпертуару Шарля Азнавура, Джо Дасэна, Мірэй Мацьё... Яго прычакала авацыя. Як і нас пры канцы пастаноўкі. Мы адразу атрымалі запрашэнне ад старшыні асацыяцыі беларусаў горада Ліёна Bel'art Надзеі Крывашанавай і праз год, падтрыманыя нашым Пасольствам у Францыі, прыехалі са спектаклем "Шлюбны дагавор" паводле аднайменнай п'есы ізраільскага драматурга Эфраіма Кішона. Для сонечных французскіх гледачоў добрая камедыя як добрае віно!»

Тацяна Траяновіч заўважае, што пастаноўку, якая іграецца за мяжой, магчыма параўнаць з прэм'ерай: рэакцыя публікі заўжды невядомая. Пра яе можна меркаваць, але ведаць пэўна — немажліва. Ведаючы асаблівасці замежных паказаў, рэжысёр заўжды просіць сваіх артыстаў не панікаваць, не губляцца, не хавацца за тэкст, а дзейнічаць толькі паводле рэжысёрскай задачы, існаваць тут і цяпер. Вялікае значэнне мае пісьменны літаратурны пераклад, дакладнасць і трапнасць ягонай падачы. Як правіла, на спектаклі трапляе нейкая колькасць эмігрантаў, былых суайчыннікаў, прадстаўнікоў нацыянальнай дыяспары. Надараецца пэўны момант яднання, сустрэча землякоў. Але самае прыемнае, калі свае меркаванні выказваюць калегі, артысты і рэжысёры тэатра, дзе адбываецца паказ. Нягледзячы на моўны бар'ер, з імі вокамгненна знаходзіцца агульная мова.

А ў ліпені 2017-га беларускім пастаноўкам «Межы» і «Гэта ўсё яна» выпаў знакаміты Авіньёнскі фестываль, які семдзесят першы раз збіраў размаітыя сцэнічныя прапановы з усяго свету. Больш за тысячу спектакляў! Для тэатральных зорак і запрошаных труп фестываль мае трывалы сектар «In». Для тэатраў малавядомых існуе сектар «Off», таксама своеасаблівы рынак, дзе можна прадэманстраваць дасягненні і публіцы, і калегам, і адмыслоўцам пракату. Уладзімір Карачэўскі, на той час дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, сведчыў: каб годна прадставіць франка-беларускія праекты, ён спачатку ездзіў у Авіньён як глядач, вывучаў арганізацыю, прапановы, магчымасці, а да свайго выступу тэатр рыхтаваўся амаль два гады. Першы сумесны



5.

Pavel Kharlantchuk-Yuzhakov, de remarquables composantes psychologiques des relations entre tous les personnages, une fidélité et des détours inattendus de la lecture du metteur en scène ont suscité la reconnaissance du public et laissé les meilleures impressions.

En 2017, le projet minskois «TriTformaT» «a donné à Paris, à guichets fermés, une comédie hilarante avec une finale mélodramatique» du dramaturge biélorusse Serguëï Guirguel intitulée «Le 13ème boutons de Napoléon»

La metteuse en scène Tatiana Troïanovitch a précisé que le spectacle était donné dans la salle Rossini à la Mairie du 9e arrondissement non loin de l'opéra Garnier (et ça, c'est le centre historique). La salle était inhabituellement petite c'est pourquoi il a fallu renoncer à une partie de mise en scène et à une partie de décors. Les écrans pour la projection des surtitres couvraient la scène, on a décidé de projeter les surtitres sur le plafond. Les français ont trouvé cette solution géniale, car la salle était aménagée en amphithéâtre: aux premiers rangs étaient invités des russophones, au milieu sur une élévation étaient installés des spectateurs francophones afin de leur permettre de fixer le regard tantôt sur la scène tantôt sur le plafond. «Quand des chaises supplémentaires ont commencé à être apportées dans la salle, — raconte Tatiana Troïanovitch, — Monsieur l'Ambassadeur, content, a fait remarquer une vente record de nos billets: la salle de la mairie devait contenir près de 350 spectateurs. Et nous... étions émus. Notre spectacle est une comédie contemporaine. Elle concerne de très loin le sujet historique. Le collectionneur qui cherche avec abnégation le treizième bouton de la tenue de cérémonie de Napoléon (selon la légende, le bouton confère un pouvoir absolu sur le monde entier), en finale trouve son amour. Dès les premières répliques, les spectateurs ont témoigné de leur compréhension de ce qui se passait sur la scène, donc, il a fallu faire de nombreuses pauses afin d'attendre que des éclats de rire et des applaudissements cessent. Et parfois le public réagissait à des moments tout à fait inattendus! Le jour du spectacle, nous avons été informé que la salle de la mairie n'était mise à notre disposition que pour deux heures, de ce fait il faudrait jouer sans entracte. Mais les acteurs avaient besoin de se changer et de quoi occuper les spectateurs, au moins pendant quelque cinq ou sept minutes? Alors Artiom Davidovitch, le seul à ne pas avoir besoin de se changer, sur une chaise roulante de son personnage, a roulé sur la scène et en s'accompagnant de la balalaïka faisant partie des accessoires et d'un instrument musical surnommé «la chèvre» s'est mis à chanter des tubes de Charles Aznavour, Joe Dassin, Mireille Mathieu...Les spectateurs lui ont fait une ovation. Comme à nous, à la fin du spectacle. Tout de suite, nous avons été invités par la présidente de l'association des biélorusses de Lyon Bel'art Nadezhda Kryvoshanova et au bout d'un an, avec le soutien de notre Ambassade en France, nous sommes venus avec le spectacle «Le Contrat de mariage», d'après la pièce éponyme du dramaturge israélien Ephraim Kishon. Pour les spectateurs français radieux, une belle comédie est comme un bon vin!»



6.

Tatiana Troïanovitch constate que le spectacle qui est donné à l'étranger peut être comparé à une première: la réaction du public est toujours inconnue. On peut en juger, mais il est impossible de la connaître de manière sure. Sachant des particularités des spectacles à l'étranger, la metteuse en scène demande toujours à ses acteurs de ne pas paniquer, ne pas se perdre et se cacher derrière le texte, mais agir conformément à la mission de metteur en scène, exister ici et maintenant. Une traduction littéraire écrite, l'exactitude et la justesse de son interprétation sont d'une grande importance. Habituellement, un certain nombre de biélorusses émigrés, de représentants de la diaspora biélorusse viennent à nos spectacles. Il arrive un moment d'union, une rencontre de compatriotes. Mais ce qui surtout nous fait très plaisir c'est quand leurs jugements expriment nos collègues, acteurs

праект з артыстамі МГА «Тэатро» — вербацім рэжысёра Аляксандра Марчанкі «Межы» — паказалі адзінаццаць разоў. Праз яго фестывальная публіка магла ўявіць сучаснае беларускае жыццё, чые набалелыя тэмы выявіліся вельмі блізкімі еўрапейцам. Нашумелы беларускі спектакль «Гэта ўсё яна» драматурга Андрэя Іванова і рэжысёркі Монікі Дабраўлянскай, існую драму паразумення маці і сына, паводле фестывальнае дамовы паказалі дзесяць разоў. «Спачатку трэба было прайсці праз увесь горад і аддаць сустрэчным улёткі-запрашэнні, самастойна развесіць афішы, — апавядала актрыса Людміла Сідаркевіч. — Хоць на сметніцы, хоць на ліхтарныя слупы. Я сустрэла будынкі, чые фасады былі спрэс заклееныя афішамі, нават вокны. Але запрашэнні бралі з павагаю, нават дзякавалі. Праўда, мяне хутка вызвалілі ад гэтых шпацыраў — пэўна, праз цяжар выканання ролі ў пастаноўцы. Мяркуйце самі: з 10:00 да 23:30 на нашай пляцоўцы паказваюць спектаклі. Наш час — 20:30. Пазнавата? О, не! Дзякаваць богу, у гэты час не так горача. Мы самі, калі выпадала магчымасць паглядзець чыесьці творы, сядалі ў вільготныя, а то і мокрыя фатэлі — гарачыня ў Авіньёне для нас зусім нязвыклая, нягледзячы на кандыцыянеры і пастаянны клопат, каб праветрыць. Паўсюль — уважлівы і дакладны тэхнічны персанал: ніхто не дасць артысту зрабіць лішні крок і рабіць не сваю работу. Просяць папярэджваць пра ўсе патрэбы і вымогі. Усё падрыхтавана ў час і нічога не вымагае перапрацоўкі! Французскі тэатр вельмі моцны яшчэ і за кошт сваіх вельмі прафесійных, дысцыплінаваных тэхнічных супрацоўнікаў! Але правілы паказу строгія: за пятнаццаць хвілін трэба наладзіць дэкарацыю і падрыхтаваць рэквізіт. У кожнага — свая зона працы. Кожны вызначыў яе падчас тэхнічных рэпетыцый. Проста трэніраваліся — каб хвіліна ў хвіліну — і так намастачыліся, што рыхтавалі сцэну за дзесяць хвілін, нават рэкорд паставілі: сем! Сыграць дзесяць разоў запар з адным выходным днём — вельмі складанае выпрабаванне на прафесійнасць. Дзесяць разоў запар прымушаць сябе быць існай, жывой, нанова перажываць матчыну драму! Проста нервовае знясіленне. Слёзы пырскалі рэфлекторна, даводзілася сябе стрымліваць і нават кантраляваць, каб не надарылася істэрыкі (дзесяць істэрык — гэта ўжо не жартачкі!). Але гледачы... Яны выходзілі і адразу пачыналі расказваць прысутным — тым, якія чакалі паказу іншага тэатра, што "вось гэты во спектакль трэба глядзець абавязкова!". Больш за тое, да нас не аднойчы падыходзілі адразу пасля прагляду і распавядалі свае ўражанні, нават ладзілі такія маленькія абмеркаванні. Відаць, твор моцна чапляў публіку. Французы былі надзвычай уважлівымі! Адцягваліся ад субцітраў, пільнавалі кожны рух на пляцоўцы і самыя малыя змены ў інтанацыях. Мы для іх зрабіліся своеасаблівым адкрыццём: адкрыты канфлікт пастаноўкі, эмоцыі, слёзы — вяла рэй наша тэатральная школа са сваім славутым псіхалагізмам. У Авіньён прывозяць шмат выбітных забаўляльных спектакляў — без другога плану, з адметна пастаўленымі фокусамі, яркіх, вясёлых... І вось публіка гэтых спектакляў вельмі шчыра адгукалася на нашу сучасную драму маці і сына».


7.

У Авіньёне традыцыйна працуе глядацкае журы — з ліку самых прасунутых, актыўных і загартаваных гледачоў, аб'яднаных у грамадскую арганізацыю Tournesol («Сланечнік»). У іх усё зладжана і сур'ёзна, яны глядзяць кожны спектакль і складаюць падрабязны водгук-рэцэнзію. Амаль з тысячы пяцісот пастановак яны зважылі на сто пяцьдзясят (сацыяльнай скіраванасці альбо такіх, дзе закранаюцца праблемы выхавання, паразумення, псіхалогіі), з іх абралі пятнаццаць найлепшых, а потым — для глядацкай узнагароды — шэсць. Спектакль «Гэта ўсё яна» атрымаў авіньёнскі Tournesol і пільную ўвагу еўрапейскіх тэатральных дырэктараў.

Учэпістую патрабавальнасць французскай публікі Людміле Сідаркевіч выпала канчаткова асэнсаваць сёлетнім траўнем у Парыжы, калі «Гэта ўсё яна» паказвалі ў «Аталанце» — малой сцэне знакамітага парыжскага тэатра «Атэлье»



8.

et metteurs en scène du théâtre où nous donnons un spectacle. Malgré la barrière linguistique, avec eux, nous trouvons tout de suite un langage commun. Et en juillet 2017, il est arrivé aux spectacles biélorusses «Frontières» et «C'est à cause d'elle» d'être donnés au fameux Festival d'Avignon qui pour la 70ème fois rassemblait des propositions scéniques diverses. Plus d'un millier de spectacles! Pour les stars de théâtre et les troupes invitées c'est toujours le festival «In». Pour les théâtres peu connus, il existe le festival OFF qui est également une sorte de marché où on peut montrer ses réalisations au public, aux collègues et aux spécialistes de distribution. Vladimir Karachevski, directeur du Théâtre national de la dramaturgie biélorusse à l'époque, témoignait que pour présenter convenablement des projets franco-biélorusses, d'abord, il s'était rendu à Avignon comme un spectateur pour étudier le mode d'organisation, les propositions, les possibilités, et le théâtre s'était préparé pendant presque deux ans pour son spectacle. Le premier projet conjoint avec des acteurs de l'Association internationale «Téatro» — un drame (théâtres documentaire) du metteur en scène Alexandre Martchenko «Frontières» a été joué onze fois. A travers ce spectacle, le public de festival a pu se faire une idée de la vie actuelle biélorusse dont des sujets douloureux se sont avérés proches aux européens. Le spectacle biélorusse du dramaturge Andreï Ivanov et de la metteuse en scène Monica Dobrowlanska, un véritable drame sur l'absence de compréhension entre une mère et son fils qui a fait grand bruit «C'est à cause d'elle» conformément à l'accord de festival a été donné dix fois. «D'abord il fallait traverser toute la ville pour distribuer aux passants des tracts d'invitation, coller des affiches par nous-même, — racontait l'actrice Ludmila Sidorkevitch. — N'importe où — sur des poubelles, sur des poteaux d'éclairage. J'ai rencontré des immeubles dont les façades, y compris les fenêtres, étaient entièrement couvertes d'affiches. Mais les gens prenaient les invitations avec respect, et même nous remerciaient. Il est vrai, j'ai été vite dispensée de ces promenades à pied — probablement, vu mon rôle difficile dans le spectacle. Jugez-en par vous-même: les spectacles sont donnés sur notre plateau de 10h00 à 23h30. Notre tour est à 20h30. Un peu tard? Mais non! Dieu merci, à cette heure il ne fait pas

trop chaud. Nous-mêmes, lorsqu'une occasion se présentait nous nous installions dans des fauteuils humides, voir même trempés – nous tous ne sommes pas du tout habitués à la chaleur à Avignon malgré les climatiseurs et le souci constant d'aérer. Partout, le personnel technique accueillant et serviable: personne ne laissera l'acteur faire un pas de trop et faire un travail qu'il n'est pas censé faire. On vous demande de signaler vos besoins et demandes. Tout est préparé à temps et rien n'est à refaire. Le théâtre français est très fort aussi grâce à ses spécialistes techniques très professionnels et disciplinés! Mais les règles de présentation sont très strictes: en un quart d'heure il faut installer les décors et préparer les accessoires. Chacun à sa zone de travail. Chacun l'a définie lors des répétitions techniques. Tout simplement ils s'entraînaient à chronométrer leurs actions à la minute près et ils se sont fait la main à tel point qu'ils réussissaient à préparer la scène en dix minutes, et même ont établi un record – sept minutes! Jouer dix fois de suite, avec un seul jour de repos, c'est un test très difficile de professionnalisme. Se forcer dix fois de suite à être naturelle, vive, à éprouver de nouveau le drame d'une mère! C'est tout simplement un épuisement nerveux. Les larmes jaillissaient involontairement, je devais me contenir et même contrôler pour éviter une crise de nerfs (dix crises de nerfs ce ne sont plus des plaisanteries). Mais les spectateurs...Ils sortaient et tout de suite commençaient à raconter aux spectateurs qui attendaient un autre spectacle d'un autre théâtre que «voilà un spectacle à ne pas rater!» Plus encore, à plusieurs reprises des spectateurs s'approchaient de nous après le spectacle et exprimaient leurs impressions et même se livraient à de brèves discussions. Il parait que l'œuvre touchait beaucoup le public. Les français étaient très attentifs. Ils se détournaient des surtitres et suivaient attentivement chaque mouvement sur le plateau et les moindres changements d'intonations. Nous avons été pour eux une découverte: un conflit ouvert du spectacle, des émotions, des larmes – c'est notre école théâtrale avec son célèbre psychologisme qui donnait le ton. Beaucoup de spectacles remarquables divertissants sans un second plan, avec des trucs joués de manière formidable, brillant et hilarants sont donnés à Avignon. Et c'est le public de ces spectacles qui a réagi de manière très sincère à un drame contemporain d'une mère et de son fils».

À Avignon, il existe un jury de spectateurs composés des spectateurs les plus branchés, actifs et trempés réunis dans une association «Le Tournesol». Tout est bien organisé et sérieux, ils regardent chaque spectacle et remplissent des fiches techniques de notation de chacun des spectacles.

Sur presque 1500 spectacles, ils ont pris en considération 150 (à caractère social où sont abordés des problèmes d'éducation, de compréhension et de psychologie) et en ont sélectionné les quinze meilleurs et ensuite six pour les prix de spectateurs. Le spectacle «C'est à cause d'elle» a reçu le prix du Tournesol et une grande attention de directeurs de théâtre européens.

Il est arrivé à Ludmila Sidorkevitch de saisir définitivement le sens d'une exigence chicaneuse du publique français en mai dernier à Paris lorsque «C'est à cause d'elle» était donné dans la Salle de spectacle «L'Atalante» du fameux Théâtre de l'Atelier (plateau du célèbre Charles Dullin, membre du soi-disant «Cartel des quatre» du siècle dernier réunissant des metteurs en scènes français connus). «Il se peut que nous nous fassions des idées, – s'étonne la comédienne, – mais nous ressentions le soutien du bâtiment de théâtre même. Il était agréable de nous trouver même dans la salle de maquillage et d'habillage commune. Des étudiants sont venus à la répétition technique et ils s'étaient tellement passionnés qu'ils ont décidé de rester pour le spectacle, et après ils m'ont soumis à un véritable interrogatoire – quelle est mon attitude personnelle aux problèmes de mon fils imaginaire? Et avec cela, ils décrivaient mes gestes et mes intonations avec une telle précision que la conclusion est venue d'elle-même: les spectateurs français lors du spectacle... travaillent. Tout comme acteurs». Ⓜ



(пляцоўкі знанага рэжысёра Шарля Дзюлена, удзельніка так званага «Картэля» знакавых французскіх рэжысёраў мінулага стагоддзя). «Мо гэта была наша фантазія, – дзівіцца артыстка, – але мы адчувалі падтрымку самога тэатральнага будынка. Нават у агульнай грымёрнай было вельмі прыемна знаходзіцца. На тэхнічны прагон прыйшлі студэнты і так захапіліся, што засталіся на спектакль, а пасля зладзілі мне ветлівую, але настойлівую апытанку – як, маўляў, я асабіста стаўлюся да праблем свайго ўяўнага сына? І пры гэтым настолькі дакладна апісвалі мае дзеянні ды інтанацыі, што выснова папрасілася такая: французскія гледачы на спектаклі...працуюць. Нароўні з артыстамі». Ⓜ



9.

**1. «Пан Тадэвуш». Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы. / «Pan Tadeusz». Le Théâtre national Yanka Kupala.**

**2. Афішы спектакляў «Пан Тадэвуш» і «Арт». / Les affiches des spectacles «Pan Tadeusz» et «ART».**

**3. Рэжысёр Мікалай Пінігін на рэпетыцыі «Пана Тадэвуша» ў Парыжы. / Le metteur en scène Mikalai Pinigin à la répétition du spectacle «Pan Tadeusz» à Paris.**

**4, 5. Афішы да авіньёнскіх паказаў «Гэта ўсё яна» і «Межы». / Les affiches des spectacles «C'est à cause d'elle» et «Frontières» à Avignon.**

**6. Афіша спектакля «13-ы гузік Напалеона». / L'affiche du spectacle «Le 13ème bouton de Napoléon».**

**7. Алена Гіранок (Сара). «Лёгкага жыцця ніхто не абяцаў». Тэатр-студыя кінаакцёра. / Alena Girenok (Sara). «Personne n'a dit que ce serait facile». Le Théâtre-studio d'acteur de cinéma.**

**8. «13-ы гузік Напалеона». «ТрыТфармаТ». / «Le 13ème bouton de Napoléon». «TriTformaT».**

**9. Вера Палякова (Вольга Карлаўна). «13-ы гузік Напалеона». / Vera Poliakova (Olga Karlovna). «Le 13ème bouton de Napoléon».**

*Фота Віктара Зайкоўскага і з архіва тэатра. / Photos de Victor Zaykovski et des archives des théâtres.*

# Клан ZIBRA: лён, Міро і выцінанка
# Le Clan ZIBRA: le lin, Miró et la vycinanka

**Алена Каваленка**

Летась у кастрычніку ў парыжскім творчым лофце Bastill Design Center праходзіў першы фестываль-конкурс славянскай моды Fil Rouge (з французскай — «Чырвоная нітка»), арганізатарамі якога выступілі стыліст і мастак Андрэй Андрэеў (Парыж) і дызайнерка Яна Флэйм (Лондан). Калекцыі маладых дызайнераў з Беларусі, Украіны, Расіі ды іншых краін Усходняй Еўропы ацэньвала высокае журы ў складзе Дональда Патара — стваральніка і першага генеральнага дырэктара моднага дому Жан-Поля Гацье, французскага куцюр'е Эймерыка Франсуа, прадстаўнікоў найстарэйшай школы моды ў Парыжы Esmode, найбуйнейшых салонаў моды ў Францыі Who's next и Premiere Classe. Дызайнеркі-стваральніцы маркі ZIBRA — Аляксандра Жук і Дарына Вадап'янава — атрымалі бясплатны павільён на міжнароднай выставе адзення, абутку і аксесуараў Who's next сёлета ў студзені. Беларускае пасольства ў Францыі падтрымала прэзентацыю маладога брэнда ў буйных міжнародных фэшн-салонах — удзел у праектах такога ўзроўню падкрэслівае вялікі патэнцыял развіцця беларуска-французскага супрацоўніцтва ў сферы моды і дызайну. Журы Fil Rouge адзначыла ZIBRA некалькімі ўзнагародамі: дзяўчаты былі на майстар-класах ад вядучых экспертаў у вобласці моды, атрымалі піяр-суправаджэнне парыжскага прэс-бюро, што працуе з сусветнымі брэндамі, а галоўнае — завялі мноства карысных знаёмстваў у індустрыі. У выніку сёлета ZIBRA прадстаўляла Беларусь яшчэ і на Сербскім ды Міланскім тыднях моды.


1.

Мастацкія густы і захапленні дызайнерак Мацісам, Шыле, Міро знаходзяць непасрэднае ўвасабленне ў іх калекцыях. У вопратцы ZIBRA — экспрэсія і новае дзікунства, энергія маладосці і біяморфныя абстракцыі, вышытыя чырвонымі ды белымі ніткамі. Ёсць у ZIBRA і вопыт калабарацыі з айчыннымі ілюстратарамі, паводле эскізаў якіх яны робяць свае фірмовыя вышыўкі. Прыхільнікі брэнда — па-за ўзростам, яны ўважлівыя да дэталяў, не баяцца вылучыцца і цікавяцца наватарскімі рэчамі, маюць шырокі кругагляд, шмат вандруюць, бачаць, што свет мяняецца, і мяняюцца таксама.

Сама назва «Zibra» мае на ўвазе спалучэнне кантрастаў — двух абсалютна розных людзей, двух светапоглядаў, двух канцэптаў. Аляксандра Жук абірае стылістыку люксу, гламуру і жаноцкасці. Дарыне Вадап'янавай даспадобы андэграўнд, стрыт-стайл, электронная музыка.

— Мы камбінуем стылі, міксуем класіку і спорт, надаем ім новае гучанне. Уся наша вопратка, нават самая простая, — асэнсаваная. Мы намагаемся ўвесь час рабіць тое, што больш ніхто не робіць, выбіраць колеры, якія больш нідзе не знойдзеш, — падкрэслівае Дарына.

— У нашу канцэпцыю ўваходзіць ужыванне нацыянальных матываў і тэхнік, напрыклад, была ў нас цэлая калекцыя, прысвечаная выцінанцы, — дадае Аляксандра. — Таксама штолета мы адшываем класную калекцыю з ільну, якую можна было б паспяхова прасоўваць на заходніх рынках. Лён выкарыстоўваем толькі беларускі — вельмі якасны матэрыял для ўнікальнай вопраткі. На Тыдні славянскай моды ў Парыжы і выставе Who's next беларускія дызайнеркі паказвалі калекцыю, прысвечаную Жаану Міро (дарэчы, вялікая рэтраспекцыя мастака адкрылася сёлета ў Гран-Пале — трэнд нібы лунае ў

**Alena Kavalenka**

En octobre de l'année passée, le premier festival de mode slave «Fil Rouge» s'est tenu dans le loft parisien Bastill Design Center dont les organisateurs étaient Andrei Andreev (Paris) et la stylicienne Yana Flame (Londres). Les collections de jeunes styliciennes du Bélarus, d'Ukraine, de Russie et d'autres pays de l'Europe de l'Est étaient appréciées par un haut jury composé de Donald Patara, fondateur et premier directeur général de la maison de mode Jean Paul Gaultier, d'Eymeric François, grand couturier français, de représentants de la plus ancienne école de mode à Paris ESMODE, des plus grands salons de mode «Who's next» et «Première Classe». Les styliciennes et les créatrices de la marque ZIBRA, Aliaksandra Zhuk et Daryna Vodopyanava, ont représenté dignement notre pays et ont reçu gratuitement un stand au Salon international de vêtements, chaussures et bijoux «Who's next» en janvier cette année. L'Ambassade du Bélarus en France a soutenu la présentation de la jeune marque à de grands salons de mode internationaux car la participation aux projets de tel niveau souligne un grand potentiel de développement dans le domaine de la mode et du design. Le jury de «Fil Rouge» a gratifié ZIBRA de plusieurs prix: les filles ont assisté à des classes de maître données par des experts renommés dans le domaine de la mode, ont reçu l'accompagnement PR d'une agence de Relations Presse parisienne qui travaille avec des marques mondiales, et surtout, elles ont fait beaucoup de connaissances utiles dans la filière. Par conséquent, cette année ZIBRA a aussi représenté le Bélarus aux semaines de la mode en Serbie et à Milan.

Les préférences artistiques et l'admiration des styliciennes pour Matisse, Schiele, Miró sont directement reflétées dans leurs collections. Dans les créations de ZIBRA — l'expression et la nouvelle sauvagerie, l'énergie de la jeunesse et des abstractions biomorphes, brodées avec des fils rouges et blancs. ZIBRA a aussi une expérience de collaboration avec des illustrateurs biélorusses, à partir d'esquisses desquels elles réalisent leurs broderies de marque. Les admirateurs de la marque — de tout âge, sont attentifs aux détails, n'ont pas peur de se faire distinguer et apprécient les créations innovantes, ont l'esprit ouvert, voyagent beaucoup, ils voient que le monde change, et changent avec lui.

Le nom en lui-même «Zibra» sous-entend la coexistence de contrastes — deux personnes totalement différentes, avec deux visions du monde, deux concepts. Aliaksandra Zhuk privilégie un stylisme du luxe, du glamour et de la féminité. Daryna Vodopyanava



2.


3.


4.

apprécie l'underground, le style de rue, la musique électronique.

— Nous combinons des styles, mélangeons le classique et le sportif, leur redonnons une nouvelle sonorité. Chacune de nos créations, même la plus simple est bien réfléchie. Nous essayons toujours de faire ce que personne d'autre ne fait, choisir des couleurs qui sont introuvables ailleurs, — souligne Daryna.

— Notre conception associe des motifs et des techniques nationaux, par exemple, nous avons eu toute une collection, consacrée à la vycinanka, — ajoute Aliaksandra. — Par ailleurs, chaque année nous créons une collection géniale en lin, qui pourrait être rapidement commercialisée sur les marchés occidentaux. Le lin utilisé est uniquement biélorusse — il s'agit d'un textile de qualité pour des créations uniques.

паветры). Сукенкі і паліто ўтрымліваюць характэрныя рысы ZIBRA — спалучэнне мінімалістычнасці колеру і сілуэта з яскравым выразным дэкорам.

— У Беларусі няпроста з выбарам матэрыялаў. Часта адштурхоўваешся не ад ідэі, а ад наяўнасці ў цябе тканіны, і потым пачынаеш думаць, што цікавага можна з ёй зрабіць, — кажа Аляксандра Жук. — У нас складана адшукаць незвычайны прынт або якасна надрукаваць малюнак на тканіне. Таму мы займаемся ручным роспісам і вышыўкай. Звычайная сіняя сукенка — тое нецікава, а тут на ёй з'яўляецца рознакаляровая аб'ёмная вышыўка са структурным пляценнем... Шывок адмыслова не акуратны, а грубы, ён дакладна адлюстроўвае маладосць нашага брэнду, яго сутнасць.

Як рэагуе на эксцэнтрычны беларускі дызайн парыжская публіка?

— Я вучу французскую і ў Парыжы старалася камунікаваць на ёй, бо размаўляць з патэнцыйным кліентам, зачапіць увагу, заінтрыгаваць вельмі важна, — распавядае Аляксандра. — Наведнікі модных выстаў і фэшн-шоу за мяжой цэняць адзенне, што мае ідэю, канцэпт, які стаіць за дызайнерскай сукенкай. Яны заўсёды задаюць безліч пытанняў: хто мы, што за марка прадстаўляе Беларусь? Чаму мы робім вопратку ўдвах, чаму робім менавіта такую вопратку і вышываем менавіта так? Чаму стыль такі і чаму назва брэнду такая? Французы намагаюцца зразумець цябе, і калі твая гісторыя ўнікальная, то і твая вопратка робіцца ім цікавай...

А што на радзіме? Прасталінейнае, утылітарнае стаўленне да адзення пачынае паступова змяняцца, упэўнены дызайнеркі. Вырасла цэлае пакаленне крэатыўных дваццацігадовых, якія вандруюць па свеце, але не з'язджаюць канчаткова, абіраючы будаваць еўрапейскі асяродак для жыцця са стылёвымі кавярнямі і прасунутымі арт-прасторамі тут, у Беларусі.



**1. Дызайнеркі Аляксандра Жук і Дарына Вадап'янава. / Les designers Aliaksandra Zhuk et Daryna Vodopyanava.**
**2–5. З калекцыі «Міро». / De la collection «Miró».**
*Фота Артура Матальянца і Елізаветы Бахурэвіч. / Les photos d'Artur Motolyanets et d'Elisabeth Bakhurevich.*

Lors de la semaine de mode slave à Paris et au Salon «Who's next» les styliciennes biélorusses ont présenté une collection dédiée à Joan Miró (une grande rétrospective de l'artiste a d'ailleurs été ouverte cette année au Grand Palais — c'est comme si la tendance flottait dans les airs). Les robes et les manteaux portent des traits caractéristiques de ZIBRA — le mariage de la couleur et de la silhouette minimalistes à un décor flamboyant et expressif.



5.

— Le choix de textiles n'est pas évident au Bélarus. Souvent, on est obligé de partir non pas de l'idée, mais des tissus disponibles, et ensuite, on réfléchit à ce qu'on pourrait en faire, — dit Aliaksandra Zhuk. — Il est difficile chez nous de trouver un imprimé original ou de reproduire un dessin sur un tissu. C'est pourquoi nous réalisons des dessins et des broderies à la main. Une simple robe bleue – ce n'est pas intéressant, et avec une broderie multicolore et en volume, avec un tressage structuré elle se transforme... La couture est intentionnellement grossière, elle reflète justement la jeunesse de notre marque, son essence.

Comment le public parisien réagit-il au design excentrique biélorusse?

— J'apprends le français et à Paris j'essayais de pratiquer la langue, car il est très important de discuter avec des clients potentiels, de capturer l'attention, de les intriguer, — explique Alexandra. — Les visiteurs d'expositions de mode et de fashion-shows à l'étranger apprécient les vêtements qui ont une idée, un concept, qui est derrière une robe de styliste. Ils posent toujours de nombreuses questions de savoir qui nous sommes, quelle est cette marque qui représente le Bélarus? Pourquoi nous réalisons nos créations à deux, et pourquoi précisément cette création et pourquoi nos broderies sont ce qu'elles sont? Pourquoi un tel style ou d'où vient le nom de la marque? Les Français essayent de te comprendre, et si ton histoire est unique, et bien ton ouvrage leur paraîtra plus intéressant...

Et qu'en est-il au Bélarus? Le rapport linéaire, utilitaire à l'égard des vêtements commence petit à petit à changer, en sont persuadées les styliciennes. Toute une génération de jeunes créatifs a grandi, âgés d'une vingtaine d'années, ils voyagent à travers le monde, mais ne partent pas définitivement, ils choisissent de construire un cadre de vie européen avec des cafés originaux et des espaces d'arts branchés ici, au Bélarus.

# Беларускія месцы Парыжа
# Endroits biélorusses à Paris



**→[1] Кароль, вялікі князь літоўскі ў Рэчы Паспалітай, абат у Парыжы**
На плошчы Сен-Жэрмен знаходзіцца адна з самых старых хрысціянскіх цэркваў Парыжа, унутры якой пахаванае сэрца караля польскага і вялікага князя літоўскага Яна II Казіміра з дынастыі Ваза. Ён адрокся ад прастола ў 1668 годзе, а ў 1669-м пераехаў у Францыю. У Парыжы стаў 76-м абатам у Сен-Жэрмен-дэ-Прэ (ад абацтва захавалася толькі царква). Цела пахаванае ў Вавельскім кафедральным саборы.

**→ Le roi, grand-duc de Lituanie dans la République des Deux Nations, un abbé à Paris**
Sur la place Saint Germain se trouve une des plus anciennes églises chrétiennes où est inhumé le cœur du roi de Pologne et grand-duc de Lituanie Jean II Casimir de la dynastie de Vasa. Il abdiqua en 1668 et, en 1669, il se retira en France. À Paris il devint abbé commendataire de l'abbaye Saint-Germain-des-Prés de Paris (il ne reste plus de l'abbaye que l'église). Son corps est inhumé dans la cathédrale du Wawel




**→[2] Вуліца Радзівілаў**
У XVIII стагоддзі тут стаяў палац, што належаў знакамітай дынастыі. Сёння пра гэта нагадвае толькі назва вуліцы.

**→ Rue Radziwiłł**
Au XVIII il y avait un palais ici qui appartenait à la célèbre famille Radziwiłł. Aujourd'hui, il n'y a que le nom de la rue qui le rappalle.

**→[3] Памяткі Адама Міцкевіча**
У Парыж Адам Міцкевіч эміграваў пасля падаўлення лістападаўскага паўстання — у 1832 годзе. Нягледзячы на вялікае імкненне вярнуцца на Радзіму, у гэтым горадзе ён быў і пахаваны на польскіх могілках у

Манмарансі. У 1900-м рэшткі паэта перанесены ў Вавельскі кафедральны сабор. У 1929 годзе на плошчы Альма быў усталяваны помнік паэту, зараз ён знаходзіцца на набярэжнай Сены, недалёка ад Эйфелевай вежы. Яго аўтар Антуан Бурдэль.



Статуя паэта размешчана на высокай калоне, у верхняй частцы якой знаходзіцца барэльеф, прысвечаны эпічнай паэме «Гражына». Падножжа калоны ўпрыгожваюць шэсць барэльефаў: героі паэм «Конрад Валенрод» і «Дзяды», алегорыя «Падзел Рэчы Паспалітай», увасобленая ў вобразах трох дзяўчат, адпаведна тром часткам былой краіны, што атрымалі Расія, Аўстрыя і Прусія. Мемарыяльная дошка з імем Адама Міцкевіча ўсталявана ў двары Каледж-дэ-Франс, дзе ён выкладаў і быў загадчыкам кафедры славянскіх літаратур. У зале, дзе адбываліся заняткі, у 1884 годзе з'явілася і скульптурная выява паэта. У Польскай бібліятэцы Парыжа размешчаны Музей Адама Міцкевіча, заснаваны ў 1903 годзе. Там захоўваюцца яго асабістыя рэчы і архіў яго запісаў — рукапісы твораў і дакументы. У 2015 годзе ў мінскім Доме Ваньковічаў праходзіла выстава «Прарок свайго часу. Адам Міцкевіч. Ілюстрацыі і медалі» з фондаў Музея і Польскай гістарычнай і літаратурнай супольнасці Парыжа, ініцыяваная пасольствам Беларусі ў Францыі.

→ **Adam Mickiewicz**

Adam Mickiewicz émigra à Paris en 1832 après l'écrasement de l'insurrection de novembre. Malgré son grand désir de retourner dans son pays natal, il fut enterré dans cette ville au cimetière de Montmorency. En 1900, la dépouille du poète est transférée dans la cathédrale du Wawel. En 1929, un monument au poète fut érigé sur la place Alma, à présent, il se trouve sur le quai de la Seine, non loin de la tour Eiffel. Son auteur est Antoine Bourdelle. La statue du poète est posée sur une haute colonne dont le haut-relief est dédié au poème épique «Grażyna». Le pied de la colonne est orné par six bas-reliefs: les personnages des poèmes «Konrad Wallenrod» et «Dziady», une allégorie «Partage de la République des Deux Nations», incarnée par l'effigie de trois jeunes filles correspondant aux trois parties de l'ancien pays obtenues par la Russie,



l'Autriche et la Prusse.
Une plaque commémorative avec le nom d'Adam Mickiewicz est installée dans la Cour du Collège de France où il enseignait et dirigeait la chaire des langues slaves. Une sculpture du poète fut installée en 1884 dans la salle où il avait donné des cours.
Le musée Adam Mickiewicz créé en 1903 est abrité dans la Bibliothèque polonaise de Paris. Au musée se trouvent ses affaires personnelles et les archives de ses notes – œuvres écrites à la main et documents. En 2015, à l'initiative de l'Ambassade du Bélarus à Paris, une exposition «Le prophète de son temps Adam Mickiewicz. Illustrations et médailles» des collections du Musée et de la Société Historique et Littéraire Polonaise à Paris était organisée dans la maison de Wańkowicz à Minsk.

**→ [4] Знак Напалеона Орды**

Пасля задушэння паўстання 1830 – 1831 гадоў Напалеон Орда эміграваў у Францыю, дзе правёў 24 гады свайго жыцця. Вярнуўся на радзіму толькі ў 1856-м па амністыі.




У Парыжы Орда браў урокі кампазіцыі і игры на фартэпіяна ў Шапэна і Ліста, таксама атрымаў мастацкую адукацыю ў студыі вядомага майстра архітэктурнага пейзажу П'ера Жэрара.
На доме па вуліцы Луі ле Гран, дзе Орда працаваў у 1843–1847 гадах, у 2007-м, калі адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння творцы, усталявана мемарыяльная дошка.

**→ Signe de Napoléon Orda**

Après l'écrasement de l'insurrection de 1830-1831, Napoléon émigra en France où il passa 24 années de sa vie. Il ne retourna au pays qu'en 1856 suite à l'amnistie.
À Paris Orda prenait des cours de composition et de piano à Chopin et List, il étudiait la peinture dans l'atelier du maître reconnu de paysage architectural Pierre Girard. Lors de la célébration du bicentenaire de la naissance de l'auteur en 2007, une plaque commémorative était apposée sur un bâtiment rue Louis le Grand où il avait travaillé en 1843-1847.

**→ [5] Месца вучобы Ігната Дамейкі**

Непадалёк ад Люксембургскага сада знаходзіцца будынак Нацыянальнай вышэйшай горнай школы, дзе вучыўся навуковец-даследчык, геолаг, рэктар Чылійскага ўніверсітэта і Нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка, які эміграваў у Парыж пасля падаўлення паўстання 1830 – 1831 гадоў. Пасольства Беларусі ў Францыі арганізавала ў Міры выставу калекцыі мінералаў і арыгінальных дакументаў «Ігнат Дамейка – тытан навукі» з фондаў Музея мінералогіі Парыжа. Таксама дзякуючы дзейнасці амбасады для музея Дамейкі ў Беларусі былі атрыманы экспанаты з фондаў Горнай школы і ад нашчадкаў даследчыка.

**→ L'endroit où Ignacy Domeyko faisait ses études**

Non loin du Jardin du Luxembourg se trouve le bâtiment de l'École nationale supérieure des mines de Paris où faisait ses études Ignacy Domeyko, chercheur, géologue, minéralogiste, recteur de l'Université de Chili et Héros national de Chili, qui émigra à Paris après l'écrasement de l'insurrection de 1830 – 1831. L'Ambassade du Bélarus en France a organisé à Mir une exposition de la collection de minéraux et documents originaux «Ignacy Domeyko – titan de la science» des fonds du Musée de Minéralogie de Paris. Egalement, grâce à l'Ambassade des pièces



